

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ

# Беларусь і СВЕТ

2021 № 1

*Веснік Беларускай Акадэміі*

***Філасофія***

***Паліталогія і сацыялогія***

***Эканоміка і права***

***Гісторыя і культуралогія***

***Філалогія. Мовазнаўства***

***Педагогіка, псіхалогія, адукацыя***

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ

# Беларусь і Свет

## навуковы альманах

***ФІЛАСОФІЯ***

***ПАЛІТАЛОГІЯ І САЦЫЯЛОГІЯ***

***ЭКАНОМІКА І ПРАВА***

***ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ***

***ФІЛАЛОГІЯ. МОВАЗНАЎСТВА***

***ПЕДАГОГІКА, ПСІХАЛОГІЯ, АДУКАЦЫЯ***

**№ 1 / 2021**

# СКЛАД РЭДКАЛЕГІІ



***Спасылка на часопіс пры выкарыстанні яго матэрыялаў абавязковая. Першасная (даведачная) версія часопіса "Беларусь і Свет. Веснік Беларускай Акадэміі" - гэта версія, апублікаваная на сайце Беларускай Акадэміі www. ba.edu.ue.***

**Адрас рэдакцыі**: ul. Ciepła 40 lok. 15

15-472 Białystok. Polska

e-mail:biswba2020@gmail.com

ISBN 978-83-927045-6-0

# ЗМЕСТ

## ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ



## ФІЛАЛОГІЯ. МОВАЗНАЎСТВА



## ПЕДАГОГІКА, ПСІХАЛОГІЯ, АДУКАЦЫЯ

# Ад рэдакцыі

Паважаныя калегі, шаноўныя сябры!

Вашай увазе прпануецца першы нумар альманаху **"Беларусь і свет. Веснік Беларускай Акадэміі"** (далей - *БіС ВБА*), падрыхтаваны беларускімі выкладчыкамі і навукоўцамі, якія жывуць у Беларусі і па за яе межамі і аб'яднаныя ў адукацыйна-навуковую ініцыятыву ***Беларуская Акадэмія***.

***Беларуская Акадэмія*** абрала сваёй місіяй спрыянне развіццю беларускага грамадства праз адукацыйную і навуковую дзейнасць. Дзеля гэтага сябры Акадэміі імкнуцца захаваць і ўмацаваць беларускую акадэмічную супольнасць, акадэмічныя свабоды і традыцыі; стварыць аснову для набыцця беларускай моладдзю вышэйшай адукацыі па еўрапейскіх стандартах на базе беларускай вышэйшай школы і беларускіх культурных традыцый; дапамагаць развіццю навуковых пошукаў і абараняць свабоду навуковай думкі.

***БіС ВБА*** - афіцыйнае выданне *Беларускай Акадэміі*, мэтай якога з'яўляецца заснаванне і развіццё адмысловай пляцоўкі для вольнай публікацыі і адказнага абмяркавання артыкулаў па найбольш актуальных пытаннях сучаснасці, перш за ўсё – з пункту гледжання таго, што адбывалася, адбываецца і будзе адбывацца ў Беларусі. Праблемнае поле вызначае і профіль публікацый: альманах змяшчае арыгінальныя навуковыя працы па філасофіі, эканоміцы, праву, сацыялогіі, паліталогіі, гісторыі, культуралогіі і мастацтвазнаўству, педагогіцы і псіхалогіі, філалогіі і іншых галінах гуманітарнай навукі. Разам з тым, спектр публікацый можа быць пашыраны, улічваючы навуковыя інтарэсы як сяброў *Беларускай Акадэміі*, так і калег, якія зацікаўленыя ў вольным выказванні сваіх навуковых ідэй і меркаванняў.

Усе артыкулы, якія друкуюцца ў альманаху, праходзяць абавязковую працэдуру рэцэнзавання. Рэцэнзентаў абірае Рэдакцыйная Рада з ліку сяброў і партнёраў *Беларускай Акадэміі*, якія з'яўляюцца прызнанымі навуковымі экспертамі па дадзенай праблематыцы. БіС ВБА – шматмоўнае выданне: да публікацыі прымаюцца тэксты на беларускай, ангельскай, рускай і польскай мовах.

У першы нумар альманаху, апрача іншых матэрыялаў, увайшлі артыкулы, што абмяркоўваліся на Першай статутавай навукова-практычнай канферэнцыі *Беларускай Акадэміі* “**Беларусь і свет: агульнае і спецыфічнае (актуальныя напрамкі даследванняў)**”, якая прайшла ў ан-лайн фармаце 12 сакавіка 2021 года. З секцыяў той канферэнцыі паўсталі першыя раздзелы часопісу, якія будуць пакрысе пашырацца і дапрацоўвацца з улікам патрабаванняў сучаснасці.

Да публікацыі прымаюцца арыгінальныя тэксты на беларускай, польскай, рускай і ангельскай мовах з прыкладаннем звестак пра аўтара (імя і прозвішча на мове артыкула і ангельскай), назвы, анатацыі і ключавых словаў на мове арыгінала і на ангельскай. Афармленне тэкстаў, спасылак і бібліяграфіі робіцца па ўзору публікаваных ў альманаху артыкулаў.

Рэдакцыя пакідае за сабой права адхіляць дасланыя ў яе адрас матэрыялы, калі яны не адпавядаюць навуковаму ўзроўню альманаха, або аформлены без уліку патрабаванняў да публікацыі.

Запрашаем да знаёмства з артыкуламі і далейшага супрацоўніцтва ўсіх навукоўцаў, выкладчыкаў і даследчыкаў, каму цікава Беларусь і праблемы сучаснага грамадства.

Рэдакцыя

ФІЛАСОФІЯ

Марина Можейко[1]

# Язык и власть: белорусский язык в контексте социокультурных трансформаций

Marina Mojeiko

# Language and Power: Belarusian Language in the Context of Socio-Cultural Transformations

**Ключевые слова:** энкратический язык, акратический язык, языковой пуризм.

**Key words:** sociolect, encratic language, acratic language, linguistic purism.

**Abstract:** The phenomenon of versification of linguistic practices in the context of social relations is analyzed. The structure of the national language is revealed by the criterion of its attitude to the phenomenon of power. In light of this, the encratic and acratic languages are compared, and the intentions of linguistic purism are analyzed. All problems are considered on the basis of the Belarusian language.

Современная философия языка, равно как и социолингвистика, опираются на признание того факта, что развитие любого национального языка – это процесс, протекающий под воздействием детерминант социокультурного характера. В силу этого, по формулировке У. Брайта, гуманитаристика еще в XX в. отказалась от рассмотрения языка «как единообразного, однородного и монолитного по своей структуре»[2].

Разумеется, было бы недопустимым упрощением искать непосредственное соответствие между социальной структурой общества и социолектами: соотношение между ними гораздо сложнее, и сегодня в центре внимания социолингвистики – как раз сложный «механизм, действующий от социальной структуры через мировоззрение на речевые установки и стиль»[3].

## 1. *Язык и власть: языки энкратические и акратические*

Воспользуемся для анализа обрисованной проблематики инструментарием современной философии языка. Моделируя функционирование языка как социального феномена, Р. Барт

[1] Белорусский государственный университет культуры и искусств, доктор философских наук, профессор, Минск, Республика Беларусь

[2] У. Брайт, *Введение: параметры социолингвистики*, [в:] *Новое в лингвистике. Вып VII: Социолингвистика*, Прогресс, Москва 1975, с. 34.

[3] Дж.Л.Фишер, *Синтаксис и социальная структура: Трук и Понапе*, [в:] *Новое в лингвистике. Вып VII: Социолингвистика*, Прогресс, Москва 1975, с. 419.

предлагает в качестве критерия его дифференциации такой маркер, как отношение к власти.

С точки зрения Р. Барта, ни один из функционирующих в обществе социолектов не может быть нейтрален по отношению к власти: и потому следует «разграничить два вида дискурса, две группы социолектов: внутривластные (осененные властью) и вневластные», – их Р. Барт именует соответственно энкратическими и акратическими языками[1]. Энкратические «развиваются, получают свои характерные черты в свете (или под сенью) Власти»[2], акратические же – вне этой сени.

Важно, что «посредующее звено между властью и языком носит характер не политический, а культурный»: связь языка с властью, по Р. Барту, «очень редко бывает прямой, непосредственной; в законе, допустим, формулируется запрет, но его дискурс уже опосредован целой правовой культурой, более или менее общепринятым *рацио*»[3]. Этот опосредующий комплекс Р. Барт называет доксой: «*докса* и является тем культурным, или дискурсивным, опосредованием, через которое осуществляется речь власти (или не-власти)»[4].

По внутренним своим параметрам, энкратический дискурс «согласуется с доксой, подчиняется ее кодам», акратический же – не только «резко обособлен, отделен от доксы»[5], но даже «в своих высказываниях всегда в той или иной мере направлен против доксы» и потому «в любых своих видах всегда *пара-доксален*», но при этом никогда «не связан прямо … с критикой власти»[6].

С точки же зрения параметров внешних, энкратический язык, по оценке Р. Барта, «вездесущ» и всепроникающ: «им пропитаны процессы товарного обмена, символические ритуалы, формы досуга, социосимволическая сфера (особенно, конечно, в обществах, где имеется массовая культура)»[7]. Тем самым, это вовсе не язык правящих классов, но язык всего принимающего сложившийся порядок населения (представители любых слоев общества его «могут заимствовать» и «принимать без сопротивления»)[8], в то время как акратический язык

---

[1] Р. Барт, *Разделение языков,* [в:] Р. Барт. *Избранные работы. Семиотиа. Поэтика*. Прогресс, Москва 1989, с. 529.

[2] Р. Барт, *Война языков,* [в:] Р. Барт. *Избранные работы. Семиотиа. Поэтика*. Прогресс, Москва1989, с. 536-537.

[3] Р. Барт, *Разделение языков,* [в:] Р. Барт. *Избранные работы. Семиотиа. Поэтика*. Прогресс, Москва 1989, с. 529.

[4] Ibidem, с. 529.

[5] Р. Барт. *Война языков*. В: Р. Барт. Избранные работы. Семиотиа. Поэтика. Прогресс, Москва 1989, с. 537.

[6] Р. Барт. *Разделение языков*. В: Р. Барт. Избранные работы. Семиотиа. Поэтика. Прогресс, Москва 1989, с. 529.

[7] Ibidem, с. 530.

[8] Ibidem, с. 530.

всегда отрефлексирован и системно организован: «присущая ему энергия разрыва порождена его систематичностью»[1].

И тот и другой социолект, по Р. Барту, обеспечивает определенную грань мировоззренческой идентичности: «языковая ограда, как и всякая другая, укрепляет и ободряет тех, кто внутри нее»[2].

### *2. Тарашкевица и наркомовка: акратический и энкратический языки в белорусском контексте*

Как известно, первая полная кодификация белорусского языка была осуществлена Б.А. Тарашкевичем: в 1918 выходит в свет «Беларуская граматыка для школ», где впервые эксплицитно определены грамматические нормы литературного белорусского языка. Официально эта грамматика (*тарашкевица*) практиковалась вплоть до реформы белорусского правописания, которая была проведена в БССР в 1933 г. и имела два неблагоприятных для развития белорусского языка следствия (в развитии любого языка они были бы неблагоприятны): реформа упростила белорусское правописание и целенаправленно сблизила орфографические нормы белорусского и русского языков. Современные филологи подчеркивают, что правила, введенные реформой 1933 г., искажали нормы белорусского литературного языка путём искусственного наложения на них правил языка русского[3], что, разумеется, придает реформе характер, далеко выходящий за пределы лингвистики[4].

Официальный белорусский язык после реформы 1933 г. может быть оценен как энкратический, т. е. включенный в санкционированную государством языковую практику, в то время как *тарашкевица* на сегодняшний день являет собой типичный пример языка акратического, альтернативного официальному. Именно в этом контексте возникло современное самоназвание *тарашкевицы* – *классическое правописание* (*клясычны правапіс*), что имплицитно содержит интерцию на ее приоритетное использование. Энкратическому языку акратический дает название *наркомовка* (или *чернушевица* по имени действовавшего в 1933 г. наркома просвещения Д. Чернушевича), подчеркивая связь этой версии кодификации с советской языковой реформой, что – как результат русификации – оценивается негативно.

---

[1] Р. Барт, *Война языков,* [в:] Р. Барт. *Избранные работы. Семиотиа. Поэтика*. Прогресс, Москва1989, с. 537.

[2] Р. Барт, *Разделение языков,* [в:] Р. Барт. *Избранные работы. Семиотиа. Поэтика*. Прогресс, Москва 1989, с. 531.

[3] Б.А. Плотнікаў, ЛА. Антанюк, *Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум*, Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом, Мінск 2003, с. 88.

[4] С.Н. Запрудский, *Научный и политический аспекты реформы белорусского языка 1933 года*, [в:] *Славяноведение*, 2007, № 3, с. 73-88.

Отличия между *тарашкевицей* и *наркомовкой* касаются, в первую очередь, орфографии и фонетики, но имеются также различия в лексике и словообразовании (например, *чай* и *гарбата*), причем для официальной версии характерна бóльшая близость с русским языком, в то время как для альтернативной – с западными языками (в первую очередь, с польским).

В результате длительной русификации в лексике *наркомовки* обнаруживаются вкрапления слов хоть и с белорусскими корнями, но с русскоязычной структурой, замены белорусских слов на аналогичные по значению русские лексемы (*адмяніць* вместо *скасаваць, саставіць* вместо *скласці*), присутствие в белорусском языке русских топонимов: *Мінск* вместо *Менск, Брэст* вместо *Бярэсце, Германія* вместо *Нямеччына* и мн. др.[1].

Современный «Словарь социолингвистических терминов», описывая «смешанные форм речи», относит *наркомовку* именно к таковым[2].

При этом, как отмечает Ф. Микинс, смешанные языки формируются на фоне радикальных социальных изменений в двуязычных контекстах (где языковое понимание фактически уже достигнуто) и выполняют не столько коммуникативную функцию, сколько функцию маркера социально-групповой идентичности[3]. Действительно, практикование наркомовки после реформы 1933 г. выступало маркером солидаризации с тенденцией русифиации, а тем самым – и принадлежности к конкретной социальной группе.

К смешанным языкам относится и *трасянка*, также выступая маркером конкретной групповой идентичности. Она начинает активно формироваться в конце 20-х – начале 30-х гг. XX вв., когда под знаком *борьбы с нацдемовщиной* были свернуты процессы развития национальных культур СССР; политика коренизации, выдвигавшая на руководящие должности национальные кадры, осталась в прошлом, и официальным языком (в первую очередь, языком советской бюрократии) стал русский.

Г.А. Цыхун отмечает и прагматическую подоплеку ситуации, «языковой конформизм говорящих …, когда индивидуум вынужден приспосабливаться к … языковой ситуации (сознательно или бессознательно ориентируясь на те … нормы речи, которые он считает

[1] С. Станкевіч, *Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу*, Навука і тэхніка, Мінск 1994, 79 с.

[2] *Близкородственное двуязычие,* [в:] *Словарь социолингвистических терминов* Институт языкознания Российской Академии наук, Москва, 2006, с. 33.

[3] F. Meakins, *Mixed languages*, [in:] *Contact Languages: A Comprehensive Guide*, Mouton de Gruyter Publisher, Berlin 2013, p. 159-228.

престижными)»[1]. Кодом причастности (и допуском) к руководящей советской элите было использование русского языка.

Трасянку, безусловно, можно трактовать как энкратический язык, причем по всем критериям: она возникает с целью адаптациии к советской власти (после свертывания политики коренизации), имеет в своей основе интенцию вхождения в систему *руководящих кадров*, характеризуется абсолютной безрефлексивностью со стороны говорящих и отличается некритичным принятием *доксы*.

### *3. Феномен языкового пуризма и трансформации современной белорусской лексики*

Все мы знаем о равенстве действия и противодействия, так что маятник неизменно должен был качнуться в противоположную сторону, – к концу XX в. в белорусской культуре оформляется в отношении белорусского языка тенденция *языкового пуризма*. Это общая тенденция в развитии языков: *пуризм* (франц. purisme, от лат. purus – чистый) – стремление очистить литературный язык от иноязычных заимствований[2]. Собственно в фокус критики пуризма попадают также и диалектизмы, и просторечия, и элементы арго, но на волне национального подъема внимание к национальному языку и борьба за его чистоту актуализируются особо, иноязычные заимствования воспринимаются наиболее остро (особенно – в ситуациях несбалансированного и асимметричного билингвизма) и вычищаются особенно старательно и с идеологической подоплекой).

Так, применительно к белорусскому языку в конце XX – начале XXI вв. «пуристические тенденции особенно распространяются на лексику, заимствованную из русского языка»[3].

Разворачивание пуристических тенденций в развитии современного белорусского языка проявляет себя в следующих процессах.

1. Возрождение автохтонных лексем, считавшихся устаревшими: И.Р. Шкраба отмечает актуализацию «ресурсов архаической лексики, которая постепенно входит в стадию “ренессансного” существования»[4]. По оценке А.А. Морозовой, в этом проявляет себя общая тенденция «возвращения некоторых лексических единиц в национальные языки народов бывших советских республик» с

[1] Г. Цыхун, *Языковая ситуация и смешанные формы речи в Беларуси,* [в:] *Съпоставително езикознание*, 2006, № 1 (XXXI), с. 60.
[2] *Пуризм (Языковой пуризм),* [в:] *Словарь социолингвистических терминов*, Институт языкознания Российской Академии наук, Москва 2006, с. 176.
[3] А.А. Морозова, *Лексическая вариантность как лингвистический феномен (на материале современного белорусского языка),* [в:] *Актуальные вопросы филологических наук*, Издательство «Молодой ученый», Чита 2011, с. 98.
[4] І.Р. Шкраба, *Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове,* Асар, Мінск 2004, с. 163.

конца XX века, когда многие национальные языки бывшего СССР обрели статус государственных[1]. Подобная трансформация лексики воспринимается как возвращение к автохтонным лексемам взамен русифицированных (*атрамант* – на смену *чарніла, адсотак* – на смену *працэнт*, *цытрына* вместо *лімон* и т. п.

2. Активное формирование неологизмов, вызванное, по наблюдению В.П. Краснея, не только необходимостью номинации новых реалий, но и желанием дистанцироваться от русизмов[2], в рамках чего формируется органичная для белорусского языка лексика взамен неестественно звучащих в ней русизмов: *ходнік* – вместо *тратуар*, *зэльня* вместо *аптэка*, *наклад* вместо *тыраж*, *улётка* вместо *лістоўка, мінак* – вместо *прахожый*, *вітальня* вместо *прыхожая* (последние два примера демонстрируют также отказ от практикуемой в русском языке субстантивации причастий, для белорусского языка не характерной). Эксперты отмечают, что новые слов, которые «противопоставляются русизмам», несут в себе подчеркнуто приподнятую в аксиологическом плане семантику: *дарога да школы (да лякарні, да царквы) – шлях да асьветы (да ацалення, да Бога*[3]*)*. Для акратической лексики тарашкевицы характерны неологизмы, целенаправленно дистанцирующие белорусские лексемы от русских: *абэцэда* вместо *алфавіт, лядоўня* вместо *халадзільнік, слухаўка* вместо *тэлефонная трубка, спампаваць* вместо *скачаць* и др. А.А. Сомин отмечает в этом контексте тенденцию «намеренно сделать белорусский язык менее понятным, “элитарным”», так как «некоторым носителям белорусского языка присущ языковой пуризм, имеющий целью сознательную дивергенцию русского и белорусского языков»[4].

3. Проникновение в литературный язык диалектных лексем (*лецішча* вместо *дача*, *валізка* вместо *чамадан*, *імбрычак* вместо *чайнік*)

Таким образом, по оценке А.А. Морозовой, имеющие место пуристические тенденции, в целом, детерминированы «стремлением ограничить и в некоторой степени ослабить очевидную близость части общего с русским языком словарного фонда»[5]. В свете обрисованной тенденции в сегодняшнем языковом пуризме наблюдается выраженная

[1] А.А. Морозова, *Лексическая вариантность как лингвистический феномен (на материале современного белорусского языка)*, [в:] *Актуальные вопросы филологических наук*, Издательство «Молодой ученый», Чита 2011, с. 98.

[2] В.П. Красней, *Актыўная і пасіўная лексіка*, [у:] *Беларуская мова і літаратура*, 2007, № 10, с. 40.

[3] А.А. Морозова, *Лексическая вариантность как лингвистический феномен (на материале современного белорусского языка)*, [в:] *Актуальные вопросы филологических наук*, Издательство «Молодой ученый», Чита 2011, с. 99.

[4] А.А. Сомин, *Языковая рефлексия в современной Беларуси сквозь призму комментариев в интернет-СМИ*, [в:] Вестник Российского государственного гуманитарного университета (Серия: Литературоведение. Языкознание. Культурология), 2015, №1, с. 82.

[5] А.А. Морозова, *Лексическая вариантность как лингвистический феномен (на материале современного белорусского языка)*, [в:] *Актуальные вопросы филологических наук*, Издательство «Молодой ученый», Чита 2011, с. 99.

асимметричность: при последовательной элиминации русизмов, полонизмы воспринимаются абсолютно лояльно. Весьма красноречиво в данном контексте подмеченное Н. Б. Мечковской обстоятельство: «белорусский язык газеты «Наша ніва» (1906–1915) был значительно ближе к русскому, чем современный белорусский язык. На каждой ее полосе есть 10–20 слов, которые сейчас называют “русизмами”», и, в целом, «само формирование и последующая история литературных языков – это история рукотворной дивергенции письменной речи по отношению к русскому и (в меньшей мере) к польскому языкам»[1]. Более того, по оценке Е.А. Потехиной, «в целях освобождения белорусского языка от русизмов активизируется заимствование из польского языка, причём необязательно польских лексем» (не *пасол*, но *амбасадар*; не *карта*, но *мапа* и т. п.)[2].

Это прямо иллюстрация к концепции Р. Барта: акратический язык всегда рефлексивен, его носители строят свои языковые стратегии сознательно и целеположенно, в отличие от языка энкратического, энкратичность которого может не осознаваться (и, как правило, не осознается) практикующими его субъектами, подобно тому, как мольеровский г-н де Журден не знал, что *говорит прозой*.

### *4. Язык как маркер групповой идентичности в белорусском контексте*

В такой ситуации функция языка выступать маркером групповой идентичности реализуется максимально полно: политическую окрашенность могут принимать даже морфологические вариации лексики (энкратическое *будзем* и акратическое *будзьма*).

Более того, одна-единственная буква может выражать социально-политические установки говорящего (например, *маю намер працаваць на гэтай кафедры – маю намер працаваць на гэтай катэдры*).

Даже в аксиологически, казалось бы, нейтральном метеорологическо-описательном тексте *сьнег ідзе* наличие мягкого знака выводит его за пределы нейтральности и подчеркнуто демонстрирует позицию говорящего в отношении реформы 1933 года, убравшей мягкий знак, служивший в белорусском языке для фиксации ассимилятивной мягкости согласных, и тем снивелировавшей – в числе

[1] Н.Б. Мечковская, *Белорусская трасянка и украинский суржик в аспекте ареальной лингвистики и социальной типологии языков*, [в:] *Современная славистика и научное наследие С.Б. Бернштейна*, Институт славяноведения РАН, МГУ им. М.В. Ломоносова, Москва 2011, с. 330.

[2] Е.А. Потехина, *Обучение белорусскому языку в условиях белорусско-белорусского двуязычия (проблемы обучения белорусскому языку как иностранному)*, [в:] *Исследование славянских языков и литератур в высшей школе: достижения и перспективы*, МГУ им. М. В. Ломоносова, Москва 2003, с. 170-173.

прочих – этот аспект проявления специфики белорусского языка в отношении русского.

**Выводы**

Современный белорусский язык функционирует в режиме двух социолектов: энкратического и акратического, причем имеет место большей частью неотрефлексированное использование энкратических языковых форм (хотя возможны и целеположенные варианты) и четко осознанное применение форм акратических, где неосознанные варианты полностью отсутствуют.

**Библиография:**

**Литература:**

Meakins F., Mixed languages, [in:] Contact Languages: A Comprehensive Guide, Mouton de Gruyter Publisher, Berlin, 2013, p. 159-228.

Барт Р., Война языков, [в:] Р. Барт. Избранные работы. Семиотиа. Поэтика. Прогресс, Москва,1989, с. 535-540.

Барт Р., Разделение языков, [в:] Р. Барт. Избранные работы. Семиотиа. Поэтика. Прогресс, Москва, 1989, с. 519-534.

Близкородственное двуязычие, [в:] Словарь социолингвистических терминов Институт языкознания Российской Академии наук, Москва, 2006, с. 33.

Брайт У., Введение: параметры социолингвистики, [в:] Новое в лингвистике. Вып VII: Социолингвистика, Прогресс, Москва 1975, с. 34-41.

Запрудский С.Н., Научный и политический аспекты реформы белорусского языка 1933 года, [в:] Славяноведение, 2007, № 3, с. 73-88.

Красней В.П., Актыўная і пасіўная лексіка, [у:] Беларуская мова і літаратура, 2007, № 10, с. 38-41.

Мечковская Н.Б., Белорусская трасянка и украинский суржик в аспекте ареальной лингвистики и социальной типологии языков, [в:] Современная славистика и научное наследие С.Б. Бернштейна, Институт славяноведения РАН, МГУ им. М.В. Ломоносова, Москва, 2011, с. 329-331.

Морозова А.А., Лексическая вариантность как лингвистический феномен (на материале современного белорусского языка), [в:] Актуальные вопросы филологических наук, Издательство «Молодой ученый», Чита, 2011, с. 96-100.

Плотнікаў Б.А., Антанюк Л.А. , Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум, Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом, Мінск, 2003, 672 с.

Потехина Е.А., Обучение белорусскому языку в условиях белорусско-белорусского двуязычия (проблемы обучения

белорусскому языку как иностранному), [в:] Исследование славянских языков и литератур в высшей школе: достижения и перспективы, МГУ им. М. В. Ломоносова, Москва, 2003, с. 170-173.

Пуризм (Языковой пуризм), [в:] Словарь социолингвистических терминов, Институт языкознания Российской Академии наук, Москва 2006, с. 176.

Сомин А.А., Языковая рефлексия в современной Беларуси сквозь призму комментариев в интернет-СМИ, [в:] Вестник Российского государственного гуманитарного университета (Серия: Литературоведение. Языкознание. Культурология), 2015, №1, с. 62-86.

Станкевіч С., Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу, Навука і тэхніка, Мінск, 1994, 79 с.

Фишер Дж.Л., Синтаксис и социальная структура: Трук и Понапе, [в:] Новое в лингвистике. Вып VII: Социолингвистика, Прогресс, Москва, 1975, с. 397-421.

Цыхун Г., Языковая ситуация и смешанные формы речи в Беларуси, [в:] Съпоставително езикознание, 2006, № 1, Issue XXXI, с. 55-61.

Шкраба І.Р., Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове, Асар, Мінск, 2004, 240 с.

# ПАЛІТАЛОГІЯ І САЦЫЯЛОГІЯ

Святлана Куль-Сяльверстава[1]

## Палітычныя межы ў сучасным грамадстве: дэфініцыі, мадэлі, функцыі (да пастаноўкі праблемы)

Sviatlana Kul-Sialverstava

## Political borders in modern society: definitions, models, functions (to the problem statement)

**Ключавыя словы:** палітычная мяжа, мадэль, функцыі, Беларусь.

**Key words**: political border, model, functions, Belarus

**Abstract:** The study of political borders as a phenomenon that outlines the life of modern society has become particularly relevant in recent decades. Due to both the processes of globalization, which are changing the map of the world and the emergence of new technologies that make the old models of protecting state borders ineffective, transform their functions and meaning. In 2020, Belarus represented to the world the examples of new use of the border as an instrument of political blackmail and repressions, as well as an ephemeral formation unable to resist new technologies for the dissemination of information and financial resources. The functions of the political border have also changed due to the pandemic - its importance as a cordon sanitaire with relevant procedures and legislation has significantly increased.

Даследванне палітычных межаў, як феномена, які акрэслівае жыццё сучаснага грамадства, у апошнія дзесяцігоддзі набыло асаблівую актуальнасць. Гэта абумоўлена як працэсамі глабалізацыі, якія змяняюць карту свету, так і з'яўленнем новых тэхналогій, якія робяць неэфектыўнымі даўнія мадэлі аховы дзяржаўных межаў, трансфармуюць іх функцыі і сэнс.

У цяперашні момант існуе некалькі дзясяткаў падыходаў да разумення феномена палітычнай мяжы і акрэслення гэтага паняцця. У значнай ступені падыход залежыць ад галіны навуковых ведаў, у рамках якой адбываецца вывучэнне палітычнай мяжы, ад задач, якія стаяць перад такім даследваннем. Так, у палітычнай лімалогіі (навуцы аб межах, ад лац. *limes* – мяжа), якая з'яўляецца часткай палітычнай геаграфіі, мяжа трактуецца як акрэслены геаграфічны аб'ект, мае канкрэтнае месцапалажэнне з уласцівымі геаграфічнымі каардынатамі. Яна можа разглядацца як лінія на карце ці на акрэсленай тэрыторыі, якая лімітуе кампетэнцыі дзяржавы, вызначае тэрытарыяльна абсяг яе паўнамоцтваў.[2] Такі падыход быў характэрны для лімолагаў XIX-

[1] Беластокскі тэхналагічны ўніверсітэт, доктар гістарычных навук, прафесар, Беласток, Польшча

[2] С.И. Дмитриева. *Лимология*. Учебное пособие. Издательско-полиграфический центр Воронежского государственного университета, Воронеж, 2008, с.4.

пачатку XX стст. і часам яшчэ ўжываецца, перш за ўсё, у расійскай лімалогіі. Ежы Баньскі, адзін з вядучых польскіх лімолагаў, у адной з сваіх ранніх прац, абапіраючыся на вопыт, назапашаны сусветнай навукай аб палітычных межах, адзначае, што на сёняшні момант дыскусія аб разуменні феномена дзяржаўнай мяжы фактычна не вядзецца, што існуе класічнае яе акрэсленне як плашчыні, віртуальнай сцяны, якая праходзіць пад простым вуглом да паверхні зямлі, аддзяляючы тэрыторыю асобных дзяржаваў ці вобласці без дзяржаўнай прыналежнасці.[1] Лімалогія найчасцей карыстаецца апісальнымі метадамі, меньш звяртаючы ўвагу на акалічнасці фармавання межаў, пытаннні іх дэмаркацыі і дэлімітаціі. Такі падыход звужае поле даследаванняў і, на нашую думку, не дае магчымасці акрэсліць і асэнсаваць змены ў ролі і функцыях межаў у сучасным грамадстве.

У ваенных навуках палітычная мяжа разглядаецца як плашчыня, якая прасціраецца да стратасферы і ў глыб зямлі і вызначае акрамя тэрыторыі таксама певетраную прастору дзяржавы і яе нетры.[2] Такая дэфініцыя прыстасавана для патрэб арганізацыі аховы дзяржаўнай мяжы, улічвае магчымасці механічнага яе перасячэння, але не ўлічвае наяўнасць новых тэхналогій, найперш, інфармацыйных, для якіх падобная мяжа не з'яўляецца перашкодай. Для ваеннай навукі першаснае значэнне мае геаграфічнае размяшчэнне мяжы, мадэль яе аховы, стратэгічнае значэнне і характарыстыкі прымежнай тэрыторыі.

Побач з названымі дэфініцыямі і падыходамі, якія ўжываюцца ў спецыяльных навуках, існуюць больш шырокія разуменні дзяржаўнай мяжы як палітычнага феномена, які сцісла не звязаны з акрэсленай лініяй на карце, або з дакладнай паветранай і тэрытарыяльнай прасторай. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра межы дзяржаўных інтарэсаў, якія не заўсёды супадаюць з палітычнай мяжой і акрэсліваюцца накірункам знешняй палітыкі краіны. Як прыклад можна адзначыць палітыку Расійскай Федэрацыі ў дачыненні краін з так званай постсавецкай прасторы, падставу якой складае ідэалогія "рускага свету"[3], або дзеянні ЗША на Блізкім Усходзе і ў Азіі[4]; палітыку Кітая ў стасунку да нейтральнай тэрыторыі ў Ціхім акіяне[5] і інш.

---

[1] J. Bański. *Granica w badaniach geograficznych – definicja i próby klasyfikacji,* Przegląd Geograficzny, 2010, 82, 4, s.495-496.

[2] А. Першин, А.Шерстнёв , В. Ярлыченко. *Теория государственной границы*, Москва, 2000, с.1

[3] B. Rezvani. *Russian foreign policy and geopolitics in the Post-Soviet space and the Middle East: Tajikistan, Georgia, Ukraine and Syria*. [w:] *Middle Eastern Studies*, 2020. pp. 1-22.

[4] A.Askerbek, A.Yesdauletova, A. Yesdauletov, A. Alpeissov, S. Adilbekov. Geopolitical interests of the United States of America in the Central Asian Republics, Journal of Advanced Research in Law and Economics, 2019, 10(1), pp. 28-35.

[5] L. Otto. *Introducing maritime security: The sea as a geostrategic space.* [w:] *Advanced Sciences and Technologies for Security Applications*, 2020, pp. 1-11. ; B.Schreer. Towards contested 'spheres of

Можна таксама адзначыць памкненне да інтэрдысцыплінарнага падыхода да вывучэння палітычных межаў, калі пад увагу бярэцца не толькі акрэсленая лінія ці плашчыня мяжы, але таксама прымежныя тэрыторыі ці рэгіёны, на якія палітычныя межы аказваюць уплыў. У гэтым выпадку мяжа разглядаецца як адзін з сістэмаўтваральных фактараў, які вызначае эканамічную, экалагічную, соцыя-культурную сітуацыю ў памежным рэгіёне па адным ці па абодвух баках палітычнай мяжы.

У беларускай навуковай думцы звычайна палітычная мяжа разглядаецца як рубеж, які аддзяляе беларускую тэрыторыю ад суседніх земляў і народаў. Цікаўнасць да праблематыкі палітычных межаў Беларусі вызначылася у час распада СССР і стварэння сувярэннай Рэспублікі Беларусь. У канцы 1980-х-пачатку 1990-х гг. ішоў працэс легітымізацыі межаў Беларусі, іх дэлімітацыя і дэмаркацыя. Адбывалася фармаванне памежнай службы, закладваліся прававыя падставы функцыянавання палітычнай мяжы, як атрыбута незалежнай Беларусі. У сувязі з гэтым з'віўся сваеасаблівы корпус прац па праблемах мяжы і памежжа[1], паўстала некалькі інстытутаў, якія адмыслова займаліся дадзенымі пытаннямі (Цэнтр памежных даследванняў пры Камітэце памежных войскаў РБ, Лабараторыя рэгіянальнай культуры ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы і інш.). Адметнасцю беларускага дыскурсу ў вывучэнні мяжы стала пільная ўвага да феномену памежжа, Яно разглядалася як у шырокім сэнсе, калі памежжам была ўся Беларусь, так і ў вузкім, калі асобна вылучаліся зоны кантакту беларусаў з суседнімі народамі. У сувязі з гэтым Мікалай Бяспамятных звярнуў увагу на наяўнасць асобных “нацыянальных праектаў” памежжа. На ягоную думку, пры такім падыходзе памежжа не разглядаецца як асобны адметны феномен, а толькі як ускраіна нацыянальнай тэрыторыі, мовы, культуры, традыцый[2].

Характарызуючы мадэлі палітычнай мяжы, найчасцей звяртаюць увагу на яе геафізічныя характарыстыкі (натуральная ці штучная, простая ці ламаная), ступень легітымнасці і стабільнасці, узровень празрыстасці, генезіс (гісторыя стварэння і змен)[3]. Існуюць таксама розныя падыходы да класіфікацыі межаў, у падставу якіх могуць быць закладзены не толькі іх геафізічныя асаблівасці і ступень аховы, але

influence' in the western pacific: Rising China, classical geopolitics, and Asia-pacific stability. [w:] *Geopolitics*, 2019, 24(2), pp. 503-522 .

[1] Аб гэтым падрабязней глядзі: S. Sialverstava. *Badania białorusko-polskiego pogranicza na Białorusi na przełomie XX-XXI wieku*. [w:] *Polskie pogranicza w procesie przemian*. pod red. Zbigniewa Kurcza, Wrocław,Wydaw. Uniwersytetu Wrocławskiego, 2017, s. 186-202.

[2] Н.Н. Беспамятных. *Этнокультурное пограничье и белорусская идентичность: проблемы методологии анализа кросс-культурных взаимодействий*. РИВШ, Минск, 2007, с. 79-155.

[3] J. Bański. *Granica w badaniach geograficznych – definicja i próby klasyfikacji*, s.502.

таксама значэнне ў палітычнай прасторы. З гэтага пункту гледжання, да прыкладу, зроблена класіфікацыя межаў Еўрапейскага саюза, пакладзеная ў падмурак яго памежнай палітыкі.

У цяперашняй палітыка-эканамічнай сітуацыі ў Еўропе еўрапейскімі даследчыкамі вылучаецца тры тыпы рэжымаў мяжы:

- мяжа адсутнічае (absent order) - характэрны для ўнутраных межаў краін г.зв. "старога" ЕС. Гэты рэжым адрозніваецца адсутнасцю фармальных рамак абмежавання і кантролю за перасячэннем мяжы, стварае ўмовы для аптымальнага супрацоўніцтва і трывалых кантактаў, міжнароднага абмену, турызму;

- памежжа (the march) - гэты тып рэжыму звязаны з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэтая вобласць узнікае паміж краінамі "старога" ЕС і трэцімі краінамі, г. зн. датычыць тэрыторыі дзяржаў-членаў ЕС, якія суседнічаюць з трэцімі краінамі, ствараюць "прымежную зону ЕС";

- знешнюю мяжу (postcolonial limes) - рэжым мяжы з'яўляецца своеасаблівай зонай стабілізацыі і бяспекі вакол Еўрапейскага Саюза, так званае "кола сяброў". Ствараюць яго краіны, якія знаходзяцца за межамі ЕС і якія не маюць у бягучы момант перспектывы на інтэграцыю з Еўрасаюзам (гэты рэжым адносіцца, напрыклад, да ўсходняй мяжы Рэспублікі Польшча)[1].

На падставах падобнай класіфікацыі грунтуецца таксама паняцце франціра, якое характарызуе ступень стабільнасці, акрэсленасці і легітымнасці мяжы, а таксама ступень бяспекі і камфортнасці знаходжання ў памежнай тэрыторыі. Паняцце франціра, як прымежнай тэрыторыі з пазначанай канфліктнай сітуацыяй і адначасова вялікімі магчымасцямі для праяўлення здольнасцяў для прадпрымальных асобаў, шырока ўжываецца не толькі ў паліталогіі ці гісторыі і эканоміцы, але таксама ў культуралогіі, сацыялогіі і іншых галінах ведаў[2].

У апошнія дзесяцігоддзі вызначылася некалькі тэндэнцый у функцыяванні палітычных межаў. Найбольш значнымі з іх, на нашую думку, з'яўляюцца: тэндэнцыя да максімальнай празрыстасці дзяржаўных межаў пры фармальным іх захаванні; нестабільнасць і канфліктнасць шэрагу межаў у Еўропе, найперш, на г.зв. постсавецкай

---

[1] K. Krok.*Współczesne spojrzenie na obszary przygraniczne w Europie.* [w:] G.Gorzelak, K.Krok (red.) *Nowe granice Unii Europejskiej- współpraca czy wykluczenia?* , Wyd. Naukowe Scholar, Warszawa 2006, s 47-49

[2] N. Zavyalova. *Spiritual Frontiers: the Russian frontier myth of the Urals region against a European and North American background* https://www.academia.edu/32685426/Natalya_ZAVYALOVA_Spiritual_Frontiers_The_Russian_Frontier_Myth_of_the_Urals_Region_against_a_European_and_North_American_Background (доступ 1.05.2021) ; Н.В. Плотичкина, Е.Г. Довбыш. *Сетевой фронтир как метафора и миф* [в:] *Вестник РУДН. Серия: Социология*, 2017, Vol. 17 No. 1, с. 51—62.

прасторы; узмацненне асобных функцый палітычных межаў у сувязі з палітычнымі крызісамі і пандэміяй.

Тэндэнцыя да максімальнай празрыстасці межаў звязана з глабалізацыйнымі працэсамі, яе праявы можна прасачыць ўжо ў час стварэння першых сусветных арганізацый ў галіне эканомікі, найперш, Усясветнай гандлёвай арганізацыі. На сёння празрыстыя межы існуюць на тэрыторыі Еўрапейскага Саюза. На постсавецкай прасторы адзінай фармальна празрыстай мяжой з'яўляецца мяжа паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй.

Ступень празрыстасці мяжы наўпрост звязаная з мадэллю яе аховы. Мадэлі могуць быць шчыльныя, у падставе якіх ляжыць сістэма, распрацаваная ў першай палове XX ст. Яна грунтуецца на шматузроўневай, структураванай ахове з наяўнасцю памежнай паласы з умацаваннямі і пастаянным патруляваннем сіламі памежных застаў першага эшалону; памежнай зоны з размяшчэннем памежных сілаў другога эшалону, якія павінны аператыўна ўключацца ў дзеянні ў выпадку масавага парушэння мяжы. Іншыя мадэлі грунтуюцца на выкарыстанні груп хуткага рэагавання з ужываннем электронных сродкаў кантролю непарушнасці мяжы, а таксама прыцягненні жыхароў прымежных тэрыторый да кантролю за сітуацыяй у памежнай зоне. Прыкладам такой мадэлі можа быць мяжа Нідэрландаў, дзе жыхары памежнай тэрыторыі разам з уладкаванымі ў гэтай мясцовасці легальнымі мігрантамі абавязаны дапамагаць памежнай службе ў змаганні з нелегальнай міграцыяй[1].

Памеры празрыстасці мяжы акрэсліваюцца таксама на падставе міжнародных пагадненняў аб візавым рэжыме. У дадзеным выпадку тэндэнцыя да празрыстасці межаў праявілася ў Шэнгенскім пагадненні, ці безвізавым рэжыме для ўезду ў краіны ЕС грамадзянаў некаторых краін, або магчымасці безвізавага перасячэння амерыканска-канадскай мяжы для грамадзян гэтых краін. У гэтым рэчашчы ідзе таксама дамоўленасць аб безвізавым перасячэнні межаў большасці краін постсавецкай прасторы, якія не ўваходзяць у ЕС, для грамадзян гэтых краін. Варыянты палегчанага візавага рэжыму шматлікія і разнастайныя і могуць быць абумоўленыя як эканамічнымі прычынамі (падтрымка турыстычнай галіны для Чарнагорыі), так і дэмаграфічнымі, сацыяльнымі і г.д.

Нестабільнасць і канфліктнасць межаў не новая праблема, яна існуе з пачатку ўзнікнення дзяржаўных утварэнняў. Асаблівасцю апошніх дзесяцігоддзяў, на нашую думку, з'яўляецца ўзнікненне канфліктных межаў, якія па сваім паходжанні адносна новыя - гэта,

[1] L . van der Veer. *Residents' responses to refugee reception: the cracks and continuities between care and control.* [w:] *Ethnic and Racial Studies,* Volume 43, Issue 16, 2 December 2020, p. 368-387.

найперш, палітычныя межы былых савецкіх рэспублік, на якіх не было канфліктаў на працягу амаль стагоддзя, а то і болей. Пераважная частка гэтых канфліктаў ініцыявана ці справакавана Расійскай Федэрацыяй, якая праводзіць экспансіяністскую палітыку ў дачыненні да былых савецкіх рэспублік у парушэнне міжнародных дамоўленасцяў[1]. Як адзначаюць Джусі Лайн, Ікка Ліиканен і Джэймс Скот, (Jussi P. Laine, Ilkka Liikanen і James W. Scott ), пасля крызісу на Украіне межы ў больш шырокім постсавецкім кантэксце сталі ключавым пытаннем у міжнародных адносінах і публічных палітычных дэбатах. Гэтыя межы часта разглядаюцца з пункту гледжання ваеннай гатоўнасці і канфрантацыі, але ўслед за ўзброенымі тэрытарыяльнымі канфліктамі адбылося больш шырокае змяненне рэгіянальнага баланса сіл і суверэнітэту[2].

Бурлівыя падзеі першых дзясяцігоддзяў XX стагоддзя паўплывалі на структуру функцый дзяржаўных межаў, яна стала вельмі дынамічнай: пры неабходнасці на першы план высоўваецца адна з яе функцый, робячы іншыя другараднымі. Так, у краінах, дзе ёсць небяспека тэрарыстычных актаў, мяжа разглядаецца як адзін з бар'ераў, які дапамагае выявіць тэрарыстаў і перашкодзіць ім трапіць на тэрыторыю краіны. Прыкладам такіх дзеянняў можа быць павышаная ахова дзяржаўных межаў ЗША пасля тэракта 2001 г. Як паказаў аналіз, праведзены амерыканскімі памежнымі службамі, нелегальныя мігранты ў асноўным затрымліваюцца на амерыкана-мексіканскай мяжы, у той час як патэнцыйныя тэрарысты імкнуцца выкарыстоўваць іншыя каналы пранікнення ў ЗША (уключаючы амерыкана-канадскую мяжу), дзе рызыкі быць затрыманымі мінімальныя. Вынікі гэтых разлікаў былі выкарыстаны ў практыцы аховы мяжы: у 2013 годзе колькасць памежнікаў па-за пунктамі пропуску на амерыкана-мексіканскай мяжы павялічылася ў 2 разы ў параўнанні з 2001 годам, а на амерыкана-канадскай мяжы - у 4 разы[3].

Змены ў функцыяванні палітычных межаў у Еўропе адбыліся ў сувязі з міграцыйным крызісам 2015 г. Масавае нелегальнае перасячэнне мяжы Еўрапейскага Саюза мігрантамі з Паўночнай Амерыкі і Азіі прымусіла ўлады асобных краінаў не толькі ўзмацніць рэжым аховы як на знешніх рубяжах ЕС, так і ўнутры яго, але таксама дадаць да памежнай інфраструктуры фільтрацыённыя пункты, лагеры для бежанцаў, пашырыць склад памежнікаў і прыцягнуць да дзеянняў

---

[1] B. Renz. *Russian responses to the changing character of war*. [w:] *International Affairs*, 2019, 95(4), pp. 817-834.

[2] J. Laine, I. Liikanen, J.W. Scott. *Post-Cold war borders: Reframing political space in eastern Europe*. 2018, https://www.researchgate.net/publication/327034707_Introduction_-_Post-Cold_War_Borders_and_Borderscapes/link/5b73e9d4299bf14c6da6dcd6/download (доступ 1.05.2021).

[3] V.V. Shumov. *The model of the rationale for the focus of border security efforts at the state level.* [w:] *Research and Modeling*, 2019,11(1), pp. 187-196.

па ахове мяжы іншыя службы, а таксама валанцёраў. Міграцыйны крызіс таксама паставіў пытанне аб ролі асобных краінаў ЕС у ахове супольных межаў, падкрэсліўшы ролю перыферыйных краін, такіх як Італія, у перамовах, аспрэчванні або актыўным прыняцці на сябе ролі міграцыйных “брамнікаў"[1].

Сярод функцый, якія выконвае дзяржаўная мяжа, у 2020 г. на першы план высунулася функцыя санітарнага кардону, якая існавала і раней, але у якасці дадатковай. Значэнне мяжы, як рубяжа для стрымлівання эпідэмій і эпізаотый, было асэнсавана яшчэ ў XIX ст. У час эпідэміі халеры ў канцы 1820-х- пачатку 1830-х гг. ролю санітарных кардонаў выконвалі не толькі дзяржаўныя межы, але таксама межы аўтаномных утварэнняў, такіх, да прыкладу, як Царства Польскае ў Расійскай імперыі. Распаўсюджана была практыка забароны правозу праз дзяржаўную мяжу быдла ў час эпізаотый. Парушэнне забароны каралася вялікімі штрафамі і нават крымінальнай адказнасцю. Санітарныя функцыі дзяржаўнай мяжы актыўна ўжываліся ў час эпізаотый птушынага і свінога грыпу ў першыя дзесяцігоддзі XXI ст. ва ўсім свеце. На сёняшні час менавіта з меркаванняў санітарнай бяспекі забаронены правоз праз мяжу ЕС прадуктаў жывёльнага паходжання. Часам санітарная функцыя мяжы могуць стаць інструментам палітычнага ціску і маніпулявання, або мець пад сабой пратэкцыяністскія памкненні дзяржавы-імпарцёра. Такім інструментам, да прыкладу, з’яўляюцца гэтак званыя “малочныя войны” паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, у якіх функцыя санітарнага кантролю была выкарыстана для эканамічнага ціску і атрымання прэферэнцый ў вырашэнні палітычных пытанняў на карысць Расіі. У гэтым жа аспекце, на нашую думку, трэба разглядаць выяўленне і дэманстратыўнае знішчэнне на мяжы г.зв. санкцыённых прадуктаў харчавання, якое практыкуецца Рпсійскай Федэрацыяй з 2014 г.

Пандэмія 2020-2021 гг. і прынятыя для барацьбы з ёю карантынныя захады, перафарматавалі стан дзяржаўных межаў ва ўсім свеце. Тэндэнцыя да максімальнай празрыстасці палітычнай мяжы, якая дамінавала на працягу двух дзесяцігоддзяў, адышла на другі план. Палітычныя межы сталі інструментам у змаганні з пандэміяй. У дадзеным выпадку гаворка вядзецца не толькі пра закрыццё мяжы для іншаземцаў, найперш з тых краін, у якіх пандэмія набыла значныя памеры. Інстытут палітычнай мяжы, з яе спецыфічнай інфраструктурай, распрацавагым рэгламентам і прававымі нормамі дазволіў аператыўна выкарыстаць яе ў розных кірунках барацьбы з хваробай. На падставе

[1] C. Vergnano, *Desired freight and undesired migrants: Security and market forces at internal EU borders* [w:] *Environment and Planning C: Politics and Space*, 2021, Article in Press.

гэтай спецыфікі быў апрацаваны комплекс мер, які дазваляе выяўляць хворых на этапе пашпартнага кантролю, стымулюе патэнцыяльных падарожнікаў трымаць карантын, праходзіць медыцынскі агляд і рабіць прышчэпкі ад віруса.

Новай роллю для дзяржаўнай мяжы, не звязанай наўпрост з яе асноўнымі функцыямі, але блізкай да функцыі санітарнай, з'яўляецца яе выкарыстанне як інструмента для аховы прыроды. Гэта выцякае з мадэлі мяжы, і найбольш істотна ў выпадку шматузроўневай структураванай мадэлі з памежнай зонай і памежнай паласой. У такой ролі дзяржаўная мяжа з сярэдзіны 2000-х гадоў пачала выкарыстоўвацца ў Беларусі. У час стварэння біясфернага рэзервату Гродзенская пушча ў басейне Аўгустоўскага канала, група спецыялістаў, у склад якой уваходзіла аўтарка гэтай публікацыі, прапанавала сумясціць лінію памежнай зоны з мяжой ядра рэзервата, Такім чынам найбольш каштоўная частка прыродаахоўнай тэрыторыі апынулася пад падвойнай абаронай: уезд і знаходжанне ў ёй рэгламентуюцца не толькі статусам рэзервата, але і памежным рэжымам. У наступнае дзесяцігоддзе гэтая мадэль была выкарыстана ў іншых Нацыянальных парках і рэзерватах, якія прылягаюць да дзяржаўнай мяжы Беларусі. Вядомы таксама і іншыя прыклады падобнага выкарыстання палітычнай мяжы. Адзін з найбольш яскравых, на нашую думку – выкарыстанне дзяржаўнай мяжы для аховы прыроднага багацця ад дарапежніцкіх памкненняў буйных карпарацый ў басейне Амазонкі. Прымежная тэрыторыя Ашанінка абаранялася мясцовымі жыхарамі, якія не дазвалялі іншаземным карпарацыям асвайваць гэтую зямлю. Мяжа служыла бар'ерам, які легітымізаваў абарону[1].

Беларускія пратэсты 2020-2021 гг. выявілі некалькі паказальных і спецыфічных рысаў беларускай дзяржаўнай мяжы. Можна сцвярджаць, што дзяржаўная мяжа ў гэты перыяд адыгрывала ролю фактара, які ў заўважнай ступені ўплываў як на характар пратэстаў, так і на дзеянні ўлады. Празрыстасць усходняй мяжы увесь час стварала пагрозу ўвядзення войскаў РФ на тэрыторыю Беларусі і анексію краіны ўсходнім суседам; улады мусіравалі пытанне аб неабароненасці заходняй мяжы і праводзілі там сумесныя з РФ вайсковыя вучэнні; неаднаразова трапіла ў цэнтр увагі мяжа з Украінай, якую нібыта рыхтуюцца перасеч украінскія баевікі, або войскі РФ, якія будуць уведзеныя ва Украіну з тэрыторыі Беларусі. Мяжа стала інструментам рэпрэсій у стасунку да нелаяльных грамадзянаў. Практыкавалася прымусовае выгнанне за межы краіны, або наадварот – забарона выезду

[1] D.S. Salisbury, J.B. López, J.W. Vela Alvarado.*Transboundary political ecology in Amazonia: History, culture, and conflicts of the borderland Asháninka* [w:] *Journal of Cultural Geography* ,2011, 28(1), pp. 147-177.

або адмова ўезду з парушэннем канстытуцыйных правоў грамадзяніна Беларусі. Адной са складаючых частак палітыкі ўлад у памежных справах стала ўцягванне памежных войскаў у рэпрэсіўную дзейнасць у парушэнне іх службовых абавязкаў і прысягі.

Мяжа стала важным інструментам не толькі ў палітыцы ўладаў але і для пратэстуючых. Міграцыя за мяжу ў шмат якіх выпадках ратавала асобу ад пераследу ўладаў. За межы Беларусі выводзіліся капіталы і цэлыя кампаніі, у першую чаргу, звязаныя з IT-тэхналогіямі, што дазваляла захаваць бізнес ці старт-ап.

Сітуацыя ў Беларусі ў час пратэстаў паказала сваеасаблівую архаічнасць палітычнай мяжы. Сёняшні яе фармат скіраваны на перашкоду несанкцыянаванага фізічнанага пранікнення на тэрыторыю дзяржавы, але для сучасных інфармацыйных тэхналогій дзяржаўная мяжа не з’яўляецца перашкодай, мае эфемерны характар. Гэта датычыць таксама фінансавых аперацый, для якіх палітычная мяжа ў сучасным яе стане не з’яўляецца вырашальным фактарам.

Палітычныя межы ў XXI ст. застаюцца адным з важных элементаў жыцця сусветнай супольнасці. За тысячагоддзі, якія існуе гэты феномен, дзяржаўныя межы прайшлі складаны эвалюцыйны шлях, змяняліся іх статус, мадэль, роля ў жыцці грамадства і геапалітыцы. У XXI ст. шмат якія функцыі і мадэлі палітычных межаў дазналі трансфармацыі, вызначыліся супрацьлеглыя тэндэнцыі ў далейшым пераўладкаванні іх статуса, формы, спосабаў функцыявання. Для Беларусі гэтыя тэндэнцыі і змены маюць асаблівае значэнне, паколькі яна мае характар цывілізацыйнага памежжа, знаходзячыся на рубяжы сутыкнення Захаду і Усходу. З гэтага пункту гледжання памежная праблематыка павінна стаць адным з актуальных кірункаў даследвання для беларускай навуковай думкі.

**Бібліяграфія:**

Askerbek A., Yesdauletova A., Yesdauletov A., Alpeissov A., Adilbekov S. Geopolitical interests of the United States of America in the Central Asian Republics, Journal of Advanced Research in Law and Economics, 2019, 10(1), pp. 28-35.

Bański J.Granica w badaniach geograficznych – definicja i próby klasyfikacji, Przegląd Geograficzny, 2010, 82, 4, s. 489–508.

Krok K. Współczesne spojrzenie na obszary przygraniczne w Europie. [w:] G.Gorzelak, K.Krok (red.) Nowe granice Unii Europejskiej- współpraca czy wykluczenia? , Wyd. Naukowe Scholar, Warszawa 2006, s 47-49.

Laine J. , Liikanen I., Scott J.W. Post-Cold war borders: Reframing political space in eastern Europe. 2018, https://www.researchgate.net/publication/327034707_Introduction_-_Post-

Cold_War_Borders_and_Borderscapes/link/5b73e9d4299bf14c6da6dcd6/download (доступ 1.05.2021).

Otto L. Introducing maritime security: The sea as a geostrategic space. Advanced Sciences and Technologies for Security Applications, 2020, pp. 1-11.

Renz B. Russian responses to the changing character of war. [w:] International Affairs, 2019, 95(4), pp. 817-834.

Rezvani B. Russian foreign policy and geopolitics in the Post-Soviet space and the Middle East: Tajikistan, Georgia, Ukraine and Syria. Middle Eastern Studies, 2020. pp. 1-22.

Salisbury D.S., López J.B., Vela Alvarado J.W. Transboundary political ecology in Amazonia: History, culture, and conflicts of the borderland Asháninka [w:] Journal of Cultural Geography ,2011, 28(1), pp. 147-177.

Schreer B. Towards contested 'spheres of influence' in the western pacific: Rising China, classical geopolitics, and Asia-pacific stability.Geopolitics, 2019, 24(2), pp. 503-522 .

Shumov V.V. The model of the rationale for the focus of border security efforts at the state level. [w:] Research and Modeling, 2019,11(1), pp. 187-196.

Sialverstava S. Badania białorusko-polskiego pogranicza na Białorusi na przełomie XX-XXI wieku. [w: ] Polskie pogranicza w procesie przemian. pod red. Zbigniewa Kurcza, Wrocław,Wydaw. Uniwersytetu Wrocławskiego, 2017, s. 186-202.

van der Veer L. Residents' responses to refugee reception: the cracks and continuities between care and control. [w:] Ethnic and Racial Studies, Volume 43, Issue 16, 2 December 2020, p. 368-387.

Vergnano C., Desired freight and undesired migrants: Security and market forces at internal EU borders [w:] Environment and Planning C: Politics and Space, 2021, Article in Press.

Zavyalova N. Spiritual Frontiers: the Russian frontier myth of the Urals region against a European and North American background https://www.academia.edu/32685426/Natalya_ZAVYALOVA_Spiritual_Frontiers_The_Russian_Frontier_Myth_of_the_Urals_Region_against_a_European_and_North_American_Background (доступ 1.05.2021) ;

Беспамятных Н.Н. Этнокультурное пограничье и белорусская идентичность:проблемы методологии анализа кросс-культурных взаимодействий. РИВШ, Минск, 2007.

Дмитриева С.И. Лимология. Учебное пособие. Издательско-полиграфический центр Воронежского государственного университета, Воронеж, 2008.

Першин А., Шерстнёв А., Ярлыченко В. Теория государственной границы. Москва, 2000.

Плотичкина Н.В., Довбыш Е.Г. Сетевой фронтир как метафора и миф [в:] Вестник РУДН. Серия: Социология, 2017, Vol. 17 No. 1, с. 51—62.

Генадзь Коршунаў[1]

## Беларусь-2020 – асаблівасці сацыяльнай дынамікі (варыянт аналітычнага вывучэння)

Henadz Korshunau

## Belarus-2020 – features of social dynamics (analytical study version)

**Ключавыя словы**: грамадства, улада, дзяржава, грамадская дамова

**Key words**: society, power, state, social contract

**Summary**: The article attempts to analyze the situation in Belarus in 2020 through the prism of such a concept as a "social contract". The content and main subjects of the contract (government and society) are considered; analyzes both their own evolution and the changes in the content of the treaty that created the posture for the explosive development of events in the country during and after the 2020 presidential election campaign.

*Уводзіны*

Падзеі 2020 г. відавочна падзялілі найноўшую гісторыю чалавецтва на тое, “што было да таго”, і на тое, “што адбывалася пасля”. Зразумела, што гістарычным дыверсіфікатарам сталася сусветная пандэмія COVID-19. Справакаваны кавідам крызіс быў комплексным і вывеў з-пад ісподу ўсе тыя супярэчлівыя тэндэнцыі, што складаліся і нарасталі яшчэ з мінулага тысячагоддзя. Не выключэннем тут з’явілася Беларусь, нават наадварот – менавіта на нашым прыкладзе найбольш яскрава паўстала, пэўна, галоўная супярэчнасць сучаснасці, акая тычыцца роляў улады і/ці дзяржавы ў іх суадносінах з грамадствам. Асабліва зараз, пад час пераходу да лічбавай эпохі ў эвалюцыі чалавецтва.

Існуе досыць канцэптуальных напрацовак для аналізу тых сістэмных супярэчнасцяў, якія дзесяцігоддзямі выкшталцоўваліся ў стасунках паміж уладай і грамадствам, прынамсі, у Беларусі. Гэта паняткі з філасофска-метадалагічных і філасофска-літаратурных, паліталагічных і культуралагічных, сацыялагічных і шмат якіх іншых дыскурсаў са сваімі эўрыстычнымі вартасцямі – ад “крэольскасці”[2] ці “архіпелага Беларусь”[3] да “чацьвертай рэспублікі”[1], ад “прэвентыўнага

[1] Беларуская Акадэмія, кандыдат сацыялагичных навук, дацэнт, Мінск, Беларусь
[2] В.Л. Абушенко, *Мицкевич как «креол»: от «тутэйшых генеалогий» к генеалогии «тутэйшасці»* [у:] Фрагмэнты. 2001. № 1-2.
[3] В. Акудовіч, *Архіпелаг Беларусь.*.Галіяфы, Мінск, 2010.

аўтарытарызму”[2] да “гарызантальнай рэвалюцыі”[3]. Безумоўна, кожны канцэпт мае сваю эўрыстычную каштоўнасць, але, нам падаецца, што з пункту гледжання разумення таго комплексу тэндэнцыяў, якія прывялі да феномену “#Беларусь2020”, найлепшым чынам пасуе панятак “сацыяльны кантракт” альбо “грамадская дамова”.

*Канцэпт “грамадскай дамовы”*

Па-першае, праз яго мы маем магчымасць вылучыць асноўных суб’ектаў, чые стасункі вызначаюць сутнасць і дынаміку сітуацыі ў краіне. Па-другое, вызначаем змест і асаблівасці гэтых дзяржаваўтваральных стасункаў, іх прадметную ўгрунтаванасць. Па-трэцяе, атрымоўваем выхад на інструментар і рыштункі суб’ектаў дамовы як у рэтраспектыўным, так і ў перспектыўным фарматах. І, па-чацьвертае, уключаемся ня толькі ў гістарычна-культурніцкі, але і ў сацальна-палітычны і сацыяльна эканамічны кантэксты.

Такім чынам, што мы маем з грамадскай дамовай у Беларусі.

У тым выглядзе, у якім яна праіснавала да 2020 г., грамадская дамова была “падпісана” у сярэдзіне 90-х гадоў мінулага веку. Яе “падпісантамі” выступілі два суб’екты – улада і грамадства.

Адзначым, што ў дадзеным выпадку мы мэтанакіравана выкарыстоўваем панятак “улада” замест, як падаецца, звыклай ў такім кантэксце “дзяржавы”. Сэнс гэтай замены ў тым, што (прынамсі, у беларускім варыянце) дзяржава сталася не суб’ектам, а вынікам рэалізацыі грамадзянскай дамовы паміж грамадствам і менавіта ўладай. На той час беларуская дзяржава як сукупнасць сацыяльных інстытутаў знаходзілася ў стадыі трансфармацыі і не магла паўнавартасна выконваць функцыю палітычнага суб’екта.

У пэўнай ступені тое ж самае (адносна непаўнавартаснай суб’ектнасці) можна казаць і адносна грамадства – з-за адсутнасці ў актуальнай гісторыі грамадскага досведу ўласнай суб’ектнасці (ад паўсядзённасці да прафсаюзаў і выбарнасці ўладаў), з-за адсутнасці згуртаванай нацыянальнай эліты (бо было супрацьстаянне з аднаго боку культурніцкай і навуковай эліты, з другога – кіроўнай і гаспадарчай), з-за адсутнасці агульна рэлевантнага дыскурсу, які мог бы канкураваць з “партызанска-савецкім” і інш.

На першапачатковых этапах рэалізацыі сацыяльнага кантракту і ўладу цяжка было б вызначыць у якасці сталага палітычнага суб’екту.

---

[1] *Аналитический проект “Четвертая республика”,* https://eurobelarus.info/news/analytics/2021/04/10/chetvertaya-respublika.html (доступ 20.04.2021)

[2] В. Сіліцкі. *Беларусь: анатомія прэвэнтыўнага аўтарытарызму,* [у:] Код прысутнасці: анталогія беларускага мыслення 2000-2015. Логвінаў, Мінск, 2016. С. 26-46.

[3] Г.П. Коршунов. *Затянувшийся белорусский август — революция горизонтали,* http://www.eedialog.org/ru/2021/01/13/zatjanuvshijsja-belorusskij-avgust-revoljucija-gorizontali/ (доступ 15.04.2021)

Бо нават харызматычнасць уладнай ці кіроўнай асобы ўсё роўна вымагае свайго інстытуцыянальнага увасаблення/аздаблення, якое на той час не набыло свайго якога-небудзь фінітнага стану. Зрэшты, сталася так, што менавіта ўлада вымаглася першай прайсці шлях асабістай суб’ектывацыі, то бок асэнсаваць сябе як суб’екта і рэалізаваць гэтае асэнсаванне (якім яно было) у практыцы і дзяржаўнага будаўніцтва, і дзяржаўнага кіравання.

Тут трэба ўлічваць, што такі кірунак ходу падзеяў быў з большага прадвызначаны. Па-першае, з прычыны размеркаванасці і няспеласці грамадскай суб’ектнасці. Па-другое, з пэўнага пункту гледжання, той шлях стаўся своеасаблівай імплементацыяй зместу самой сацыяльнай дамовы. Гэты зьмест, хай і не артыкуляваны, але дзейсны, палягаў у тым, што грамадства згаджаецца на прапановы аб перадачы найшырэйшых паўнамоцтваў па кіраўніцтву краінай уладзе, а наўзамен атрымоўвае гарантыі асабістай бяспекі і падтрымання на належным узроўні асноўных сацыяльных стандартаў. Што, з большага, сталася трамплінам да адмаўлення грамадствам ад асабістай суб’ектнасці. Са свайго боку, дзеля забеспячэння грамадству пэўнага парадку і дабрабыту (хаця і ў даволі акрэсленых межах), улада “мусіла” выбудоўваць сваю эфектыўную кіроўную вертыкаль, чым яна даволі хутка і паспяхова скарысталася.

То бок, па сутнасці такое нераўнаважнае разьмеркаванне суб’ектнасці было імпліцытна закладзена ў змест сацыяльнага кантракту 90-х ад самага яго пачатку.

Дарэчы, пра сам змест сацыяльнай дамовы.

Зразумела, як такога, аднаго тэксту з пунктамі дамовы і подпісамі прадстаўнікоў з боку ўлады і грамадства, няма і быць ня можа. Але ж дамова ёсць, і артыкулы яе раскінутыя па стосу папер і шэрагу падзей. Дакументальна гэтыя артыкулы прадстаўлены, перш за ўсё, у першай прадвыбарчай праграме А. Лукашэнка і ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ад 1996 г., а таксама ў шматлікіх прэзідэнцкіх дэкрэтах (слушна да спісу дадаць і розныя указы з законамі і падзаконнымі актамі, галоўным чынам, па “сацыяльнай” тэматыцы). З пункту гледжання падзей, мае рацыю ўлічваць і тое, што было, і тое, чаго не адбывалася: што было – з боку грамадства была падтрымка агульнага курсу ўладаў (можна спрачацца аб маштабах, але яна была і ў рэчышчы знешнепалітычнага курсу, і рамках унутранай палітыкі); чаго не было – маштабнага народнага супраціву ці пратэстаў супраць палітыкі ўладаў, і агулам, і дарэчна пэўных адчувальных падзеяў кшталту выбараў ці рэферэндумаў.

Зыходзячы з гэтага можна сцвярджаць, што хаця аднаго тэксту з дамовай і няма, заходны кантэкст быў дзейсны і рэлевантны, то бок вядомы і прыймальны для абодвух бакоў: улада атрымоўвала

эксклюзіўныя правы адзінага палітычнага суб’екта ў краіне, за што мусіла браць на сябе ўсе рызыкі і выдаткі па забеспячэнні працэсаў жыццядзейнасці грамадства, а само грамадства згаджалася на адмову ад суб’ектных правоў і мелася карыстацца гарантыямі грамадскай бяспекі і пэўнага ўзроўню асабістага дабрабыту.

У такім фармаце змест грамадзянскай дамовы існаваў некалькі дзесяцігоддзяў. Але, і гэта прынцыпова, хаця змест дамовы практычна не зьмяняўся, ягоныя суб’екты тым часам эвалюцыянавалі і даволі значна.

Калі казаць аб эвалюцыі суб’ектаў грамадскай дамовы, то тут мусяць вылучацца наступныя этапы:

*Этап станаўлення*
*(сярэдзіна 90-х – пачатак 00-х гадоў)*

Гэта **перыяд пошуку і станаўлення фармату ўвасаблення грамадзянскай дамовы.** Прынамсі, час на пошук узору не марнаваўся, і ў якасці такога была абрана і пачала рэалізоўвацца форма “сацыяльнай дзяржавы” амаль савецкага кшталту, маркерамі якой сталася вартанне да сістэмы “гостаўскіх” стандартаў перш за ўсё ў плане кіравання эканомікай, у палітычнай прасторы, у галінах аховы здароўя, адукацыі і ў пенсійнай сістэме[1]. На гэтай падставе грамадства атрымоўвае пачатак стабілізацыі сітуацыі і паступовы (прынамсі, даволі хуткі, асабліва ў параўнанні з суседзямі[2]) рост свайго дабрабыту. А ўлада ў сваю чаргу кансалідуецца, канцэнтруецца і выбудоўвае монацэнтрычную, монасуб’ектную сістэму ва ўсіх пластах існавання: у ідэалагічным (шчыра савецкі рэверс), у эканамічным (дзяржаўны пратэкцыянізм), у палітычным (персаналістычны аўтарытарызм) і г.д.

*Латэнтны этап*
*(першая палова 00-х).*

Імаверна, у такім варыянце сацыяльная дамова магла праіснаваць больш чым дастаткова часу. Але тут трэба ўлічваць той факт, што падтрыманне сацыяльнай дзяржавы патрабуе значнай колькасці выдаткаў. Рэсурсаў менавіта беларускай эканомікі для гэтага было недастаткова. Між тым, стасункі беларускай улады з яе асноўным партнерам, з Расейскай Федэрацыяй, перасталі быць выключна

[1] “Происходит инволюционная дедифференциация общества; простое воспроизводство социальной стабильности, возводимой к «мифическому прошлому» советских времен, утверждается в качестве абсолютной ценности; устанавливаются «этнографические» критерии благосостояния, справедливости, научной значимости; общим эффектом этих преображений становится туземная инкапсуляция социального ландшафт” (В. Фурс. *Белорусская «реальность» в системе координат глобализации (постановка вопроса),* https://nmnby.eu/news/analytics/2165.html (доступ 03.05.2020)

[2] Адносна Расейскай Федэрацыі і Украіны тэмпы росту былі вышэў у некалькі разоў.За перыяд з1995 па 2000 г. сярэдні рост ВВП Беларусі склаў 3,57%, РФ – 0,77%, Украіны – -5,53%.

становўчымі і пачалі набываць рысы пэўнай праблемнасці. Улада пачынае пошук сваіх, аўтэнтычных варыянтаў сацыяльнага кантракту, у тым ліку праз пераразмеркаванне акцэнтаў у эканоміцы (больш свабодаў прыватнаму сектару) і ідэалогіі (больш увагі на беларускае, але ўсё роўна з савецкага часу)[1].

І хаця на самой грамадскай дамове як такой ўсе гэтыя падзеі амаль не адбіліся, яны падаюцца важнымі для разумення дынамікі працэссу. Таму гэты перыяд слушна вылучыць як асобны, хаця і **латэнтны этап эвалюцыі сацыяльнага кантракту**.

*Пачатак узаемнага абсэнтэізму*
*(другая палова 00-х – 2014 г.)*

З другой паловы 00-х гадоў пачынаецца наступны этап развіцця грамадзянскай дамовы, звязаны з акрэсліваннем таго, што можна назваць **тэндэнцыяй да ўзаемнага абсэнтэізму**. Ушырокім разуменні, гэта ўхіленне ад сваіх палітычных абавязкаў, а з пункту гледжання грамадскай дамовы – частковая адмова ад тых выдаткаў і абмежаванняў, якія гэтая дамова накладае на абодвух суб’ектаў. Узаемны абсэнтэізм быў звязаны як з паскарэннем дынымікі эвалюцыянавання грамадства, так і з больш павольнай, але ўсё ж такі адчувальнай трансфармацыяй стаўлення ўладаў да “сацыяльнай дзяржавы”.

У апошнім выпадку мы маем на ўвазе перш за ўсё паступова набіраючы моц рэй уладаў на адмаўленне ад сваіх абавязкаў па падтрымцы належнага ўзроўню дабрабыту насельніцтва – у той час пачынаецца фактычнае перафарматаванне сацыяльнай дзяржавы на нешта меньш “сацыялістычнае”. З-за зніжэння безумоўнай падтрымкі беларускай эканомікі з боку Расейскай Федэрацыі[2] і высокую валацільнасць сусветнага рынку[3], улады вымушана становяцца на ашчаджальны шлях, які пачынаецца са значнага скасавання ільготаў і іх частковай замены на адрасную дапамогу. Потым пераход да плоскай шкалы абкладання падаткамі, умацаванне кантрактнай сістэмы найму на працу і гэтак далей да пераразлікаў страхавога стажу і часу выхаду на пенсію.

---

[1] “С начала 2000-х годов наблюдается переход от безусловной ориентации на Россию к попыткам создания беларусской государственной идеологии, которая была бы ориентирована на суверенитет и выстраивание внутренней легитимности” (А. Ластовский. *Политика памяти: перспективы для Беларус,.* https://telegra.ph/Politika-pamyati-perspektivy-dlya-Belarusi-04-13?fbclid=IwAR2Ox0Kt94p5yHOa-6nuGwYaTEmOMvePSnhvqTUQZjm5LT5O4kgBioc7Qjw (доступ 03.04.2021).

[2] Нафта-газавыя і прадуктова-памежныя канфлікты, пачынаючы з кейсу “белтрансгазу” (2004-2006 гг.) набываюць перманентны характар.

[3] Хвалі эканамічных крызісаў 2008 і 2011 гг., а таксама і наступных.

Зніжаючы выдаткі на “сацыялку”, улады мусілі прапанаваць грамадству нейкую замену, выйсце для магчымасцяў эканамічнага самазабеспячэння: як мінімум – прыўзняць тую “шкляную столь”, што замінала развівацца індывідуальнай ініцыятыве і прыватнаму сектару, як максімум – пачаць ствараць умовы для развіцця бізнесу. То бок, пачалася мяккая лібералізацыя эканамічнай сферы, але ўсё роўна пад пільным вокам ужо сталага, трывалага прэвентыўнага аўтарытарызму (прынамсі, у выглядзе дзяржрэгулятараў у кожнай галіне гаспадаркі краіны).

Інакш кажучы, праз адчуване ўласнай моцы ўлады[1] пачалі пакідаць за сабой толькі правы субъекта, а абавязкі па забяспячэнні дабрабыту сталі часткова перакладаць на грамадства.

Трэба адзначыць, што калі насельніцтва і адчула гэта пераразмеркаванне абавязкаў, то маштабных і відавочных наступстваў яны не займелі[2]. Тая частка грамадства, якая апекавалася “сацыяльнай дзяржавай”, была задаволена наяўнасцю хоць якіх стандартаў сацыяльнага забеспячэння. Другая частка, якая ўжо ня мела патрэбы ў клопатах і турбоце з боку ўлады, не разлічвала на існуючыя ў краіне стандарты, бо арыентавалася зусім на іншае. Для гэтай часткі грамадства напрамкі дынамікі задаваліся ўжо не стасункамі грамадства з уладай, а лічбафікацыяй[3] і блізкасцю да тых трэндаў, якія пражывала Еўропа[4]. Побач з пэўнай лібералізацыяй з боку ўладаў, гэтыя чыннікі спрыялі стварэнню пэўных абшараў свабоды, у межах якіх грамадства мелася не толькі займацца самазабеспячэннем, але і гадаваць/гартаваць свае кампетэнцыі суб’ектаў. Прычым, як эканамічныя, так і псіхалагічныя, і культурніцкія, і палітычныя, і – што прынцыпова – каштоўнасныя

У выніку частка грамадства пачала перарастаць, “выходзіць” за межы сацыяльнага кантракту 90-х[5]. Ім ад уладаў было патрэбна толькі

---

[1] Калі ў сярэдзіне 1990-х гг. падтрымка А. Лукашенка фундавалася чыннікам харызмы і асабістых сімпатыяў, то ўжо да выбараў 2001 г. яна змяняецца на “рацыянальную” падтрымку. Далей, цягам часу (прынамісі пад 2008 г.) пачалі вылучацца прыкметы зз’яўлення падтрымкі з боку элітаў. (К. Гайдук, А. Чубрик. *Спецификация понятия «социальный контракт» применительно к Беларуси,* https://belinstitute.com/sites/default/files/2020-07/sc012009ru.pdf (доступ 22.04.2021).

[2] Выключэнні, фактычна, адзінкавыя: Плошча-2010, Акцыя “Стоп-Бензін” і Рэвалюцыя праз сацсеткі (2011),

[3] У 2007 г. свой першы мільён абанентаў налічылі аператары мабільнага Інтэрнэту.

[4] У той час беларусы некалькі год былі лідэрамі па колькасьці шэнгенскіх візаў на 1000 чалавек насельніцтва.

[5] “В категориях концепции Хиршмана (которая описывает взаимоотношения граждан-клиентов с государством-организацией с точки зрения трёх стратегий: «лояльности» — при удовлетворённости услугами, «выхода» и «голоса» (протеста) при неудовлетворённости…) — это «выход» при сохранении «лояльности»…. Учитывая то, что белорусская система предоставляет гражданам достаточное количество возможностей по комфортному «выходу», и не заставляет жестко выбирать между «выходом» и «лояльностью», теоретический запрос населения на реформы не перерастает в реальное политическое давление на власть”. (А. Пикулик, Е. Артеменко. *Социальный контракт:*

адно – не замінаць. І з цягам часу (праз працяг урбанізацыі, натуральную змену пакаленняў, лічбафікацыю паўсядзеннасці, развіццё прыватнага сектару і г.д.) суадносіны гэтых частак насельніцтва сталі змяняцца не на карысць прыхільнікаў існуючага кантракту. Але да пары гэта ніяк не адбівалася на агульным стане ўсяго грамадства.

*Нарастанне суб'ектывацыі грамадства*
*(2014 г. – пачатак 2020 г.).*

Гэта перыяд, калі **ўлады міжвольна спрыяюць надалейшай суб'ектывацыі грамадства**, то бок ствараюць умовы для з'яўлення ў грамадстве асэнсавання сябе суб'ектам і развіцця адпаведных якасцяў. Тут два асноўных напрамкі.

Па-першае, гэта зневажанне правоў ці думак пэўных груп насельніцтва – ці то праз уціск прыватнікаў на карысць дзяржаўных вытворцаў[1], ці то праз намаганні абкласці своеасаблівым "падаткам" нібыта не ўключаных у "грамадска-карысную працу" асоб, ці то будаўніцтва чаго-небудзь без уліку меркаванняў мясцовага насельніцтва і г.д. Такія справы безумоўна спрыялі гуртаванню людзей і гартаванню іх сацыяльных і суб'ектных кампетенцый.

З другога боку, з-за неабходнасці супрацьстаяць патэнцыйным захадам "русской весны", якія пасля падзей 2014 году ва Ўкраіне ўжо не падаваліся немагчымымі, улады вымушана пайшлі на "лібералізацыю" гісторыка-культурніцкай прасторы дзеля падмацавання ўласнага суверэнітэту. Гэтая "лібералізацыя" была вельмі лагодная і мала дзе выходзіла па-за межы паўсядзеннасці ці культурніцкіх гета. Але яна зрабіла свой важкі ўнёсак ў працэс грамадскага самаасэнсавання і суб'ектывацыі. Яскравым маркерам слушнасці апошняй тэзы ёсць цэлы шэраг падзей канца 2019 г. – ад перепахавання К. Каліноўскага і яго паплечнікаў праз грамадскае абурэнне крыжаломам у Курапатах да вулічных шэсцяў супраць аб'яднання Беларусі з Расейскай Федэрацыяй.

Такім чынам, на гэтым этапе змест сацыяльнай дамовы па сваёй значнасці саступіў пытанню развіцця суб'ектаў, бо ў той час ішло шпаркае, але паасобнае ўмацаванне суб'ектаў сацыяльнай дамовы. Мацаванне суб'ектнасці грамадства праходзіла латэнтным чынам, але амаль па ўсіх напрамках – і ў эканамічным (рост прыватнага сектару), і ў арганізацыйным (развіццё гарызантальнай сеткавай культуры), і ў каштоўнасна-ідэалагічным (зніжэнне патэрналізму на карысці прыватніцкай ініцыятвы, паступовае "пашырэнне гісторыі" на

*двойная стратегия,* https://belinstitute.com/index.php/be/article/socialnyy-kontrakt-dvoynaya-strategiya (доступ 22.04.2021).

[1] Пратэсты супраць забароны прадаваць прадукцыю лёгкай прамысловасці без спецыяльных сертыфікатаў у 2016 г.

ранейшыя за XX стагоддзе часы) планах, усё далей адыходзячы ад сацыяльных стандартаў савецкага кшталту. Уладны ж суб’ект мацаваўся інакш – праз усё большае засяроджанне на сябе шляхам разрыву сувязяў з грамадствам. Фактычна можна казаць пра рэдукцыю, нават рэкурсію кіравання да наўпраставага ўладарання.

*Дэнансацыя грамадскай дамовы (2020-2021 гг.).*

У выніку ўсіх гэтых трэндаў развіцця зместу і суб’ектаў сацыяльнай дамовы да пачатку 2020 г. Беларусь падыйшла ў супярэчлівым стане часткова дэнансаванага сацыяльнага кантракту, у рамках якога амаль адзінай рэлевантнай часткай заставаліся гарантыі ўлады аб падтрымцы бяспекі ў краіне.

Рэакцыі ўладаў на першаю хвалю каронавіруса фактычна прывялі да скасавання грамадскай дамовы ў яе першапачатковым выглядзе, бо ў масавай свядомасці аформілася думка, што ўлада не ў стане выконваць свае абавязкі па забеспячэнню бяспекі.

Дэсуб’ектывацыя ўлады ва ўмовах небяспекі каронавірусу, пацверджанай запытамі аб дапамозе з боку шараговых медыкаў, запусціла стыхійны працэс нізавой узаемадапамогі і самаарганізацыі грамадства – першую стадыю выбуховага працэсу нарошчвання суб'ектнасці грамадства.

Ключавымі асаблівасцямі гэтага этапу сталі: а) “папулярызацыя” лічбавых платформаў і ініцыятыў, накіраваных як на дапамогу медыкам, так і на распаўсюд «альтэрнатыўнай» інфармацыі, б) салідарызацыя з медыкамі розных структур бізнесу, грамадзянскай супольнасці і беларускай дыяспары, в) ўздым валанцёрскага руху. А таксама спантанная ініцыятыўнасць і размеркаванасць, то бок адсутнасць іерархіі, адзінага цэнтра кіравання. Усе гэтыя вынікі-асаблівасці першага этапу – дыгіталізацыя, інклюзіўнасць, індывідуальная значнасць і прынцыповая гарызантальнасць – фактычна задалі парадыгму далейшых хваляў самаарганізацыі і нарошчвання грамадскай суб'ектнасці.

Другая стадыя выбуховай суб'ектывацыі грамадства прыпала на пачатак электаральнай кампаніі і была спробай легітымнага спраўджавання грамадскай суб'ектнасці ў палітычным полі. Вынікі гэтага этапу неадназначныя: з аднаго боку, прэвентыўныя і рэактыўныя дзеянні ўлады купіравалі паўнавартасную магчымасць палітычнай рэіфікацыі грамадскай суб'ектнасці; з другога – у грамадстве ўзнікла разуменне сваёй “масавасці”, перавагі прыхільнікаў пераменаў над прыхільнікамі ўлады. Сфармавалася адчуванне маштабнага калектыўнага “МЫ” – велізарнай беларускай супольнасці, што сягнула

далёка за межы самой Беларусі. І пачуццё вялікага гонару ад прыналежнасці да гэтай “неверагоднай” беларускай агульнасці.

Апошнюю кропку ў справе разбурэння сацыяльнай дамовы паставілі далейшыя дзеянні праваахоўных і судовых органаў, якія стварылі сітуацыю прававога дэфолту ў краіне. Тым самым у момант былі канчаткова разбураныя гарантыі бяспекі і стабільнасці для ўсяго грамадства, а ў перспектыве і эканамічнага дабрабыту, нават для тых, каму было дастаткова і невялікіх “савецкіх”стандартаў.

Трэба адзначыць, што дэнансацыя сацыяльнага кантракту – гэта на самрэч сістэмны крызіс дзяржавы як такой. Бо дзяржава, гэта не кіроўны апарат, гэта сістэма сацыяльных інстытутаў, што выконваюць як агульныя, так і спецыфічныя функцыі. І зараз назіраецца фрагментацыя дзейнасці інстытутаў, дэканструкцыя іх функцыянальных абавязкаў, іх сацыяльна-палітычнае вылягчанне. То бок, з пэўнага пункту гледжання, захады ўлады зараз спрыяюць не ўмацаванню дзяржавы, а яе разбурэнню.

Адзначым, што у грамадстве зараз адбываюцца супрацьлеглыя працэсы – на базе рэсурсаў і напрацовак, назапашаных за мінулы час, зараз шляхам нарошчвання гарызантальных сувязяў ствараецца новая сацыяльнасць, новыя камунікатыўныя, арганізацыйныя і праксеалагічныя мадэлі. Пакуль яны з большага функцыянуюць інтуітыўна і шукаюць аптымальныя формы існавання, але відавочна – яны ёсць падмуркам будучых інстытуцыяў, з якіх у Беларусі будзе будавацца дзяржава новага кшталту.

## Высновы

Фактычна, можна казаць, што сёння ў Беларусі на тле скасаванага сацыяльнага кантракту рэалізуецца новы тып рэвалюцыі, – гарызантальнай, – пры якой іерархічныя сістэмы становяцца дысфукнцыянальнымі, і іх пачынаюць змяняць гарызантальныя, ініцыятыўныя і самаарганізаваныя структуры.

Тут варта дадаць, што тэндэнцыя да пераходу ад вертыкальных да гарызантальных тыпаў сацыяльных сувязяў (уласна сацыяльных, камунікатыўных, палітычных, эканамічных і г.д.) характэрная для заходняй цывілізацыі ўжо не першае дзесяцігоддзе. Аднак, верагодна, толькі ў Беларусі гэта супрацьстаянне набыло гэтак відавочны і заняты характар.

## Бібліяграфія:

### Літаратура:

Абушенко В.Л. Мицкевич как «креол»: от «тутэйшых генеалогий» к генеалогии «тутэйшасці», [у] *Фрагмэнты*. 2001. № 1-2.

Акудовіч В. *Архіпелаг Беларусь*. Галіяфы, Мінск, 2010.

Сіліцкі В. *Беларусь: анатомія прэвэнтыўнага аўтарытарызму*, [у:] *Код прысутнасці: анталогія беларускага мыслення 2000-2015*. Логвінаў, Мінск, 2016.

**Інтэрнэт-крыніцы:**

http://eedialog.org
https://belinstitute.com
https://eurobelarus.info
https://nmnby.eu
https://telegra.ph

Наталья Огорелышева [1]

# Беларусь-2020: социально-культурные процессы через призму COVID-19

Natallia Aharelysheva

# Belarus-2020: social and cultural processes through COVID-19 prism

**Ключевые слова:** Беларусь, COVID-19, эпидемия, пандемия, сообщества, религиозная среда, политика.
**Key words:** Belarus, COVID-19, epidemic, pandemic, communities, religious environment, politics

**Abstract**
This article is an attempt to deal with a new challenge for Belarus - the epidemic of coronavirus infection (COVID-19). The epidemic affected almost all segments of the population, but its course was influenced by both the current political situation and the position of the Ministry of Health and religious practices. The situation has worsened even more after the events of August 2020, but more than a year has passed, and therefore to sum up some interim results.

*Вступление*

В данной статье рассматриваются процессы, происходящие в Беларуси с момента регистрации первых случаев COVID-19. Оценивается 2020 г. – как самый показательный период, когда пришлось столкнуть с новым вирусом и выработать стратегии работы с ним на различных уровнях. В силу моей смешанной профессиональной идентичности (в своё время я работала как в Центре гигиены и эпидемиологии, так и в церковной организации), я постаралась сфокусироваться на вызовах и угрозах в самых уязвимых сообществах – медицинской и религиозной среде. Для этого я изучила материалы СМИ (государственных и независимых), провела включенное наблюдение, а также взяла полуструктурированные интервью у своей бывшей коллеги – работницы медучреждения и раввина одной из синагог г. Минска.

*Ситуация с COVID-19 в Беларуси*

Белорусская ситуация отличается от общеевропейской. Так, эпидпроцесс с самого начала не был сфокусирован в руках специалистов – медицинских работников. В Беларуси принят такой механизм оповещения: медицинский работник, выявивший инфекционное заболевание, должен подать экстренное извещение в Минский городской центр гигиены и эпидемиологии (МГЦГиЭ), а он, в свою очередь – в территориальный Центр гигиены и эпидемиологии

[1] Беларуская Акадэмія, магистр гуманитарных наук, член ICOMOS-Belarus, Минск, Беларусь

(ЦГиЭ) по месту жительства заболевшего. Далее сотрудник ЦГиЭ назначает и проводит противоэпидемические мероприятия по разрыву эпидпроцесса как в домашнем очаге, так и в организованном коллективе. Ситуацию, когда эту функцию взял на себя государственный аппарат (контроль «сверху»), диктующий, что и как делать медицинским работникам, можно считать бесконтрольной и неуправляемой.

Поэтому с момента регистрации первых случаев коронавирусной инфекции начались манипуляции с эпидситуацией («как хочу – так и выкручиваю»), что привело к следующим событиям:

- 10.02.2020 г. были приняты меры по предупреждению и распространению коронавирусной инфекции[1], которые, фактически отражали спектр проведенных противоэпидемических мероприятия на государственной границе, в аэропорту, в отношении прибывающих мигрантов/туристов/студентов в Беларусь и количество лабораторных проб. Внутри же самой республики карантин так и не был объявлен. А это значит, что все детские и подростковые коллективы, а также профессиональные коллективы продолжали функционировать (не были полностью закрыты), несмотря на регистрируемые случаи коронавирусной инфекции;

- на сайте Республиканского центра гигиены и эпидемиологии (РЦГиЭ) фактически можно отследить[2] эпидситуацию с коронавирусной инфекцией в Беларуси и в мире, но она обновляется не ежедневно, кроме того, исчезли данные с момента регистрации первого случая в Беларуси (теперь первая запись – с 01.09.2020 г.);

- Центрам гигиены и эпидемиологии г. Минска пришлось работать в 2 смены. Это было связано не только с выходами в очаги коронавирусной инфекции и контролем противоэпидемических мероприятий – по каждому случаю нужно было подавать внеочередное донесение в вышестоящую инстанцию, что сводило основную работу к бюрократизму[3];

- 08.04.2020 г. в Минске утвердили план дополнительных мероприятий по профилактике острых респираторных инфекций, в том числе вызванных COVID-19;

- несмотря на это, не были отменены государственные праздники, сопровождающиеся скоплением большого количества людей (*в том*

[1] *О принимаемых мерах по предупреждению завоза и распространения инфекции, вызванной коронавирусом 2019-nCoV* [он-лайн]: https://rcheph.by/%D0%9E%20%D0%BF%D1%80%D0%B8%D0%BD%D0%B8%D0%BC%D0%B0%D0%B5%D0%BC%D1%8B%D1%85%20%D0%BC%D0%B5%D1%80%D0%B0%D1%85%20%2010.02.pdf

[2] *Коронавирус 2019.* Веб-сайт Государственного учреждения «Республиканский Центр гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья» [он-лайн]: https://rcheph.by/news/koronaavirus-2019.html

[3] *Интервью 1.*

*числе, с участием пожилых людей*) – парады на 9 мая[1] и 3 июля[2] и другие массовые мероприятия, невзирая на предупреждения экспертов ВОЗ[3] и координаторки ООН[4];

- более того, состоялись народные обряды с видеотрансляцией: «Вождение Кусты» в агрогородке Лобча Лунинецкого района[5] и в деревне Полкотичи Ивановского района[6] (оба населенных пункта – в Брестской области);

- события до и после 9 августа (выборов президента) – ситуация до сих пор остается нестабильной и опасной, т.к. люди участвуют в протестных маршах, оказываются в СИЗО (часто – совершенно случайно), где вновь становятся заложниками правящего режима, кроме того, имеют риск заражения COVID-19[7];

- масочный режим был введен только 17.11.2020 г.[8], т.е. на 11 месяц с момента регистрации первого случая COVID-19;

- в конце декабря 2020 г. в Беларуси была начата вакцинация населения российской вакциной «Спутник V». Я обратилась с вопросами: «Стоит ли прививаться?» и «Прививалась ли ты сама?» к бывшей коллеге-иммунологу, и вот какие ответы были получены: «Я не прививалась, отказалась. Ты сама знаешь, сколько надо времени, чтобы изучить новую вакцину, а тут и года не прошло, как уже все прививаются. Не верю я в это». Когда спустя несколько месяцев я спросила о китайской вакцине, то получила такой ответ: «У нас все прививаются российской вакциной. А китайская да, есть в наличии»[9], т.е. вопрос с иммунизацией каждый решает самостоятельно;

- в сложившейся ситуации возникают следующие вопросы: «Как быть?», «Что делать?» и «Стоит ли доверять официальной статистике?». Совсем недавно, 19.04.2021 г., было опубликовано исследование «Медиазоны» за 2020 г. «Минск ковидный. В 2020 году в

---

[1] *В Беларуси празднуют День Победы*. Веб-сайт Белта [он-лайн]: https://www.belta.by/society/view/v-belarusi-prazdnujut-den-pobedy-390233-2020/

[2] *Беларусь отпраздновала День Независимости.* Веб-сайт Белта [он-лайн]: https://www.belta.by/society/view/belarus-otmechaet-den-nezavisimosti-obnovljaetsja-397219-2020/

[3] *Миссия ВОЗ: Беларусь должна готовиться к худшему сценарию* [он-лайн]: http://surl.li/aeaws

[4] *Каардынатарка ААН у Беларусі заклікала ўлады неадкладна выканаць рэкамендацыі СААЗ.* Веб-сайт Hrodna.life [он-лайн]: https://hrodna.life/2020/04/28/aan-zaklikae/?fbclid=IwAR3T2CMeDxRh_Ypr_ssk93RNs-1fREqTPxJOX98-0GmeHk9WrIxv9_wofDU

[5] *«Беларусь 3» покажет стародавний обряд «Вождение Кусты».* Веб-сайт Белта [он-лайн]:https://www.belta.by/culture/view/belarus-3-pokazhet-starodavnij-obrjad-vozhdenie-kusty-393808-2020

[6] *Как Кусту в Полкотичах водили. Большой фоторепортаж с уникального обряда.* Веб-сайт Белта [он-лайн]: https://www.sb.by/articles/kak-kustu-v-polkotichakh-vodili.html

[7] *Коронавирус в Беларуси: что происходит в СИЗО во время пандемии?* [он-лайн]: https://www.dw.com/ru/koronavirus-v-belarusi-chto-proishodit-v-sizo-vo-vremja-pandemii/a-56058373

[8] *Масочный режим в Беларуси*. Веб-сайт hata.by [он-лайн]: https://www.hata.by/articles/masochnyj_rezhim_v_belarusi-9181/

[9] *Интервью 1.*

столице от коронавируса умерло больше людей, чем официально по всей Беларуси»[1], с которым могут ознакомиться все желающие;

- выросла роль правозащитных организаций. Одна из самых известных, Human Constanta, в марте 2020 г. запустила сайт covidmonitor.by, где собрана информация о том, как органы власти в Республике Беларусь реагируют на ситуацию с COVID-19. На сайте можно посмотреть хронологию заявлений, действий, реакций государственных органов. Все данные были отрефлексированы и также обобщены в отдельном сборнике «Коронавирус в Беларуси: воздействие на права человека»[2].

*COVID-19 в религиозной среде*

COVID-19 в этой среде следует рассмотреть отдельно, т.к. религиозным сообществам в кратчайших срок нужно было приспособиться к существующей реальности. Кроме того, апрель 2020 г. был знаковым месяцем для основных конфессий Беларуси, т.к. католики и православные праздновали Пасху, иудеи – Песах, а у мусульман начался месяц Рамадан. Опять же, ограничительные мероприятия носили не обязательный, а рекомендательный характер.




***Рис. 1.*** *Белорусская шуточная картинка в преддверии религиозных праздников.*

Религия – это многослойный дискурс: это и защита, и угроза, и утешение, и вера в то, что человек бессмертен и болезни нет. Но люди все равно болеют. Для православных и вовсе время разделилось на до и после Пасхи, ведь главный посыл – выдержим до Пасхи, значит, будем жить, потому что Христос победил смерть.

Кроме того, в церковной среде существует поверье – кто умрет от Пасхи до Вознесения, пойдет в святые. И главный посыл праздника – победа жизни над




[1] Г. Лепейко; К. Хейфец, *Минск ковидный. В 2020 г ... людей, чем официально по всей Беларуси – исс...* Беларусь [он-лайн]: https://carbide-da... minsk?fbclid=IwAR3YCVTGNCHqgWfCr5jGZU3Go4...

[2] Ю. Стасюк, *Коронавирус в Беларуси: воздействия ...* Интернет-портал Human Constanta [он-лайн]: ... vozdejstviya-na-prava-cheloveka-mart-2020-fevral-2021... _4yPN7vH50cRxFawkNAyQ-jkXbLnIcCr-aL6spLfkG8...

смертью: «Смерть! Где твое жало? Ад! Где твоя победа?»[1].

***Рис. 2.*** *Слова митрополита Павла в Великий пост-2020.*




Однако самыми первыми с религиозными праздниками столкнулись *иудеи*. Ведь еще в марте 2020 г. в синагогах праздновали самый веселый праздник – Пурим. Но последнее мероприятие, карнавальную вечеринку 15 марта в баре «Гости» было решено отменить в связи с ростом заболеваемости COVID-19:

***Рис. 3.*** *Реклама мероприятия Purim Mesiba "Дикий Запад» в г. Минске и его отмена с связи с ростом* COVID-19.

Именно с 15 марта все еврейские светские сообщества Беларуси перешли в режим работы он-лайн (по решению спонсоров из Америки и Израиля).

Что касается синагог, то службы в них было решено проводить на расстоянии с минимумом участников и также с возможностью подключения он-лайн[2].




[1] *1 Кор. 15:55*. Интернет-портал https://bible.by/ [он-лайн].

[2] *Интервью 2*.

***Рис. 4.*** *Ю-туб канал Центра прогрессивного иудаизма «Бейт Симха» (г. Минск).*




***Рис. 5.*** *Шуточная картинка накануне праздника Песах-2020.*

Также был изменен популярный девиз *грядущего праздника Песах* (08.04 – 16.04.2020 г.) – «Let my people go» на «Stay at home»:

На протяжении всей Песаховой недели как светскими, так и религиозными еврейскими организациями было подготовлено множество он-лайн мероприятий, в том числе, и международных:




***Рис. 6.*** *Афиши еврейских он-лайн мероприятий в Песах-2020.*

Как отмечали участники этих мероприятий, он-лайн трансляция – это «колоссальный опыт солидаризации и обмена опытом по самым разным вопросам и возможность побывать в разных странах мира в

течение короткого периода и разделить общую радость (от мероприятия, знакового события и т.д.)»[1].

11.04.2020 г., за неделю до православной Пасхи, вышло *«Обращение Синода Белорусской православной церкви в связи с угрозой распространения коронавирусной инфекции»*, ключевой фразой которого была следующая: «Людям, обнаружившим у себя или своих близких родственников признаки сезонных вирусных заболеваний (повышенную температуру тела, насморк, боль в горле, трудности с дыханием и т.д.) благословляется воздержаться от участия в общественных богослужениях, обратиться к врачам и строго следовать их указаниям»[2].

В этот же день состоялось вечернее *Пасхальное богослужение у католиков* с прямой трансляцией из главного костела Беларуси.

Несмотря на предостережения ксендзов, все равно много людей пришли в костелы. Однако, было много и тех, кто остался дома и смотрел Пасхальную службу на своих ноутбуках и компьтерах. Митрополит Тадеуш Кондрусевич это прокоментировал так: “Бог нас защищает, но он дал нам разум – оставаться дома или идти на службу”[3].




***Рис. 7.*** *Реклама праздничной Пасхальной трансляции из архикафедрального костела Пресвятой Девы Марии (г. Минск).*

- 18-19.04.2020 г. *православные праздновали Пасху*. На некоторых приходах праздник прошел «как обычно».

[1] Там же.
[2] *Обращение Синода Белорусской Православной Церкви в связи с угрозой распространения коронавирусной инфекции.* Интернет-портал Пролайф Беларусь [он-лайн]: http://surl.li/aeaxd
[3] цит. по «*Бог нас абараняе, але даў нам розум». Мітрапаліт Кандрусевіч распавёў пра меры Касьцёлу падчас пандэміі*. Веб-сайт Радыё Свабода [он-лайн]: https://www.svaboda.org/a/30587636.html?fbclid=IwAR0sGC789alS6IrntyA_ZToQ9ilGXDZ-fFFDCs5oEHMXkov-5g0QVASONm4



18 апреля
Великая Суббота
9.00 – Божественная литургия (пр-т газеты «Правда» 31)
11.30 – 22.00 – Освящение куличей и яиц
(пр-т газеты «Правда» 31)
11.30 – 22.00 – Освящение куличей и яиц (пр-т газеты «Звезд
19 апреля (воскресенье)
Светлое Христово Воскресение. ПАСХА
23.30 – Пасхальная заутреня. Крестный ход.
Божественная литургия (пр-т газеты «Правда» 31)
10.00 – Божественная литургия (пр-т газеты «Правда» 31)
17.00 – Великая Вечерня (пр-т газеты «Правда» 31)

***Рис. 8.*** *Пасха-2020 на приходе Преображения Господня (г. Минск): освящение куличей и яиц (в двух местах), службы на протяжении всего дня.*

То есть, несмотря на ограничения и предупреждения, богослужения и освящения шли полным ходом. Более того, прихожане не соблюдали дистанцию в 1-1,5 м, рекомендованную ЮНИСЕФ и другими организациями.

В Пасхальную ночь был переполнен и единственный монастырь Минска – Свято-Елисаветинский. Хоть монастырь и вел прямую трансляцию на протяжении всей ночной службы, большинство прихожан предпочли присутствовать на ней лично:






***Рис. 9, 10.*** *Пасха-2020 на приходе Преображения Господня (г. Минск): не соблюдение социальной дистанции по рекомендациям ЮНИСЕФ.*




***Рис. 11.*** *Пасха-2020 в Свято-Елисаветинском монастыре г. Минска: несмотря на возможность он-лайн трансляции, много прихожан присутствуют оффлайн.*

Для сравнения: накануне Пасхи в храме Гроба Господня в Иерусалиме традиционная церемония схождения Благодатного огня впервые за многие века прошла без верующих и паломников – с учетом текущих ограничений на публичные собрания из-за коронавируса[1].

С 23 на 24 апреля 2020 г. *у мусульман начался месяц Рамазан*. Мечети были закрыты, ведь мусульмане могут поклоняться Аллаху в любых условиях. «Мечети закрыты, но прекращение коллективных молитв не должно отменить наш культ» – так объяснил это решение главный муфтий Беларуси Али Воронович[2].

28 апреля *православные праздновали Радоницу (Радуницу)* – день поминовения усопших, когда принято обходить могилы родственников, а в последние годы – и «помянуть», организовав у надгробий импровизированные столы. Накануне этой даты были организованы специальные автобусные рейсы на кладбища, а кондитерская фабрика «Коммунарка» для упомянутого выше Свято-Елисаветинского монастыря выпустила «тематические» конфеты – «Поминальные». Эти действия в свете новостных заголовков в СМИ получили абсолютно противоположную коннотацию:

---

[1] *Благодатный огонь сошел в полупустом храме.* Веб-страница Израиль в Беларуси в Facebook [он-лайн]: https://www.facebook.com/IsraelinBelarus/posts/2832678860118682

[2] цит. по: *На Рамазан беларускія мусульмане будуць маліцца дома, мячэці закрылі.* Интернет-портал Новы час [он-лайн]: https://novychas.by/hramadstva/na-ramazan-belaruskija-musulmane-buduc-malicca-dom?fbclid=IwAR17eOZneK0dvDvvzzSKtifbiPKq2TCvr8efGa3k2PuMoPQO3sRSIdMvaKw




***Рис. 7.*** *Новостные заголовки и «Поминальные» конфеты накануне Радуницы-2020.*

Тут следует отметить, что *церковь и кладбище* – это два культурных маркера, известных еще с древних времен. Ф. Арьес в своей книге «Человек перед лицом смерти» пишет о том, что «культ могил и кладбищ – это литургическое проявление новой чувствительности, в которой, начиная с конца XVIII в. смерть «другого» становится нестерпимой. Кладбище становится схематическим образом общества, разделенного на семейные группы»[1].

И здесь в силу вступает культ наследия – это материализованный культ предков. Поэтому защитный механизм человеческой психики – память о предках и стремление вырваться за пределы временного пространства, а мотив – сожаление об утрате и желание минимизировать психологическую травму[2].

Но последствия не заставили себя долго ждать – после праздников в Свято-Елисаветинском монастыре началась вспышка COVID-19. Священноначалие монастыря сначала отрицало этот факт, а духовник А. Лемешонок назвал болезнь «наказанием за безбожие»[3].

Однако, уже 30.04. 2020 г. митрополит Павел заявил, что «халатное отношение или сознательное несоблюдение санитарных норм, а также любые призывы игнорировать основанные на компетентном мнении врачей инструкции Священноначалия Церкви в период эпидемии являются не свидетельством веры или «стояния в Истине», но преступлением против ближних, а значит – и против Бога.

[1] цит. по Ф. Арьес, *Человек перед лицом смерти*, Москва, 1992, с. 265.
[2] С. Стурейко, *Антропология архитектурного наследия: взгляд на Беларусь*, Минск, 2010, с. 18.
[3] Т. Мельничук; А. Исаченко, *Коронавирус в Беларуси: всплеск заболеваемости, открытые храмы и закрытая информация.* Веб-страница BBC News Русская служба [он-лайн]: https://www.bbc.com/russian/news-52421423.

И отвечать за эти преступления каждый виновный будет перед Богом»[1], т.е. полностью изменил свою первоначальную точку зрения. Православная церковь переживала растерянность, ведь никто не верил, что такое может быть – и заболевания, и смертные случаи. Хотя, с точки зрения эпидпроцесса все было циклично и логично. Наконец-то учтя эти факторы и пожелания митрополита, было решено закрыть Свято-Елисаветинский монастырь на карантин:




***Рис. 8**. Фото с сайта Свято - Елисаветинского монастыря за 30.04.2020 г.*

Стоит подробнее остановиться и на личности А. Лемешонка – упомянутого выше одиозного духовника Свято-Елисаветинского монастыря. Он известен своими следующими высказываниями по поводу вспышки COVID-19 в монастыре:

- благодать убивает вирус;

- к сожалению, в Церкви мы все грешны. И если человеку суждено заразиться, он заразится. Рано или поздно все мы уйдем из этого временного мира;

- какая разница – умереть сейчас или через 20 лет? У Бога время – вечность;

- вирус греха – это самое страшное. Или я умру в храме и пойду к Богу или проживу 100 лет, но умру без Бога – вот что страшно;

- мы боимся умереть без Бога, а вот боимся ли мы умереть вообще?

- эта болезнь как посещение Божье – человек увидел себя со стороны, а это большая милость, все стало болеть – это Бог посетил меня[2].

[1] цит. по: *Заявление Патриаршего Экзарха в связи с продолжающимся распространением коронавирусной инфекции в Республике Беларусь.* Официальный портал Белорусской Православной Церкви [он-лайн]: http://church.by/news/zajavlenie-patriarshego-ekzarha-v-svjazi-s-prodolzhajushimsja-rasprostraneniem-koronavirusnoj-infekcii-v-respublike-belarus.

[2] Цит. по: *Правильно ли сегодня идти в храм? Вопрос духовнику обители.* Официальный сайт Свято-Елисаветинского монастыря [он-лайн]: https://obitel-minsk.ru/chitat/den-za-dnyom/2020/pravilno-li-segodnya-idti-v-xram?fbclid=IwAR3cyLAvF5pjdL_lD9zC-A3GsnlmL6SMiLdurpCv4D_wKC52n7nTeB1NFBU

N. Slizh, *Transformation of the burgher mentality: the case of Horodno* (16th – 17th centuries), [in:] *Crossroads from Rus' to…*,ed. by R. Dymczyk, I. Krywoszeja, N. Morawiec, vol. 2, Częstochowa–Humań–Poznań 2015, p. 23-34.

Сліж Н., *Гарадзенскі бурмістраўска-радзецкі суд: суадносіны судовай практыкі з магдэбургскім правам (1639–1642 гады)*, „Палітычная сфера. Гісторыя: літаратура, права, палітыка", 2014-2015, № 22-23, с. 35-51.

Сліж Н., *Гарадзенскі войтаўска-лаўніцкі суд (1638-1644 гг.): суадносіны судовай практыкі з магдэбургскім правам*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2016, t. 45, s. 46-71.

Сліж Н., *Дзейнасць суда гарадзенскага войта ў 1660–1676 гг.*, „Rozdroża", t. IV: Europa Środkowa i Wschodnia w historii i *historiach* historyków, Częstochowa–Humań–Poznań 2017, s. 77-94.

Сліж Н., *Магдэбургскае права ў Гародні ў канцы XV – першай палове XVI ст.: увядзенне і развіццё* [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV–XX стст.*, пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж, Мінск 2012, с. 10–44.

Сліж Н., *Першыя цэхі ў Гародні і іх рамеснікі ў XVI–XVII стст.*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2020, № 53, с. 7-30.

**Архіўныя крыніцы**

Biblioteka Uniwersitetu Warszawskiego, Gabinet rękopisów, sygn. 260, dok. 2.

Katalog testamentów mieszkańców Brześcia i Grodna od XVI do początku XVIII wieku, oprac. N. Sliž, Warszawa 2017.

Archiwum Głowne Akt Dawnych, Archiwum Radziwiłłów, dz XVIII, sygn. 304.

Нацыянальны Гістарычны архіў Беларусі, ф. 1761, воп. 1., спр. 1.

Vilniaus universiteto biblioteka, f. 3-2263.

Сяргей Марозаў[1]

# Тадэвуш Касцюшка ў гістарычнай памяці сучаснага беларускага грамадства

Siarhei Marozau

# Tadeush Kastsyushka in the historical memory of modern Belarusian society

**Ключавыя словы:** Тадэвуш Касцюшка, гістарычная памяць, беларускае грамадства, ідэнтычнасць

**Key words:** Tadeush Kastsyushka, historical memory, Belarusian society, identity

**Abstract:** The article reflects the current processes in Belarus in the field of formation of historical memory. It is shown the place of Tadeush Kastsyushka in the memory of Belarusians, the actualization of this memory in 2016–2021. The essence of the existing currents in relation to Kastsyushka in the mass consciousness is revealed. The problematic places of the historical memory of Belarusians, which were revealed by recent discussions about the figure of Kastsyushka, have been outlined.

## *Якія працэсы адбываюцца сёння ў Беларусі ў сферы фарміравання гістарычнай памяці?*

Беларускі народ мае багатую гісторыю сваёй дзяржаўнасці, якая сягае каранямі ў часы Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага. Аднак да нядаўняга часу Беларусь знаходзілася пад гегемоніяй спачатку польскага, а потым – расійскага, у царскай Расіі і Савецкім Саюзе, нацыянальных праектаў, якія спрабавалі прысабечыць яе мінулае, трактавалі яе як аб’ект гістарычнага працэсу. Уласны шлях Беларусі аказаўся заключаным у гісторыях Польшчы і Расіі, чые даследчыкі мэтанакіравана падганялі беларускую гісторыю пад нацыянальна-дзяржаўныя інтарэсы сваіх краін. Разам з разрывам у самой Беларусі даследчай пераемнасці і адсутнасцю дамінуючага, арыентаванага на нацыянальныя каштоўнасці пласту навукоўцаў і дзеячаў культуры, якія б з пакалення ў пакаленне прымалі-перадавалі ў спадчыну традыцыі даследавання і трактоўкі айчыннай гісторыі, гэта прывяло да страты беларусамі арыенціру ў самаўсведамленні, ідэнтычнасці. Ва ўмовах, калі нацыянальнае доўгі час лічылася ледзь не антыдзяржаўным, Беларусь не здолела сфарміраваць сваю “неканфліктную”, узгодненую ва ўсіх яе частках, агульнапрызнаную нацыянальную гістарычную канцэпцыю, што замаруджвае працэс фарміравання масавай гістарычнай свядомасці.

З-за адсутнасці адзінства меркаванняў і кансалідацыі вакол адзінай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі адбываецца суперніцтва розных версій гістарычнай памяці. Яно выяўляецца ў

[1] Беларуская Акадэмія, кандыдат гістарычных навук, Гродна, Беларусь

спрэчках кшталту, якімі падзеямі мінулага мы павінны ганарыцца, а якія факты лепш не варушыць? Хто з’яўляецца нацыянальным героем, а хто – антыгерой? Ці маем мы права “людзьмі звацца” і заняць “пачэсны пасаг між народамі” або змірыцца з роллю “негістарычнага народа”, які не сам вырашаў свой лёс, але за яго гэта рабілі больш моцныя сілы на Захадзе або Усходзе? Урэшце, хто мы ёсць – ці мы ўсё ж “рускія са знакам якасці” або сапсаваныя палякі?

Адзін з найважнейшых культурных працэсаў у сучаснай Беларусі – гэта імкненне “адкапаць”, адшукаць сваё мінулае і зразумець яго, а таксама фарміраванне гістарычнай ідэнтычнасці на грунце знакавых падзей і постацяў мінулага. Гэту ідэнтычнасць умацоўваюць пісьменнікі, шырэй – людзі культуры, якія вяртаюць Беларусі мінулае і “нацыяналізуюць” яго. Так, распачатае ў 1990-я г. дзякуючы Уладзіміру Караткевічу вяртанне міта Вялікага Княства Літоўскага як часткі гістарычнай спадчыны беларускага народа трывае па сённяшні дзень.

Да гістарычнай памяці сёння актыўна далучаецца маладое пакаленне. Для яго, сярод іншых прыярытэтаў, становіцца моднай нацыянальная беларускасць. Прыклад са сферы навучання: калі ў беларускіх універсітэтах навучаліся толькі мясцовыя студэнты, галоўнай была іх стратыфікацыя на гарадскіх і сельскіх. Цяпер у беларускіх ВНУ шмат туркменаў, арабаў, індусаў, кітайцаў, афрыканцаў. Пад уплывам такой разнастайнасці падзел на гарадскіх і вяскоўцаў адышоў на другі план. На першы план выйшла нацыянальная ідэнтычнасць: мы – беларусы, яны – іншаземцы. Але што значыць быць беларусам?

Вырасла пакаленне тых, хто нарадзіўся ў незалежнай Беларусі і ўжо не застаў сваіх продкаў, якія жылі пры царызме, ваявалі ў Першую і Другую сусветную войны, зведалі сталінскі культ асобы, брэжнеўскі застой. Сярод пакалення тых, каму сёння 25–35 гадоў, паціху сыходзіць у нябыт папулярны ў іх папярэднікаў канцэпт “абы чарка ды шкварка” і “абы не было вайны”. Гэта пакаленне зразумела, што для годнага і самазабяспечанага жыцця патрэбна актыўнасць: дзелавая, грамадзянская і іншая. Поле яго кругагляду значна пашырылася ў параўнанні з папярэднікамі, і пытанне ідэнтычнасці, самаўсведамлення ўваходзіць у гэта поле.

Шэраг знешніх выклікаў таксама прымушаюць беларускі народ і кіраўніцтва краіны больш пільна звярнуцца да пытання самаідэнтычнасці. Па-першае, гэта развіццё турызму. Замежнікі прывозяць добрыя грошы, але паўстае пытанне, як іх прывабіць, што паказаць, чым затрымаць, каб прыязжалі не на адзін дзень? Аказалася, што старажытных замкаў і палацаў заходнееўрапейскага ўзроўню ў нас няшмат, а тэма Другой сусветнай вайны замежных турыстаў цікавіць мала. Менавіта самабытная культура, традыцыі, мясцовая гісторыя іх

прываблiваюць найбольш. Турысты з Захаду і з Усходу хочуць бачыць не чарговую піцэрыю або сушы-бар, а нацыянальную беларускую кухню з дзерунамі і кумпяком, не Суворава і Леніна, а Касцюшку і Баторыя.

Па-другое, гэта захады з Усходу ў дачыненні да бліжэйшых суседзяў пад новай парадыгмай збірання земляў Масквой. Спачатку Украіна. На парадку дня – паглыбленне інтэграцыі Беларусі з Расіяй, якое выклікае трывогу на прадмет захавання нашай дзяржавай суверэнітэта. Дарэчы, апошні час нават палітыкі з Захаду і з Усходу звярнулі ўвагу на слабасць нацыянальнай самаідэнтычнасці беларусаў, а некаторыя сцвярджаюць аб яе адсутнасці ўвогуле.

Такім чынам, гістарычная памяць беларусаў сёння характарызуецца разнастайнасцю версій і спробамі знайсці нацыянальную ідэнтычнасць на грунце сваёй мінуўшчыны. З аднаго боку, для маладой нацыі такія спрэчкі – цалкам натуральная з’ява. У той жа час “канфлікты памяці” не спрыяюць нацыянальнай кансалідацыі, тармозяць працэс стварэння гамагеннай ідэнтычнасці і абуджэння гістарычнай памяці. Калі адкрыць у інтэрнэце любы артыкул пра надзённае пытанне на тэму культуры або палітыкі, у каментарах відавочныя два супрацьлеглыя падыходы, адзін з другім прынцыпова не згодныя на глебе рознай культурнай памяці, хоць большасць чытачоў лічыць сябе беларусамі.

*Якое месца займае Тадэвуш Касцюшка ў памяці беларусаў?*

Тадэвуш Касцюшка ад самага пачатку ўспрымаўся беларусамі як свой герой. Укаранёнасць яго вобраза ў культуралагічны і гістарычны дыскурс беларускага народа даказаў праз аналіз фальклору і літаратуры канца XVIII–XIX ст. Анатоль Трафімчык. Аднак у Расійскай імперыі гэту памяць удалося прыглушыць. У рамках вялікадзяржаўнай рэгламентацыі імперыя не дапускала залічэння ў пантэон сваіх антаганістаў. І хоць Касцюшка стаў трэндам у гістарычнай памяці паборнікаў Рэчы Паспалітай, два фактары абумовілі маргіналізацыю яго вобраза ў беларускай культуры, дзе ён спачатку быў даволі рэпрэзентатыўны. Першы – палітыка заходнерусізму і паралельны працяг паланізацыі адлучылі мадэрную беларускую нацыю ў яе самым зародку ад ліцвінскай глебы і нівеліявалі ўспрыманне Рэчы Паспалітай як поліэтнічнай дзяржавы, у тым ліку беларускага народа. Другі фактар – прыход у гісторыю народа новых герояў, перадусім Кастуся Каліноўскага, які да таго ж знаходзіўся ў адным хранатопе з нацыягенэзам беларусаў. Толькі ў канцы 1970-х г. адбылося рэанімаванне вобраза Касцюшкі беларускімі мастакамі слова, а з

пачатку 1990-х г. узнік мэйнстрым у асваенні гэтага вобраза. Тон задалі паэты. У 2000-я г. падключыліся празаікі і драматургі[1].

Беларуская гістарычная навука, якая да часу суверэннасці Беларусі мела мінімум інфармацыі пра Касцюшку, паступова стала нарошчваць масіў прац. Пачатак гэтаму працэсу паклалі ў першай палове 1990-х г. Язэп Юхо і Уладзімір Емяльянчык невялікімі, але знакавымі кніжкамі “За вольнасць нашу і вашу”, “Нарадзіўся я ліцвінам...”, “Паланез для касінераў”[2]. Вялізны аб’ём працы – больш за дзясятак манаграфій і зборнікаў дакументаў – выканаў на рубяжы стагоддзяў Яўген Анішчанка[3]. З’явай стала выданне Леаніда Несцярчука “Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка: Вяртанне героя на радзіму”[4] і краязнаўчыя працы Анатоля Бензерука ”Касцюшкі-Сяхновіцкія: Гісторыя старадаўняга роду” і “Крупчыцы. 1794 год. Падзеі і памяць роднай гісторыі”[5]. У 2017 г. Анатоль Трафімчык выдаў кнігу “Наш Касцюшка слаўны!” – першае комплекснае даследаванне яго мастацкага вобраза ў беларускай літаратурнай традыцыі[6].

Зварот майстроў пяра і вучоных да тэмы жыцця і дзейнасці Тадэвуша Касцюшкі стаў каталізатарам ўвагі да яе падрастаючага пакалення, школьнікаў і студэнтаў, маладых творцаў і даследчыкаў. І хоць фігура Касцюшкі і звязаных з ім падзей не карыстаецца павышанай навуковай увагай сярод гісторыкаў дзяржаўных устаноў

[1] А. В. Трафімчык, *Тадэвуш Касцюшка ў памяці беларускага народа,* [в:] *Тадэвуш Касцюшка ў дыскурсе 200-гадовай прасторы памяці: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 22 чэрвеня 2017 г.),* Энцыклапедыкс, Мінск 2018, с. 146-161; А. В. Трафімчык, *Тадэвуш Касцюшка: беларускі фокус,* [в:] Тамсама, с. 57-67.

[2] Я. Юхо, *За вольнасць нашу і вашу*, Навука і тэхніка, Мінск 1990; Я. Юхо, У. Емельянчык, *“Нарадзіўся я ліцвінам..” Тадэвуш Касцюшка*, Навука і тэхніка, Мінск 1994; У. Емяльянчык, *“Паланез для касінераў”*, Беларусь, Мінск 1994.

[3] Я. К. Анішчанка, *Беларусь у часы Кацярыны II (1772-1796 гады),* Веды, Мінск 1998; яго ж: *Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай*, Хурсік, Мінск 2003; яго ж: *В когтях двуглавого орла: Беларусь во времена Екатерины II (1772-1796 гг.),* Изд. В. Хурсик, Минск 2016; *Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции (по документам российских архивов)* / Составление, редакция и предисловие Е. К. Анищенко, Книжный дом “ЧеРо”, Москва 2000; *Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции (по документам архивов Москвы и Минска)* / Составление, редакция и предисловие Е. К. Анищенко, Молодежное научное общество, Минск 2001; *Камісары Касцюшкі. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі,* [в:] Я. К. Анішчанка, *Збор твораў у шасці тамах,* Выдавец Віктар Хурсік, Мінск 2004, т. 1; *Імем Айчыны. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі* [в:] Я. К. Анішчанка, *Збор твораў у шасці тамах,* Выдавец Віктар Хурсік, Мінск 2004, т. 2; *СССР. Святы саюз свабодных рыцараў. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцы*і, [в:] Я. К. Анішчанка, *Збор твораў у шасці тамах,* Выдавец Віктар Хурсік, Мінск 2006, т. 3; і інш.

[4] Л. Несцярчук, *Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка: вяртанне героя на радзіму*, Брэсцкая друкарня, Брэст 2006 (Серыя “Знакамітыя людзі Беларусі”).

[5] А. Бензярук, *Касцюшкі-Сяхновіцкія. Гісторыя старадаўняга роду*, Издательство Академия, Брэст 2006; А. Бензярук, *Крупчыцы. 1794 год. Падзеі і памяць роднай гісторыі,* ААТ Брэсцкая друкарня, Брэст 2007.

[6] А. В. Трафімчык, *“Наш Касцюшка слаўны!”: гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры,* А. М. Янушкевіч, Мінск 2017; А. Трафімчык, *Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове,* http://www.gants-region.info/_ld/0/38_19150-1.pdf. (доступ 14.03.2021).

Беларусі ішоў працэс яе «падцягвання» да пантэону найвыбітнейшых нацыянальных дзеячаў, як Кастусь Каліноўскі[1].

Гэтаму спрыялі зрухі ў мемарыялізацыі памяці пра сусветна знакамітага ўраджэнца Беларусі з атрыманнем ёю незалежнасці (да таго існаваў толькі адзін знак у гонар Касцюшкі – валун у колішняй залескай сядзібе Агінскіх з высечаным надпісам “Cieniom Kościuszki”): адзначэнне 200-годдзя паўстання (1994 г.), сотні публікацый у СМІ. Да сярэдзіны 1990-х г. імем Касцюшкі былі названы вуліцы ў Гродне, Брэсце, Косаве, устаноўлены мемарыяльныя знакі ў Гродне і Косаве. Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка правёў у 1997 г. дакументальна-мастацкую выставу памяці Касцюшкі[2].

Затым у працэсе Касцюшкавай мемарыялізацыі наступіла зацішша, абумоўленае, галоўным чынам, дзяржаўным курсам Беларусі на інтэграцыю з Расіяй. Але з пачатку XXI ст., калі ў Беларусі паступова страчвае значэнне савецкая культурная і гістарычная спадчына і разам з тым большая ўвага звяртаецца на мінулае менавіта беларускага народа, мемарыялізацыя Касцюшкі інтэнсіфікуецца. Павялічваецца колькасць вуліц яго імя, помнікаў яму, памятных знакаў, музейных экспазіцый. З’явіліся помнік-бюст у Малых Сяхновічах, капліца на Крупчыцкім полі, шыльда на сцяне Фарнага касцёла ў Гродне. У 2004 г. быў адноўлены родавы маёнтак Касцюшкаў у Мерачоўшчыне (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) і там створаны музей. У 2018 г. побач адрэстаўравалі Косаўскі палац Пуслоўскіх, якія ганарыліся суседствам свайго маёнтка з сядзібай, дзе нарадзіўся нацыянальны герой Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі. У 2017 г. актыўнасць беларусаў па ўшанаванні яго памяці выйшла за межы яго радзімы – у Швейцарыі адкрыўся першы ў свеце помнік Касцюшку, пастаўлены суайчыннікамі. Няўхільнае пашырэнне ў XXI ст. шэрагу мемарыяльных аб’ектаў у яго гонар, каталізацыя гэтых працэсаў беларускім грамадствам сведчаць пра ўспрыманне постаці Касцюшкі як з’явы сваёй гісторыі і культуры. А ўсё больш канструктыўная рэакцыя дзяржавы на грамадскія ініцыятывы дазваляе рассунуць межы Касцюшкаўскай мемарыялізацыі. Урэшце, як пра свайго героя загаварылі аб ім у вышэйшых колах беларускай палітыкі[3].

Яшчэ ў 2008–2009 г. Інстытутам сацыялогіі НАН Беларусі і сацыялагічнай лабараторыяй “Новак” паасобку былі праведзены даследаванні ўяўленняў беларусаў пра вызначаныя гістарычныя перыяды, постаці і падзеі. Сярод дзеячаў беларускай гісторыі, якія

[1] А. В. Трафімчык, *Тадэвуш Касцюшка ў памяці беларускага народа*, [в:] *Тадэвуш Касцюшка ў дыскурсе 200-гадовай прасторы памяці: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 22 чэрвеня 2017 г.)*, Энцыклапедыкс, Мінск 2018, с. 146-161.
[2] Тамсама.
[3] Тамсама.

выклікаюць гонар, сярод іншага неаднаразова быў названы Тадэвуш Касцюшка[1].

У 2016–2021 г. адбылася надзвычайная актуалізацыя постаці Касцюшкі ў гістарычнай памяці беларусаў. Пачатак дыскусій вакол яго асобы справакавала ігнараванне ўладамі ініцыятыў грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" паставіць помнікі Касцюшку ў Мінску, Брэсце і Косава і назваць у яго гонар адну з вуліц сталіцы. Калектыўны зварот з такімі прапановамі ў лютым 2016 г., у дзень нараджэння вялікага земляка беларусаў, быў пададзены ў Міністэрства культуры і Мінгарвыканкам[2]. Гэтыя прапановы справу з месца не рушылі, як і ранейшыя такія ініцыятывы.

Ідэя паставіць помнік у Беларусі зноў узнікла пасля таго, як беларуская дыяспара ў 2017 г. паставіла помнік Касцюшку ў горадзе Золатурне ў Швейцарыі, дзе ён жыў апошнія гады. Праз інтэрнэт арганізавалі збор сродкаў на помнік у Косаве. Адгукнулася 690 чалавек; сабралі больш за 22 тысячы рублёў. Скульптуру стварыў беларускі скульптар Генік Лойка. Грошы за яе браць адмовіўся.

Скульптура вышынёй 2,2 м. была адліта з бронзы ва Украіне. Тадэвуш Касцюшка глядзіць удалячынь. У адной руцэ ён трымае шаблю, другой рукой прыціскае да грудзей капялюш. Урачыстае адкрыццё помніка адбылося 12 мая 2018 г. Яго ўстанаўленне вельмі ажывіла памяць пра Касцюшку ў Беларусі. Як і ў той дзень, ушанаваць яго прыходзяць і чыноўнікі, і апазіцыянеры, і дыпламаты розных краін. Постаць Тадэвуша Кастюшкі стала аб'ядноўваць беларусаў. Раней такога не было. І гэты трэнд вельмі добры для Беларусі[3].

Чарговы віток грамадскага абмеркавання асобы Касцюшкі выкліканы адмовай вясной 2019 г. кіраўніцтва Мінгарвыканкама, са спасылкай на Акадэмію навук, на калектыўную просьбу-зварот надаць адной з вуліц Мінска імя Тадэвушка Касцюшкі. На запыт да навукоўцаў абгрунтаваць сваю пазіцыю даў афіцыйны адказ намеснік старшыні прэзідыума Нацыяльнай Акадэміі навук, фізік Сяргей Чыжык. У яго лісце сцвярджалася, што Касцюшка адстойваў інтарэсы Польшчы і ЗША, а не Беларусі і таму называць яго беларускім нацыянальным героем неправамерна[4]. Але потым ён прызнаў, што адказ атрымаўся не зусім карэктным, бо Касцюшка – "знакаміты палітычны дзеяч Польшчы, ЗША і Беларусі. Мы не можам выпадаць з

[1] А. Ластоўскі, *Гістарычная памяць у Беларусі: адметнасці і праблемы. Лекцыі 1–2* https://belcollegium.by/alyaksej-lastouski-gistarychnaya-pamyac-u-belarusi-admetnasci-i-prablemy-lekcyi-1-2/. (доступ 14.03.2021).

[2] *Беларусы хочуць Касцюшку,* https://bel.sputnik.by/culture/20160120/1019656521.html. (доступ 20.01.2016).

[3] *Палітычны момант у адным ФОТАфакце* ,https://nn.by/?c=ar&i=245667. (доступ 06.02.2020).

[4] *Віцэ-кіраўнік Акадэміі навук: Тадэвуша Касцюшку нельга называць нацыянальным героем Беларусі* , https://nn.by/?c=ar&i=235435.(доступ 13.08.2019).

гэтага шэрагу. Ён жыў і працаваў на тэрыторыі нашай краіны”, і вуліцы яго імя могуць з’явіцца ў беларускіх гарадах[1]. Справа ў тым, што за адказам на згаданы запыт стаяў гісторык Аляксандр Каваленя, член-карэспандэнт Акадэміі навук, які лічыць, што Касцюшка не з’яўляецца нацыянальным героем Беларусі. “Калі б Сувораў не разбіў Касцюшку, то не было б ніякай Беларусі, – перакананы А. Каваленя. – … Сувораў разбіў Касцюшку – і гэта дазволіла спыніць паланізацыю беларускага народа”[2].

Новую хвалю дыскусій з постаццю Касцюшкі ў іх цэнтры выклікаў канфлікт у лютым 2021 г. беларусаў з расійскім пасольствам у нашай краіне, які здарыўся на Instagram-старонцы Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Нагодай стаў каментар, які расійскі амбасадар пакінуў пад публікацыяй музея, дзе Касцюшка названы героем чатырох краін і двух кантынентаў. Ён пацікавіўся, якія чатыры краіны маюцца на ўвазе, а пасля адказаў, што “назваць Касцюшку беларускім нацыянальным героем – распісацца ў сваім гістарычным невуцтве”. Беларусы абурыліся грубіянствам амбасады Расіі, якая пачала вучыць жыццю Нацыянальны гістарычны музей за выраз “Касцюшка – герой чатырох краін”, і адрасавалі ёй сотні рэзкіх каментароў

У сувязі са спрэчкай паміж пасольствам Расіі і Гістарычным музеем Міністэрства замежных спраў Беларусі ў асобе яго прэс-сакратара заявіла, “што не трэба з гэтага рабіць драму”, і дала каментар: “Беларусь, беларускі народ для сябе сваіх герояў, у тым ліку гістарычных, вызначыў. … і нашай краіне не патрэбнае прызнанне або адабрэнне ад каго б там ні было гэтага факту, акрамя саміх беларусаў. … Мы не збіраемся перапісваць гісторыю”[3].

Беларускі гісторык Аляксандр Пашкевіч убачыў у скандале вакол Касцюшкі вялікадзяржаўную пыху расійскіх дыпламатаў, якія сваімі паводзінамі, хутчэй за ўсё, свядома дэманструюць, што расіяне не лічаць Беларусь паўнавартаснай дзяржавай, якая мае права на нейкую ўласную асаблівасць у галіне гістарычнай памяці. Ён мяркуе, што спроба дыпламатаў суседняй краіны ачарніць Касцюшку будзе мець адваротны эфект і якраз паспрые пазітыўнай папулярызацыі яго асобы. “Нацыянальных герояў Беларусі могуць вызначаць толькі беларусы. Гэтак жа і герояў іншых народаў могуць вызначаць толькі самі гэтыя народы, а не хтосьці іншы. Згоду на тое, каб твой уласны гераічны

[1] *Віцэ-кіраўнік Акадэміі навук: У нашым адказе пра Касцюшку было напісана не зусім правільна*, https://nn.by/?c=ar&i=235505. (доступ 14.08.2019).
[2] *Член-карэспандэнт Каваленя: Калі б Сувораў не разбіў Касцюшку, не было б ніякай Беларусі*, https://nn.by/?c=ar&i=235502. (доступ 14.08.2019).
[3] *МЗС Беларусі аб спрэчцы паміж пасольствам Расіі і Гістарычным музеем: Не трэба з гэтага рабіць драму*, https://budzma.by/news/ab-sprechtsy-pamizh-pasolstvam-i-muzeem.html. (доступ 5.02.2021).

пантэон вызначаўся і зацвярджаўся кімсьці за мяжой, сведчыць толькі аб несамастойнасці і несфарміраванасці нацыі і аб каланіяльнасці мыслення. А мы, дзякуй Богу, усё гэта, здаецца, паволі пераадольваем”[1].

Тое, што шырокія і бурныя дыскусіі ў 2019–2021 г. закранулі ўсе ўзроўні – ад навукі і дыпламатыі да мясцовых блогаў, – сведчанне, што постаць Тадэвуша Касцюшкі жыве ў гістарычнай памяці сучаснага беларускага грамадства.

*Якія меркаванні існуюць у гістарычнай памяці грамадства наконт постаці Тадэвуша Касцюшкі?*

Хоць навуковыя працы – гэта важная частка памяці пра асобы і падзеі, але ў большасці выпадкаў, па-першае, – гэта сухая факталогія, не разлічаная на масавага чытача, па-другое, часцей за ўсё шырокай трансляцыі навуковых даследаванняў на грамадскасць не адбываецца. Таму больш засяроджу ўвагу на жывой гістарычнай памяці, што выяўляецца ў спрэчках сярод людзей, якія да навукоўцаў-гісторыкаў не адносяцца. Варта адзначыць, што дастаткова вялікая іх колькасць не толькі ведае, што быў такі гістарычны дзеяч, але і гатовыя выкласці пра яго некаторыя факты.

Адна выразна акрэсленая плынь адносіць Тадэвуша Касцюшку да палякаў. У гэтай плыні ідзе размежаванне па суадносінах “шкоды” ад Касцюшкі. Градыент меркаванняў – ад радыкальных: “гэта польскі кат, які душыў беларусаў”, – да больш паважных: “гэта паляк, які змагаўся за незалежнасць Польшчы і да беларусаў ён адносін не мае”. Некаторыя абясцэньваюць імя Касцюшкі, бачаць ва ўсіх яго дзеяннях “польскую политику … по продвижению своего влияния в Беларуси”, а таксама замову і грошы Варшавы за “мутные идеологические проекты для белорусов”. Іншыя выказываюцца, што “Касцюшка ў гэтай рэальнасці не жыў, ніколі сябе беларусам не лічыў, а быў палякам родам з польскага рэгіёну Літва і працаваў для Польшчы”. Сустракаюцца нават такога кшталту выказванні: “Кому ты тут что пытаешься доказать? Верующие не нуждаются в фактах и доказательствах. Ну, верят они в белоруса-Костюшко”[2]. Большасць дыскутантаў, канешне, блытаецца ў этнонімах і палітонімах таго часу, зыходзячы, што Беларусі тады яшчэ не было, Літва – гэта хутчэй Польшча, а ўсіх, хто меў рэчпаспалітаўскі патрыятызм, а тым больш, быў каталікам, агулам запісваюць у палякі.

З іншага боку, – плынь, меркаванні якой вагаюцца ад больш стрыманага і памяркоўнага, кшталту “Касцюшка не быў палякам, а быў

[1] *Историк: Это великодержавное высокомерие у российских дипломатов появилось не сегодня* ,https://belaruspartisan.by/life/525450/. (доступ 9.02.2021).

[2] С. Квяткоўскі, *Касьцюшка як PR-кампанія: пра што гавораць сымбалі, якія мы абіраем*, https://www.svaboda.org/a/28786743.html. (доступ 1.12.2019).

літвінам і жыў у супольнай дзяржаве, дзе жылі палякі і літвіны, і называлася Рэч Паспалітая, і працаваў на карысць Літвы”[1]. Пад Літвой тут разумеюць Вялікае Княства Літоўскае з тэрыторыяй сучаснай Беларусі ў яго складзе. Або падобнае выказванне: “Мы павінны ведаць, што прадзеды лічылі сабе беларусамі/літвінамі, ці як не назаві, ў рэшце рэшт тутэйшымі, але ніяк не палякамі ды расейцамі”. Да больш патрыятычных, калі Касцюшку, ужо не зважаючы на акалічнасці, аб’яўляюць нацыянальным героем Беларусі.

Амаль ніводная дыскусія пра Касцюшку не абыходзіцца без згадак расійскага палкаводца Аляксандра Суворава, які падавіў паўстанне 1794 г. І параўнанні амаль заўсёды не на карысць апошняга. Агульную думку можна выказаць наступным чынам: Касцюшка сёння для ўсяго свету і беларусаў, у прыватнасці, – сімвал барацьбы за вольнасць, раўнапраўе і незалежнасць. Аляксандр Сувораў – проста салдат на службе імператарскай арміі. Касцюшка для беларусаў – зямляк, а Сувораў – прыхадзень, які душыў тых, хто хацеў адстаяць вольнасць і незалежнасць. Ушанаванне Суворава на беларускай зямлі – гэта здзек і непавага да памяці продкаў, якія змагаліся за незалежнасць сваёй краіны. У “апраўданне” Касцюшкі, што ён – можа і не герой, але мае дачыненне да беларускай гісторыі, гучаць наступныя тэзы: няхай – паляк, але адна справа змагацца за сваю дзяржаву, і зусім іншая, калі нехта змагаецца супраць тваёй дзяржавы; урэшце, хто нам бліжэй: Сувораў ці Касцюшка?; у палякаў і літоўцаў пазіцыя – нашы ўсе, хто так ці інакш меў адносіны да нашай гісторыі, дык чаму мы аддаем сваіх слаўных продкаў?

**Заключэнне**

Спрэчкі вакол постаці Тадэвуша Касцюшкі на самой справе выявілі цэлы шэраг праблемных месцаў гістарычнай памяці беларусаў. Дыскусія стала каталізатарам, які засведчыў, наколькі адрознае стаўленне да мінулага існуе і наколькі раз’яднана грамадства ў сэнсе гістарычнай самаідэнтыфікацыі. Сярод такіх праблем можна назваць цэлы шэраг:

1. Як далёка ў мінулае сягае гісторыя Беларусі? Высвятляецца, што і сёння ёсць яе грамадзяне, якія лічаць, што дзяржаўная традыцыя Беларусі была нам падаравана, і адлічваць яе трэба з 1919 або нават з 1991 г. Іншыя прытрымліваюцца думкі, што і сёння Беларусь – гэта квазідзяржава пад пратэктаратам Расіі. Трэція пагаджаюцца, што нашы продкі ідуць ад Рагвалода і Рагнеды, ад Полацкага княства, але не разумеюць, “на чый рахунак” адносіць Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітую, куды часова знікалі

[1] Тамсама.

беларусы ў XVIII–XIX ст., а, значыць, каму перадаць у карыстанне славутыя імёны беларускай гісторыі.

2. Як вызначыць – наш гэта герой ці не? З аднаго боку, нацыянальная прыналежнасць не вызначаецца месцам нараджэння. Калі ісці за гэтай логікай, то Моцарт не з'яўляецца аўстрыйскім кампазітарам, бо лібрэта яго лепшых опер напісаны на італьянскай мове; Леанарда да Вінчы – не ёсць італьянскі геній, бо апошнія гады жыцця правёў у Амбуазе, а на яго магільнай пліце выбіты надпіс, што тут спачывае "найвялікшы мастак, інжынер і дойлід Французскага каралеўства", і г.д. У той жа час ідэнтычнасць будуецца ў культурнай прасторы. Тое, што мы сёння ўзгадваем Касцюшку – гэта і ёсць наша культурная прастора, незалежна ад таго, як у той час называлі гэтыя тэрыторыі. Калі мы свае карані выводзім з Вялікага Княства Літоўскага, значыць, Касцюшка – частка нашай гісторыі і дарма адмаўляцца ад спадчыны таму, што палітонімы тады гучалі інакш.

3. Ці не з'яўляецца ўшанаванне праз назвы вуліцаў, плошчаў, вучылішчаў, праз помнікі такім дзеячам, як Сувораў, Дзяржынскі, Ленін стакгольмскім сіндромам або посткаланіяльнай свядомасцю, якая замяняе яшчэ не сфарміраваную нацыянальную свядомасць? Асабліва кансерватыўныя ў гэтым плане беларускія вайскоўцы. На калідорах казармаў дзе-нідзе вісяць цэлыя галерэі партрэтаў рускіх палкаводцаў, якія, несумненна, цікавыя з пункту погляду ваенных поспехаў і распрацаваных тактык, але маюць негатыўныя канатацыі з пункту погляду цэласнасці і нерушнасці тэрыторыі Беларусі ў мінулым.

4. Чаму склалася заганная традыцыя, калі беларусы сціпла замоўчваюць або нават проста аддаюць свае гістарычныя персаналіі ў пантэон іншай краіны? Гістарычныя постаці можна выкарыстоўваць ва ўнутраных і знешніх піяр-кампаніях дзеля павышэння турыстычнай прывабнасці краіны і фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці праз гонар за славутых продкаў. Сярэднявечная і раннемадэрная гісторыя мае найбольшы турыстычны патэнцыял сярод іншых перыядаў беларускай гісторыі. Па-першае, з-за глабальнай рамантызацыі менавіта Сярэднявечча, па-другое, дзякуючы пазітыўна-нейтральным адносінам грамадства да таго перыяду, па-трэцяе, канцэпцыя "залатога веку" ідэальна ўпісваецца ў сённяшнія рэаліі пабудовы ідэнтычнасці, па-чацвёртае, Сярэднявечча і ранні Новы час – пакуль найменш "запоўнены" падзеямі і "заселены" постацямі, якія можна сёння раскручваць як турыстычны брэнд Беларусі.

5. Наколькі ў сучасным свеце ўплывае на памяць неабходнасць геапалітычнага балансавання? Ці не з'яўляецца выбар той ці іншай постаці для трансляцыі ў масавую гістарычную памяць ангажаваным праз ціск знешніх палітычных чыннікаў? З аднаго боку, пры фарміраванні гістарычнай памяці найбольшы ўплыў мае сістэма

адукацыі, СМІ, экспазіцыя дзяржаўных музеяў, выставы, помнікі, назвы раёнаў, вуліц і ўстаноў, таму гістарычная памяць заўсёды будзе мець вядомую палітызацыю. Але ў той жа час дзеля выжывання нацыі і дзяржавы неабходна пры фарміраванні ідэнтычнасці ўлічваць найперш нацыянальныя інтарэсы.

6. Адсутнасць у масавай свядомасці агульнапрызнанага нацыянальнага гістарычнага міта не спрыяе кансалідацыі грамадства на падставе агульнай гістарычнай памяці, агульнага для большай часткі грамадства пантэона герояў. Калі ў большасці краін масавая гістарычная памяць вырашае пытанне: гэты чалавек быў героем ці злодзеем, то ў Беларусі пытанне часцей за ўсё ставіцца такім чынам: наш ці не наш?

Спадчына Вялікага Княства Літоўскага патрохі вяртаецца ў Беларусь, хоць і атрымлівае з большага рэгіянальны змест. Захаванне Беларусі як незалежнай дзяржавы ў сучасным геапалітычным раскладзе будзе залежаць ад нацыянальный ідэнтычнасці, у фарміраванні якой памяці пра пяць з паловай стагоддзяў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і яго герояў належыць адно з важных месцаў.

Што да Тадэвуша Касцюшкі. Верагодна, асабліва з навуковага пункту гледжання, няправільна называць яго беларусам – гэта спроба прывязаць яго да з'явы, што ўзнікла значна пазней. Але кожная нацыя патрабуе карані, на якія будзе абапірацца яе ідэнтычнасць, і Касцюшка ўжо ёсць у гэтай карнявой сістэме сучаснай Беларусі, і мае ўсе шансы прапісацца ў нацыянальнай гістарычнай памяці беларусаў як мінімум у вобразе барацьбіта за незалежнасць.

**Бібліяграфія:**

**Літаратура:**

Анішчанка Я. К., *Беларусь у часы Кацярыны II (1772-1796 гады*), Веды, Мінск 1998.

Анішчанка Я. К., *В когтях двуглавого орла: Беларусь во времена Екатерины II (1772-1796 гг.)*, Изд. В. Хурсик, Минск 2016.

Анішчанка Я. К., *Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай,* Хурсік, Мінск 2003.

Бензярук А., *Касцюшкі-Сяхновіцкія. Гісторыя старадаўняга роду*, Издательство Академия, Брэст 2006.

Бензярук А., *Крупчыцы. 1794 год. Падзеі і памяць роднай гісторыі*, ААТ Брэсцкая друкарня, Брэст 2007.

*Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции (по документам архивов Москвы и Минска)* / Составление, редакция и предисловие Е. К.Анищенко, Молодежное научное общество, Минск 2001.

*Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции (по документам российских архивов)* / Составление, редакция и предисловие Е. К. Анищенко, Книжный дом "ЧеРо", Москва 2000.

Емяльянчык У., *Паланез для касінераў*, Беларусь, Мінск 1994.

*Імем Айчыны. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі* [в:] Я. К. Анішчанка, Збор твораў у шасці тамах, Выдавец Віктар Хурсік, Мінск 2004, т. 2.

*Камісары Касцюшкі. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі,* [в:] Я. К. Анішчанка, Збор твораў у шасці тамах, Выдавец Віктар Хурсік, Мінск 2004, т. 1.

Несцярчук Л., Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка: вяртанне героя на радзіму, Брэсцкая друкарня, Брэст 2006 (Серыя "Знакамітыя людзі Беларусі")

*СССР. Святы саюз свабодных рыцараў. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі*, [в:] Я. К. Анішчанка, Збор твораў у шасці тамах, Выдавец Віктар Хурсік, Мінск 2006, т. 3.

Трафімчык А. В., *"Наш Касцюшка слаўны!": гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры*, А. М. Янушкевіч, Мінск 2017.

Трафімчык А. В., *Тадэвуш Касцюшка ў памяці беларускага народа,* [в:] Тадэвуш Касцюшка ў дыскурсе 200-гадовай прасторы памяці: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 22 чэрвеня 2017 г.), Энцыклапедыкс, Мінск 2018, с. 146-161.

Трафімчык А. В., *Тадэвуш Касцюшка: беларускі фокус*, [в:] Тадэвуш Касцюшка ў дыскурсе 200-гадовай прасторы памяці: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 22 чэрвеня 2017 г.), Энцыклапедыкс, Мінск 2018, с. 57-67.

Юхо Я., Емельянчык У., "Нарадзіўся я ліцвінам.." Тадэвуш Касцюшка, Навука і тэхніка, Мінск 1994.

Юхо Я., За вольнасць нашу і вашу, Навука і тэхніка, Мінск 1990.

**Интернет-источники:**

http://www.gants-region.info/
https://bel.sputnik.by
https://belaruspartisan.by/
https://belcollegium.by
https://budzma.by/
https://nn.by/
https://www.svaboda.org/

.

Аляксей Кайрыс[1]

# Асоба К. Каліноўскага ў беларускім грамадстве з 1916 па 2019 гг.

Aliaksej Kairys

# The personality of K. Kalinousky in the Belarusian society from 1916th to 2019th

**Ключавыя словы:** К. Каліноўскі, паўстанне 1863 – 1864 гг., “Мужыцкая праўда”, Беларусь.

**Keywords:** K. Kalinouski, the uprising of 1863-1864, "Muzhitskaya Prauda", Belarus

**Summary:** The article tells about the development of the image of K. Kalinouski in the Belarusian society over the past 100 years, as a national hero.

Асоба К. Каліноўскага непарыўна звязана з Беларуссю. На працягу апошніх паўтара стагоддзяў народная памяць аб гэтай гістарычнай постаці жыла і трансфармавалася. З цягам часу ўяўленні аб ім змяняліся. У розныя гістарычныя перыяды К. Каліноўскага лічылі: польскім мяцежнікам, змагаром супраць сацыяльнай няроўнасці, польскім тэрарыстам і беларускім нацыянальным героем.

Пануючая ў той ці іншы гістарычны перыяд ідэалогія заўсёды трактавала асобу К. Каліноўскага як ёй выгодна. Толькі з атрыманнем незалежнасці ў 1991 г., беларусы самі пачалі вызначаць, кім з’яўляецца для іх гэтая асоба.

К. Каліноўскі быў выдатным канспіратарам і таленавітым кіраўніком, сёння ж ён больш успрымаецца як радыкальны рэвалюцыянер, які змагаўся супраць Царскай Расіі і марыў аб незалежнай Беларусі. Каб зразумець, чаму сёння ўва ўяўленні беларусаў склаўся менавіта такі вобраз К. Каліноўскага, трэба прааналізаваць больш за 100 гадоў грамадска-палітычнага і культурнага жыцця беларусаў.

15 лютага 1916 г. у віленскай беларускай газеце “Гоман” быў надрукавана першы артыкул пра К. Каліноўскага для шырокай беларускай публікі. Напісаў яго Вацлаў Ластоўскі – беларускі палітычны дзеяч і аўтар першай кнігі па гісторыі Беларусі.

В. Ластоўскі у сваім артыкуле пад назваю "Памяці справядлівага" прыводзіць наступныя радкі: *"Многа гадоў праляжала ў мяне ў скрытнай схоўцы пачка папераў, з каторых адрыўкамі хачу цяпер падзяліцца са сваім грамадзянствам. Паперы гэтыя — ніклая памятка*

[1] Беларуская Акадэмія, магістр гістарычных навук, Гродна, Беларусь

*па згінуўшым барцу за беларускае адраджэнне с[вятой] п[амяці] Касцюку Каліноўскім..."*[1].

В. Ластоўскі, прагледзеўшы выданне А. Гілера, убачыў там ідэальны вобраз народнага героя для новай краіны, якая мусіла быць абвешчана праз 2 гады – Беларуская Народная Рэспубліка. В. Ластоўскі прадстаўляе К. Каліноўскага, як змагара за незалежнасць Беларусі, радыкальнага рэвалюцыянера і сацыяліста, паэта і пісьменніка. Але найбольш гісторык "цісне" на беларускасць К. Каліноўскага, ён нават уносіць змены ў пасмяротны верш К. Каліноўскага да яго каханай Марыі Ямант. І мяняе *"Марыська чарнабрэва, галубка мая"* на *"Беларуска зямелька, галубка мая"*[2].

У часы "беларусізацыі" беларуская гістарычная навука ўпершыню закранае шмат прынцыповых пытанняў, адным з якіх была і роля К. Каліноўскага ў рэвалюцыйнай барацьбе беларускага народа. Частка айцоў-заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, убачыўшы разгортванне беларусізацыі ў Савецкай Беларусі, перабраліся туды. Ужо створаны вобраз К. Каліноўскага перайшоў у савецкае беларускае грамадства таксама. Навуковае станаўленне беларускай гістарыяграфіі адносна паўстання 1863-1864 гг. і дзейнасці К. Каліноўскага адбылося ў 1920-я гг. У тагачаснай гістарычнай думцы К. Каліноўскі характарызуецца як народны герой, першы беларускі рэвалюцыянэр і кіраўнік сялянскага антыабшарніцкага паўстання. Галоўны змагар Беларусі супраць засілля польскіх паноў.

Першы сур'ёзны навуковы аналіз дзейнасці К. Каліноўскага быў зроблены ў артыкулах і манаграфіі "1863 год на Беларусі" гісторыкам Ўсеваладам Ігнатоўскім. Ён ахарактарызаваў паўстанне як буржуазна-дэмакратычнае, а К. Каліноўскага — *"як беларускага рэвалюцыянэр-дэмакрата", "чырвонага дыктатара", які выразна выказваў працівашляхецкі характар*"[3]. К. Каліноўскі так і паказваўся ў тагачасным грамадстве – змагар супраць царызму і паноў, першы беларускі сацыяліст.

Е. Міровічам была пастаўлена п'еса "Кастусь Каліноўскі"[4]. У 1928 годзе рэжысёрам У. Гардзіным быў зняты фільм пад назвай "Кастусь Каліноўскі"[5]. У фільме К. Каліноўскі паказаны сімвалам народнага гневу ў барацьбе з польскімі і рускімі панамі-прыгнятальнікамі. Пазіцыя Каліноўскага ў дачыненні польскіх паўстанцаў ярка негатыўная як у фільме, так і ў п'есе. Праводзіцца прымітыўны падзел: шляхта – здраднікі, народ – герой. Гістарычным

---

[1] В. Ластоўскі *Памяці Справядлівага*. [в:] *Гоман*, 1916, № 1, с. 3.
[2] В. Ластоўскі. *Памяці Справядлівага*.
[3] У. Ігнатоўскі. *1863 на Беларусі: Нарыс падзей*. Мінск, 1930.
[4] Е. Міровіч. *П'есы*, Мінск, 1957.
[5] *«Кастусь Калиновский. Информация о фильме»* - http://www.kino-teatr.ru/kino/movie/sov/9305/annot/(доступ 12.04.2021)

гэты фільм назваць нельга, атрымалася больш героіка-прыгодніцкая стужка, дзе К. Каліноўскі выкрадае царскую казну, пераапранаецца ў рускага афіцэра, напрыканцы герой звяртаецца з-пад шыбеніцы да народа з такімі словамі: *“Слышишь, Беларусь! Верю — будет вольная Беларусь трудящихся, рабочих и селян!”*[1]. Такім чынам К. Каліноўскі больш падобны на няўлоўнага народнага мсціўца з шабляй у руках (a-la Робін Гуд), чым на рэвалюцыянера-падпольшчыка.

Вобраз К. Каліноўскага, як радыкальнага сацыяліста і змагара супраць польскіх паноў, быў створаны ў супроцьвагу польскай ідэалогіі, якая панавала на заходнебеларускіх землях, што ўваходзілі ў склад тагачаснай Польскай дзяржавы. Паэты-маладнякоўцы выкарыстоўвалі асобу К. Каліноўскага, як сімвал народнага гневу і помсты. Паэт Алесь Дудар у 1925 г. піша верш, дзе кажа, што за поклічам К. Каліноўскага павінны паўстаць сяляне і рабочыя на вызваленне Заходняй Беларусі ад палякаў[2]. На пачатку 1930-х гг. узвялічванне асобы К. Каліноўскага было ацэнена, як “нацыяналістычная фальсіфікацыя беларускай гісторыі”[3].

К. Каліноўскага пазытыўна ацэньвалі прадстаўнікі ўсіх заходнебеларускіх палітычных партый і плыняў. У часы ІІ Рэчы Паспалітай і польскай уладай, і грамадствам, падзеі паўстання 1863-1864 гг. былі ледзьве не галоўнай гістарычнай падзеяй, што наблізіла Польшчу да атрымання незалежнасці, а яго ветэраны шанаваліся на дзяржаўным узроўні. Асаблівую ўвагу асобе К. Каліноўскага надаваў даследчык і святар А. Станкевіч, які прысвяціў кіраўніку паўстання дзве кнігі: “Кастусь Каліноўскі “Мужыцкая праўда”[4] і “Да гісторыі палітычнага вызвалення”[5].

У БССР да асобы К. Каліноўскага вярнуліся толькі падчас ІІ Сусветнай вайны. З яго асобы паўстае вобраз народнага мсціўца акупантам. Паэт П. Броўка ў 1943 г. піша верш “Кастусь Каліноўскі”, дзе кіраўнік паўстання паўстае зборным вобразам беларускага партызана-антыфашыста, гэты вобраз максімальна прыбліжаны да звычайнага беларускага селяніна[6].

Імя К. Каліноўскага звязанае і з партызанскім рухам на Беларусі — брыгада імя К. Каліноўскага пад кіраўніцтвам ленінградскага інжынера камбрыга Вайцяхоўскага была адным з самых актыўных партызанскіх злучэнняў на Гродзеншчыне і Беласточчыне ў другой

[1] Там жа.
[2] А. Дудар. *Не сягонні было і не ўчора* - http://www.knihi.com/Ales_Dudar/Nie_siahonnia_bylo_i_nie_ucora.html (доступ12.04.2021)
[3] С. Агурскі. *Нарысы па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі (1863—1917),* 1928.
[4] А. Станкевіч. *Кастусь Каліноўскі “Мужыцкая праўда”. Ідэя незалежнасці Беларусі*. Вільня, 1933.
[5] А. Станкевіч. *Да гісторыі палітычнага вызвалення. Шляху моладзі.* Вільня, 1934.
[6] П. Броўка Кастусь Каліноўскі - http://brouka.ru/vershy/kastus-kalinouski

палове 1943-1944 гг.[1] У антысавецкім руху таксама былі “Каліноўшчыкі” [2]. Міф пра Каліноўскага як змагара супраць акупантаў стаў актуальным як для савецкай прапаганды, так і для антысавецкай. Пасля сканчэння ІІ Сусветнай вайны пра асобу К. Каліноўскага і ідэолагі, і гісторыкі забыліся да канца 1950-х гг. Толькі пасля смерці І. Сталіна гісторыкі вярнуліся да даследавання гэтай асобы.

К. Каліноўскі — той рэдкі беларускі герой, вобраз якога быў адроджаны ў савецкую пару. У 1962-1964 гг. беларускія даследчыкі А. Смірноў, І. Лушчыцкі, Г. Кісялёў выдаюць шэраг знакавых даследаванняў, якія актуальныя і па сённяшні дзень, а ў 1963 г. у 27 гарадах БССР з’явіліся вуліцы імя К. Каліноўскага[3].

Умацаванне вобразу К. Каліноўскага, як беларускага героя належыць пісьменніку У. Караткевічу. У рамане “Каласы пад сярпом тваім” (1968 год) К. Каліноўскі быў адным з галоўных герояў. Ён прадстаўлены аўтарам адукаваным, разумным і ўпартым чалавекам, сапраўдным патрыётам сваёй Радзімы і радыкальным рэвалюцыянерам.[4] Тое ж самае робяць і іншыя літаратары: М. Танк з паэмай “Каліноўскі”, А. Куляшоў “Хамуціўс”, А. Мальдзіс “Восень пасярод вясны”, І. Капыловіч “Пісьма Караліне”, С. Яновіч “Сярэбраны яздок”.

Савецкай гістарычнай праграме пасаваў міф пра Каліноўскага-сацыяліста, змагара з царскім рэжымам, але вельмі моцна палохаў аспект антырасійскі, што часам прыводзіла да скажэння гістарычных фактаў. У падручніку пад рэдакцыяй У. Антонава былі зменены радкі “Лістоў з-пад шыбеніцы”. Аўтары падручніка змяняюць *“шыбеніцу маскоўскую”* на *“виселицу царскую”*[5].

З пачатку 1990-х г. на Беларусі асобу К. Каліноўскага пачалі актыўна аздабляць нацыянальнымі фарбамі. Ён становіцца ледзь не галоўным героем краіны, дзеячам, які ўпершыню заявіў аб самастойнасці Беларусі. Аб гэтым сведчаць і навуковыя выданні, і школьныя падручнікі, і стаўленне да гэтай асобы ў грамадстве. Само нават Студзеньскае паўстанне 1863-1864 гг. гісторыкі пачынаюць называць паўстаннем К. Каліноўскага. У Свіслачы распачынаецца штогадовы восеньскі фэст памяці К. Каліноўскага. У Беларусі з’яўляецца ордэн імя К. Каліноўскага, які лічыўся адной з

[1] В. Чарапіца .*Уходили в поход на врага* - http://www.elib.grsu.by/katalog/472547pdf.pdf?d=true (доступ 12.04.2021)
[2] С. Ёрш, С. Горбік. *Беларускі супраціў*. Львоў, 2006.
[3] “*Их именами названы”*. Энциклопедический справочник. Минск., 1987, с.253-254.
[4] У. Караткевіч. *Каласы пад сярпом тваім.* Мінск. Ураджай. 2002.
[5] В. С. Антонов, М. Б. Огнянов, Н. И. Пирумова. *Книга для чтения по Истории СССР. XIX век,* Москва, Просвещение, 1989, с. 121 – 126.

найвышэйшых дзяржаўных узнагарод. 16 чэрвеня 2004 года ордэн быў скасаваны[1]. Афіцыйна ўзнагароджання ордэнам не праводзіліся.

З пачаткам XXI ст. адбываецца пераасэнсаванне асобы К. Каліноўскага ў пэўных колах грамадства. Уплывае на гэта адсутнасць нацыянальнай ідэі ў дзяржаве, распачатая інтэграцыя з Расіяй, дзе ўсе гістарычныя постаці ці падзеі, якія былі накіраваныя ў той ці іншы час супраць Расійскай Імперыі, СССР ці Расіі, лічыліся рэакцыйнымі.

У 2006 годзе ў Беларусі адбываюцца чарговыя прэзідэнцкія выбары, якія суправаджаліся буйной акцыяй пратэстаў. Акцыя цягнулася ад 19 па 25 сакавіка і займела назву "Плошча Каліноўскага". У выніку пратэстная акцыя была разагнана міліцыяй. Неўзабаве ўрадам Польшчы была заснаваная "Стыпендыя імя Кастуся Каліноўскага" ў якасці праграмы падтрымкі адлічаных беларускіх студэнтаў.

На гэтай хвалі дзяржаўны ідэалагічны апарат распачынае змаганне з вобразам К. Каліноўскага ў беларускім грамадстве. Адбываецца вяртанне да расійскіх імперскіх характарыстык дзеячоў паўстання 1863-1864 гг. Разам з дзяржаўнымі ідэолагамі да стварэння негатыўнага вобразу К. Каліноўскага далучаюцца і гісторыкі-заходнерусісты. Яму пачынаюць надаваць афарбоўку "тэрарыста", "забойцы", "ашуканца, які хацеў уцягнуць у авантуру тагачасных беларусаў", пастаянна прыпісываючы К. Каліноўскаму прыналежнасць да польскага народа. Яскравы прыклад – у вучэбным дапаможніку па гісторыі Беларусі 2008 года для вучняў 10 класаў агульнаадукацыйных школ, галоўным аўтарам і рэдактарам якога з'яўляецца Я. Трашчанок, ёсць параграф, прысвечаны паўстанню 1863-1864 гг. і там аўтары даюць наступную характарыстыку К. Каліноўскаму: *"По этнической самоидентефикации, он был безусловно поляком и никогда не называл себя белорусом. Никаких объективных оснований превращать В. Калиновского в "национального героя белорусского народа" не существует*"[2]. М. Мураёўва-вешальніка аўтары характарызуюць, як "талантливого администратора и организатора".

Ідэолаг А. Гронскі ў сваіх артыкулах называе К. Каліноўскага "рэвалюцыянэрам-фанатыкам"[3], нішчаць вобраз К. Каліноўскага як нацыянальга героя і яго калегі В. Гігін і Л. Крыштаповіч на старонках галоўнага дзяржаўнага часопісу "Беларуская думка". Спрабуюць давесці «польскасць» К. Каліноўскага і называюць яго "тэрарыстам".

[1] *О государственных наградах Республики Беларусь* – https://www.pravo.by/pdf/2004-88/2004-88(015-032).pdf (доступ 13.04.2021)
[2] Я. И. Трещенок, А. А. Воробьёв, В. В. Волженков. *История Беларуси. 10 класс*. Минск. Адукацыя і выхаванне. 2008., с. 191.
[3] А. Гронскі. *Конструирование героя: Кастусь Калиновский* – http://beldumka.belta.by/ru/issues?author_id=22( доступ 22.04.2021)

У абарону К. Каліноўскага выступаюць гісторыкі: А. Вашкевіч, А. Смалянчук, А. Краўцэвіч, В. Швед і інш. Вобраз К. Каліноўскага знаходзіць месца і ў творчасці мастакоў, музыкаў і паэтаў. У перыяд 2013-2014 гг. беларусамі актыўна святкавалася 150 гадавіна з пачатку паўстання 1863-1864 гг.

Стаўленне дзяржавы да асобы К. Каліноўскага пачынае змяняцца ў 2014 г. пасля акупацыі Расіяй Украінскага Крыму. Беларускія ўлады адчулі пагрозу з боку Расіі, бачачы наступствы ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Украіны. Разумеючы небяспеку, дзяржаўная ідэалогія мяняе свой вектар, паступова адмаўляецца ад папярэдніх поглядаў і распачынае характарызаваць падзеі паўстання, як частку нацыянальна-вызваленчага руху беларусаў. Галоўны дзяржаўны тэлеканал выпускае цыкл фільмаў “1863. Пад ударам Імперыі” [1].

У студзені 2017 г. у Вільні на замкавай гары былі знойдзеныя парэшткі К. Каліноўскага і яго паплечнікаў. Гэтую навіну асвячалі нават дзяржаўныя СМІ. Беларусаў жа навіна ўскалыхнула, і пачынаецца чарговая хваля папулярызацыі асобы К. Каліноўскага.

На пачатку 2019 г. стала вядома, што ў Вільні адбудзецца перапахаванне парэшткаў К. Каліноўскага і яго паплечнікаў. Аб сваім удзеле ў працэсіі заявілі лідары Літвы і Польшы, беларускія ўлады доўга вытрымлівалі паўзу. Парэшткі ўдзельнікаў паўстання 1863-1864 гг. вырашылі перапахаваць у адмысловай капліцы на віленскіх могілках Росы.

З прычыны, што афіцыйны беларускі бок доўга ігнараваў запрашэнне ўдзелу ў працэсіі, надпісы на мануменце планавалі зрабіць толькі па-польску і па-літоўску. Беларускую мову на мануменце адстаяла беларускае грамадства. Тысячы подпісаў, сабраныя беларусамі і накіраваныя ў Міністэрства замежных спраў Літвы пераканалі літоўскі бок зрабіць надпісы і па-беларуску.

Каб заахвоціць беларусаў паехаць на перапахаванне К. Каліноўскага і яго паплечнікаў, актуалізаваць цікаўнасць да падзей паўстання 1863-1864 гг., і ў прыватнасці да асобы К. Каліноўскага, у траўні 2019 г. у Гродна грамадскія актывісты і гісторыкі арганізоўваюць грамадскую ініцыятыву “Каліноўскі 2019”[2]. Ініцыятыва “Каліноўскі 2019” з траўня па лістапад паспела правесці дзясяткі адукацыйных сустрэчаў, распрацаваць першую беларускую настольную гульню пра Студзеньскае паўстанне, паставіць 15 помнікаў-стэлаў на месцах, звязаных з падзеямі паўстання, музыкі і мастакі пачалі ствараць творы ў гонар паўстанцаў у рамках кампаніі.

[1] *Обратный отсчёт. «1863-й. Под ударом империи»* - https://www.youtube.com/watch?v=5Ix-P-DkRbM. ( доступ 22.04.2021)
[2] Грамадская кампанія “Каліноўскі 2019”. Афіцыйная старонка ў Facebook - https://www.facebook.com/Kalinouskimojheroj

Сябрамі кампаніі была арганізавана сустрэча з літоўскім амбасадарам у Гродне па візавых пытаннях, дзякуючы якой больш за 4000 беларусаў змаглі паехаць у Вільню на перапахаванне паўстанцаў. Скончылася кампанія 2 лютага 2020 г. у Мінску урачыстым рок-канцэртам да дня народзінаў К. Каліноўскага.

22 лістапада 2019 г. у Вільні адбылося перапахаванне парэшткаў удзельнікаў Студзеньскага паўстання. Улады Беларусі да канца кастрычніка 2019 г. не маглі вырашыць, ці будуць яны прымаць удзел у мерапрыемстве, але на пачатку лістапада стала вядома, што беларускі ўрад у Вільні будзе прадстаўляць І. Петрышэнка – на той момант віцэ-прэм’ер Беларусі.

Грамадскі бок прадстаўляла І. Сурвіла – старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў замежжы, ад беларускага святарства выступаў з прамоваю арцыбіскуп Т. Кандрусевіч: *“Кастусь Каліноўскі належыць нашай гісторыі як той, хто заклаў аснову самасвядомасці беларусаў як асобнай еўрапейскай нацыі, якая мае права на самавызначэнне,”*[1] – адзначыў арцыбіскуп.

З прамоваю выступіў і І. Петрышэнка: “*Ужо ў той час дэкларавалася ідэя палітычнай суб’ектнасці Беларусі ў стасунках з краінамі-суседзямі. Знакава, што паролем паўстанцаў з’яўляліся словы: «Каго любіш? — Люблю Беларусь!»”*[2].

**Высновы**

Шлях К. Каліноўскага да прызнання беларусамі нацыянальным героем расцягнуўся больш, чым на 100 год. Асобу К. Каліноўскага беларусы ўзносілі на шчыт змагання за сваю незалежнасць і свабоду як нацыянальную, так і ад сацыяльнага прыгнёту. З асобаю К. Каліноўскага змагаліся, спрабавалі рабіць яе рэакцыйнай, антыбеларускай ды антыдзяржаўнай. Апошнія 30 год у станаўленні канчатковага вобразу К. Каліноўскага ў беларускім грамадстве былі самыя супярэчлівыя і цяжкія, прычынай таму стала неадназначнае стаўленне прадстаўнікоў ураду да гэтай гістарычнай асобы. Вобраз К. Каліноўскага пераўтварыўся ў гераічны міф, які аб’ядноўвае вакол сябе беларусаў, як у самой краіне, так і па-за яе межамі. А яго характар, адданасць справе і сваім ідэалам робяць яго яшчэ і маральным арыентырам для беларусаў. У грамадстве канчаткова сфарміравалася думка, што К. Каліноўскі – беларускі нацыянальны герой.

[1] *Слова арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча падчас цырымоніі перапахавання Кастуся Каліноўскага ў Вільні* - https://catholic.by/3/news/belarus/10722-slova-artsybiskupa-tadevusha-kandrusevicha-padchas-tsyrymonii-perapakhavannya-kastusya-kalino-skaga-vilni ( доступ 22.04.2021)

[2] *«Гэта наш сапраўдны герой!» Тысячы беларусаў прыехалі на развітанне з Кастусём Каліноўскім і астатнімі паўстанцамі* - https://people.onliner.by/2019/11/22/kalino%D1%9Eski-2. ( доступ 23.04.2021)

Нават прадстаўнікі дзяржаўнай улады, пад ціскам грамадства, і ў складанай геапалітычнай сітуацыі вымушаны былі прызнаць К. Каліноўскага нацынальным героем і адным з першых, хто выказаўся за незалежную Беларусь. Гэта паказана на прыкладах ад школьнага падручніка, да ўдзелу хоць і не прэзідэнта, але трэцяй асобы з ураду ў перапахаванні паўстанцаў у Вільні. А гэта азначае, што К. Каліноўскі ўжо ў вобразе нацыятворчага міфу працягвае змаганне за Беларусь.

**Бібліяграфія:**

**Літаратура:**

*“Их* именами *названы”*. Энциклопедический справочник. Мінск, 1987

Агурскі С. *Нарысы па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі* (1863—1917), 1928.

Антонов В. С., Огнянов М. Б., Пирумова Н. И. *Книга для чтения по Истории СССР. XIX век*, Москва, Просвещение, 1989, с. 121 – 126.

Ёрш С., Горбік С. *Беларускі супрацiў*. Львоў, 2006.

*Их именами названы* [у] Энциклопедический справочник. Минск., 1987, с.253-254.

Ігнатоўскі У. *1863 на Беларусі: Нарыс падзей*. Мінск, 1930.

Ігнатоўскі У. М. *Кароткі нарыс Гісторыі Беларусі*. Мінск, 1992

Караткевіч У. *Каласа пад сярпом тваім*. Мінск, Ураджай. 2002

Караткевіч У. *Каласы пад сярпом тваім*. Мінск. Ураджай. 2002.

Кісялёў Г., Янушкевіч Я. *Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць*. Мінск, 1999

Ластоўскі В. *Кароткая Гісторыя Беларусі*. Мінск, 1993 –

Ластоўскі В. *Памяці Справядлівага*. Гоман. № 1. Вільня, 1916

Міровіч Е. *П'есы*, Мінск, 1957.

Смирнов А. Ф. *Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии*. Москва, 1963

Смирнов А. Ф. *Кастусь Калиновский*. Госиздат БССР. Минск,1963.

Станкевіч А. *Да гісторыі палітычнага вызвалення. Шляху моладзі*. Вільня, 1934

Станкевіч А. *Кастусь Каліноўскі “Мужыцкая праўда”. Ідэя незалежнасці Беларусі*. Вільня, 1933.

Трещенок Я. И., Воробьёв А. А., Волженков В. В. *История Беларуси 10 класс*. Адукацыя і выхаванне. Минск, 2008.

**Нарматыўныя прававыя акты:**

Закон Республики Беларусь “О государственных наградах Республики Беларусь” от 18 мая 2004 года №288-З

**Інтэрнет-крыніцы:**

http://beldumka.belta.by/

# ФІЛАЛОГІЯ. МОВАЗНАЎСТВА

Анхела Эспіноса Руіс[1]

## Беларуская літаратура ў іспанамоўным перакладзе: гісторыя, стан пытання і перспектывы

Ángela Espinosa Ruiz

## Belarusian literature in Spanish translation: history, state of the question and perspectives

**Keywords:** Literary translation, Belarusian language, Spanish language, Maksim Bahdanovič, Janka Kupała, Uładzimir Karatkievič, Carlos Sherman, Nastaśsia Kuźmenka Ángela Espinosa Ruiz

**Abstract:** The aim of our article is to analyze the state of translations and adaptations of Belarusian literature into the Spanish language taking into account the relevance of such endeavors for both the translated party and their newfound readers, the history of such works, translations available at present (and how easily they can be found in bookstores, public libraries or otherwise accessed today), as well as the future of potential efforts in this area. We take into account the colossal labor of Carlos Sherman in the Soviet period, whose translations are, unfortunately, mainly unavailable to the contemporary Spanish-speaking audience, as well as newer translations of selected works by Maksim Bahdanovič (by Nastaśsia Kuźmenka and Ángela Espinosa Ruiz), Janka Kupała and Uładzimir Karatkievič (Espinosa Ruiz). We arrive to the conclusion that literary translation and adaptation will always retain their relevance, and thus we can expect a higher demand for such activities in the future from both the Belarusian and the Spanish-speaking side.

**Ключавыя словы**: Мастацкі пераклад, беларуская мова, іспанская мова, Максім Багдановіч, Янка Купала, Уладзімір Караткевіч, Карлас Шэрман, Настасся Кузьменка, Анхела Эспіноса Руіс

**Анатацыя**: Мэта артыкула - прааналізаваць стан перакладаў і адаптацый беларускай літаратуры на іспанскую мову з улікам актуальнасці такіх намаганняў як для перакладанага боку, так і для новых чытачоў; для гісторыі такіх твораў і іх перакладаў, даступных у цяперашні час ( з улікам таго, наколькі лёгка сёння іх можна знайсці ў кнігарнях, публічных бібліятэках ці іншым чынам), а таксама будучых патэнцыйных намаганняў у гэтай галіне. У артыкуле бяруцца пад увагу каласальная праца Карласа Шэрмана ў савецкі перыяд, пераклады якога, на жаль, у асноўным недаступныя для сучаснай іспанамоўнай аўдыторыі; а таксама больш новыя пераклады выбраных твораў Максіма Багдановіча (Настассі Кузьменкі і Анхелы Эспіносы Руіс), Янкі Купалы і Уладзіміра Караткевіча (Эспіносы Руіс). Мы прыходзім да высновы, што мастацкі пераклад і адаптацыя заўсёды будуць захоўваць сваю актуальнасць, і таму мы можам чакаць больш высокага попыту на такую дзейнасць у будучыні як з беларускага, так і іспанамоўнага боку.

Калі пытанне аб перакладзе беларускай літаратуры на іншыя мовы (асабліва – на найбольш распаўсюджаныя еўрапейскія мовы) ужо

[1] Універсітэт Гранады, Дэпартамент грэцкай і славянскай філалогіі, Філалагічны факультэт, доктар філалогіі, Гішпанія, Гранада.

было актуальным пяцігоддзе таму, у эпоху так званай "адлігі" ў міжнародных адносінах Рэспублікі Беларусь, то цяпер яно стала неабходнаю патрэбай для краіны ў цэлым: папулярызацыя беларускай культуры і ўсіх відаў яе мастацтва, міжнароднае прызнанне не толькі адметнасці і самабытнасці Беларусі, але і яе чыстай мерытарычнай вартасці ў літаратурнай галіне, адкрыццё еўрапейскімі суседзямі беларускай мовы і выбітных творцаў, якія на ёй стваралі і працягваюць ствараць тэксты – фактычна адзін з гарантаў беларускай незалежнасці ў лінгвістычным, сацыяльным і культурніцкім плане, што можа мець немалы ўплыў на геапалітычную пазіцыю беларускай дзяржавы. Гэтымі абставінамі матывуецца пісанне дадзенага артыкула, у якім робіцца спроба агульнага аналіза гісторыі беларуска-іспанскага літаратурнага перакладу, абмяркоўваецца сучасны стан пытання, яго праблемы і перспектывы ў будучыні.

Нягледзячы на патрэбы беларускага грамадства і распаўсюджанасць іспанскай мовы на свеце, пераклады беларускай літаратуры на іспанскую мову дагэтуль адносна рэдкія. Савецкае кнігавыданне, натуральна, аддавала перавагу перакладам з рускай і на рускую мову, і цяжка сказаць, што пераклад айчыннай літаратуры калі-небудзь быў дзяржаўным прыярытэтам у незалежнай Беларусі. Такім чынам, у выкананні беларускага пісьменніка ўругвайскага паходжання Карласа Шэрмана ў савецкую эпоху выйшлі «Мая Бесядзь» А.Куляшова, «Конь і леў» М.Танка, «Чырвоны мак» В.Хомчанкі, народныя казкі ў апрацоўцы А.Якімовіча (усе ў 1976), «Шлюбная ноч» І.Шамякіна (1980), «Дажыць да світання» (1980), «Абеліск» (1984) і «У тумане» (1989) В.Быкава, выбранае Я.Купалы і Я.Коласа «Папараць-кветка» (1982), выбранае Р.Барадуліна «Чорны вол маёй трывогі» (1985), «Плач перапёлкі» І.Чыгрынава (1988), «Загад № 1» М.Чаргінца (1990)[1].

Большасць дадзеных выданняў, на жаль, маладаступныя чытачам Іспаніі (і іншых іспанамоўных краін) на сённяшні дзень: нешматлікія асобнікі захоўваюцца ў акадэмічных бібліятэках і архівах, кнігі не даступныя ў крамах альбо ў электронным варыянце. Да таго ж, беларуская мова і літаратура ніколі не выкладаліся як дысцыпліны ў іспанскіх установах вышэйшай адукацыі. Такі збег абставінаў спрыяе сітуацыі, у якой іспанамоўная чытацкая публіка, нават спецыялізаваная (напрыклад, славісты) толькі маргінальна або, часцей, зусім не знаёмая з беларускай літаратурнай гісторыяй і традыцыяй: любая новая перакладная кніга можа стаць першым кантактам чытача не толькі з літаратурай Беларусі, але і з самой краінай.

[1] Беларускія пісьменнікі: 1917-1990. Укладальнік: А. Гардзіцкі. Менск: Мастацкая літаратура, 1994, с. 444-446.

Зацікаўленасць і запатрабавасць у беларускай літаратуры пачала расці з актывізацыяй беларускай дыяспары ў Іспаніі: у 2015 годзе іспанскае выдавецтва "Thule" апублікавала паэму Максіма Багдановіча *Вежа міру* (па-іспанску – *La torre de la paz*) у перакладзе беларускі Настассі Кузьменка[1]. Мадрыдскую прэзентацыю наведаў тагачасны пасол (па сумяшчальніцтве) Павел Латушка[2]. Гэтая публікацыя становіцца першым знаёмствам адносна шырокай іспанамоўнай публікі з беларускім класікам у эпоху незалежнай Беларусі, аднак варта пазначыць, што паэма *Вежа міру* была напісаная Максімам Багдановічам на рускай мове (г.зн. не маем справу з перакладам менавіта беларускамоўнай літаратуры). Нягледзячы на гэты факт, знакавасць падзеі застаецца актуальнай для папулярызацыі беларускай літаратуры ў цэлым, з улікам вагі асобы Максіма Багдановіча як у навуковым, літаратуразнаўчым асяроддзі, так і ў папулярнай культуры беларусаў.

З тэхнічнага ж пункту гледжання, пераклад А. Кузменка захоўвае стыль і змест арыгінала практычна цалкам: арыгінальны твор Багдановіча – казка або паэма ў празаічнай форме, у якой пераважаюць значэнне і пасыл, якія ўклаў у свой тэкст літаратар. Захоўваецца таксама вершаваная структура арыгінальнай паэмы. Галоўнай асаблівасцю публікацыі з'яўляюцца ілюстрацыі, выкананыя для выдання кандыдатам выяўленчага мастацтва Моніка Гут'ерэс Серна (ісп. Mónica Gutiérrez Serna) – сумяшэнне адрозных тэкстураў, цёплых і халодных адценняў, акварэльных малюнкаў і вайсковых фатаграфій ператварае паэму ў халістычны, міждысцыплінарны твор мастацтва, што станоўча ўплывае на патэнцыйную матывацыю мэтавай публікі (іспанамоўных чытачоў, не знаёмых у прынцыпе з творчасцю і асобай М. Багдановіча) купіць і прачытаць (альбо, прынамсі, пагартаць) кнігу.

Вышэй узгаданы пераклад, які паспрыяў якаснаму і паспяховаму выданню, стаў натхненнем для беларускай дыяспары ў Іспаніі. У выніку, у 2016 годзе незалежнае выдавецтва Ediciones Irreverentes скантактавалася з аўтаркаю гэтага артыкула з прапановай выдаць выбраныя (беларускамоўныя) вершы Максіма Багдановіча да гадавіны смерці паэта ў 2017 годзе. Варта пазначыць, што афіцыйны Мінск моцна спрычыніўся да гэтага выдання: яно рэалізавалася з дапамогай Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску (уводзіны да кнігі напісаў яго дырэктар, Дзмітры Яцкевіч) і з фінансавай і культурнай падтрымкай пасольства Рэспублікі Беларусь у Мадрыдзе. На прэзентацыі двухмоўнага зборніка прысутнічалі міністр замежных

[1] Bogdanovich, M. *La torre de la paz*. Mónica Gutiérrez Serna (ілюстрацыі), Anastassiya Kouzmenko Mikhailova (пераклад). Thule, Barcelona, 2015.

[2] Наша Ніва, У Мадрыдзе прэзентавалі пераклад на іспанскую паэмы Багдановіча «Вежа міру», 11.13.2015, [анлайн, доступ 27.03.2021], **https://nn.by/?c=ar&i=159888**

спраў Уладзімір Макей, тагачасны пасол Павел Латушка, прадстаўнікі беларускай дыяспары і іспанскай інтэлігенцыі.

Дакументацыя да выканання пераклада развівалася ў двух этапах: па-першае, аналізавалася спецыфіка самога паэта, яго творчасці і кантэксту; па-другое, распачаўся працэс выбару твораў і іх перакладу (з улікам канкрэтных праблем і стратэгіі, якія маглі быць выкарыстаныя для іх рашэння). Праз чатыры гады з даты выдання зборнікабыў правёўся аналіз перакладаў і іх запатрабаванасці ў іспанамоўным літаратурным рынку.

Паэт, празаік, публіцыст і літаратуразнаўца М. Багдановіч замацаваўся ў гісторыі беларускай літаратуры як новы класік, нягледзячы на сваю заўчасную смерць і на тое, што ад яго застаўся толькі адзін прыжыццёвы зборнік: «Вянок». У сваім эсэ «Загадка Багдановіча», М. Стральцоў тлумачыць, што “кніжка [«Вянок»], што ні кажы, маладая, пісалася ў 17-20 год. Але ж… Але ж ёсць у ёй і творчасць, і натхненне, і сур’ёзная праца […] Такая здольнасць да абнаўлення, да пашырэння абсягу тэм і думак. І якія рытмы, якая лексіка, якое пачуццё мовы!”[1].

Са слоў М. Стральцова вынікае, што ў творчасці М. Багдановіча былі якасці, якія высока цэняцца літаратуразнаўцамі, крытыкамі і чытачамі; асаблівасці, пры захаванні якіх любы чытач здолее ацаніць паэта на любой з моў свету.

З іншага боку, трэба памятаць, што вялікая частка геніяльнасці паэта хаваецца менавіта ў яго моўных навыках і здольнасцях: рыфма, рытм, лексіка, моўнае адчуванне. Захаванне гэтых творчых аспектаў у іншамоўных адаптацыях без шкоды аўтарскім задумам, тэмам і вобразам ускладняе задачу перакладчыка, асабліва ў выпадку так званых “цяжкіх паэтычных форм” (санеты, трыялеты, тэрцыны), якімі нярэдка карыстаўся М. Багдановіч. Да таго ж, нельга забываць аб культурным кантэксце арыгінальных твораў і асобе самога аўтара. Гэтае пытанне заўжды паўстае ў перакладах між далёкімі мовамі, асабліва ў тых выпадках, калі мэтавая аўдыторыя слаба ведае (альбо зусім не знаёмая) з крыніцаю. М. Багдановіч – паэт, моцна звязаны з беларушчынай у агульнаславянскім кантэксце. На думку філолага Т. Жыркевіч, “М. Багдановіч ў сваёй творчасці заўсёды адстойваў ідэі адраджэння роднай культуры, з якой непарыўна звязана думка аб цесным узаемадзеянні славянскіх народаў, агульнасці іх гістарычнага мінулага і культурнай спадчыны”[2]. Бацька паэта, Адам Багдановіч, быў

[1] Стральцоў, М. *Выбраныя творы*. Уклад. і камент. Міхася Скоблы, прадм. Анатоля Сідарэвіча. Мінск: Беларуская навука, 2015, с. 368-369.

[2] Жыркевіч, Т. І. *«Смерць шэршня» як рэцэпцыя М. Багдановічам сербскага эпасу*. Актуальныя пытанні лінгвістыкі, лінгвастылістыкі і лінгвакультуралогіі: да 75-годдзя з дня нараджэння прафесара М. В. Абабуркі : матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, 20 мая 2016 г. пад рэд. В. М. Шаршнёвай. Магілёў : МДУ імя А.А. Куляшова, 2018, с. 132.

фальклярыстам, і малады літаратар меў доступ да этнаграфічных матэрыялаў з самага дзяцінства. Як заўважае Н. Анапрэенка, "у фарміраванні творчай індывідуальнасці беларускага паэта М. Багдановіча (1891-1917) значную ролю адыграла вусная народна-паэтычная творчасць. Для яго пісьменніцкай дзейнасці фальклор стаў невычэрпнай скарбніцай натхнення, крыніцай тэм, сюжэтаў, матываў […] Дзякуючы гэтаму М. Багдановіч змог стварыць уласны і непаўторны паэтычны стыль, які заваёўвае ўвагу сваёй самабытнасцю і каларытам"[1].

Прывязанасць да беларускай гісторыі і славянскіх сімвалаў, уплыў народнай беларускай творчасці і іншыя біяграфічныя фактары робяць М. Багдановіча глыбока беларускім паэтам, менш дасяжным для разумення чытачам іншага культурнага паходжання.

Варта ўзгадаць, аднак, што М. Багдановіч цікавіўся сусветнай літаратурай, быў добра адукаваным паліглотам і добра ведаў еўрапейскіх аўтараў – і антычных, і сваёй эпохі, і быў асабліва добра знаёмы з тагачаснай французскай літаратурай. На думку Я. Клімуця, "у французскай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя М. Багдановіч шукаў дасканалага сунадзення высокіх душэўных мрояў з рэаліямі змрочнага паўсядзённага жыцця, якія б давалі ў выніку карціну надзвычайнай таямнічасці навакольных праяўленняў"[2]. Заходнееўрапейскія ўплывы набліжаюць творчасць М. Багдановіча да іспанскага чытача, каму гэтая літаратура даступная і адносна вядомая. Таксама варта ўспомніць пра вышэй узгаданую прадмову Д. Яцкевіча, у якой падрабязна тлумачыцца жыццёвы шлях паэта і яго кантэкст. Дадатковаю дапамогаю для ўспрымання перакладаў з'яўляецца графічнае афармленне выдання, ілюстрацыі, падабраныя пад кожны асобны твор.

У зборнік былі ўключаныя 30 вершаў: у першую чаргу былі выбраныя самыя вядомыя творы М. Багдановіча, на падставе якіх беларусы спяваюць песні, і якія можна знайсці ў школьных праграмах краіны. Па-другое, уключыліся таксама вершы, патэнцыйна цікавыя менавіта аўдыторыі з Іспаніі (напрыклад, «Іспанскія песні»[3] [с. 62-67]), і тыя вершы, якія найлепш і найшырэй рэпрэзентуюць творчасць паэта як цэласць на думку перакладніцы і выдаўнікоў, і паводле тэмы

[1] Анапрэенка, Н. Я. *Фальклорны кампанент у творчасці М. Багдановіча*. Карповские научные чтения: сб. науч. ст. Вып. 7: в 2 ч. Ч. 2, редкол.: А.И. Головня (отв. ред.) [и др.]. Минск: «Белорусский Дом печати», 2013, с. 58.

[2] Клімуць, Я. І. *Творчасць Максіма Багдановіча ў кантэксце французскай паэзіі другой паловы XIX - пачатку XX ст.* Восточнославянские языки и литературы в европейском контексте : сборник научных статей по материалам III-й Международной научной конференции (14-15 октября 2011 г.) под ред. Е. Е. Иванова. Могилев: МГУ имени А.А. Кулешова, 2012, с. 105.

[3] Багдановіч, М. *Згукі маёй бацькаўшчыны (Ecos de mi tierra). Выбраныя творы.* Пераклад Анхелы Эспіносы. Мадрыд: Ediciones Irreverentes, 2017. Цытаваныя старонкі падаюцца ў тэксце ў квадратных дужках.

(любоўныя вершы, вершы пра прыроду, вершы на падставе фальклорных матываў, вершы пра хваробу...), і паводле формы (класічныя формы паэзіі, формы фальклорнага паходжання, белыя вершы). Варта прааналізаваць пэўныя моманты ў кнізе, якія спрыялі перакладніцкім праблемам, выясніць, як яны былі вырашаныя.

Назва верша «Лясун» была перакладзеная на іспанскую мову сінтагмай «El espíritu del bosque» (літаральна, *лясны дух*) [8, с. 11]. У іспанскім фальклоры немагчыма знайсці культурнага эквівалента беларускай легендарнай істоце, які быў бы зразумелым усім патэнцыйным іспанамоўным (і нават іспанскім) чытачам. З тае прычыны было прынята рашэнне замяніць назву на поўную дэскрыптыўную сінтагму. У вершы «Раманс» [8, с. 28-29], хоць захаваныя з дакланасцю змест, рыфма і рытм, губляецца з перакладам частка фармальнай сінтактычнай гульні: у арыгінальным тэксце, чацвёрты радок кожнай страфы супадае з пачаткам першага; сінтаксіс іспанскай мовы гэтага не дазваляе. Верш «Не кувай ты, шэрая зязюля» [8, с. 30-31] доўжыцца на чатырохрадкоўе ў перакладзе. Гэтая змена тлумачыцца тым, што іспанская мова мае меншую інфармацыйную шчыльнасць (семантычнае значэнне за кожны слог), чым беларуская. Форма твора патрабавала кароткіх радкоў, і было б немагчыма захаваць форму і змест у перакладзе на іспанскую мову пры аднолькавай колькасці радкоў. Асабліва складанай задачай быў пераклад «Санета» [8, с. 40-41] з фармальнага пункту гледжання. Верш пабудаваны паводле канонаў класічнага санета: першыя дзьве страфы задаюць мастацкае пытанне, прадстаўляюць метафары і вобразы, у той час як апошнія дзве – даюць чытачу адказ, правільную інтэрпрэтацыю ўжываных сімвалаў. Гэты аспект, разам з дакладнымі рыфмай і рытмам, зместам і большасцю лірычных вобразаў, захоўваюцца ў перакладзе, як у выпадках з іншымі класічнымі паэтычнымі формамі. Варта звярнуць увагу на перакладніцкую гульню слоў, якая паяўляецца ў вершы «Тэрцыны»: лірычны герой узгадвае ідэю аб тым, што “мы любім час мінулы ўспамянуць” [8, с. 44]. У перакладзе ж сустракаецца радок “todo verso pasado fue mejor” [8, с. 45] (літаральна, “любы мінулы верш быў лепшым”, што з’яўляецца варыяцыяй іспанскай прыказкі “todo tiempo pasado fue mejor”: “любы мінулы час быў лепшым”). Гэтая гульня слоў, прывязаная да ўжывання іспанскай мовы, выкарыстана была дзеля таго, каб наблізіць мэтавага чытача да творчасці М. Багдановіча. Трэба патлумачыць і ўжыванне тапоніма “Belarús” [8, с. 53] замест афіцыйнай іспанскай назвы “Bielorrusia”, якая мае двайную функцыю: з аднаго боку, захаванне рытма і мілагучнасці, з другога, знаёмства іспанскага чытача з назваю, якою самі беларусы называюць сябе. Апошнія цяжкасці перакладу з’явіліся ў вершы «Пагоня» [8, с. 70-71]: непадрыхтаваныя іспанскія чытачы не ведаюць

гэтага паняцця ні яго гістарычных, палітычных і нацыяналістычных каннатацыяў. Назва самога твора перадалася як “Pagonia” (найбліжэйшы фанетычна мачымы варыянт для іспанскай арфаграфіі), а ў радках верша паняцце перадавалася сінтагмай “el emblema de los lituanos” (літаральна, у гэтым выпадку, “герб ліцвінаў”). Хоць іспанскі чытач незнаёмы апрыёрна з Пагоняй, з кантэксту можа зразумець, што гэта герб, звязаны з беларускай нацыянальнай ідэнтычнасцю.

У выніку кніга карысталася папулярнасцю, адноснай для падобнага твору ў жанры перакладной паэзіі,  не толькі сярод іспанскіх чытачоў, а таксама сярод беларускіх дыяспар у іспанамоўных краінах і беларусаў, якія вывучаюць іспанскую мову. Іспанамоўная чытацкая публіка выказваецца пра кнігу пазітыўна, а беларускія чытачы сцвярджаюць, што кніга выконвае важную ролю ў атрыманні беларускай літаратурай ганаровага месца ў кантэксце еўрапейскай і сусветнай літаратуры [2][1].

Наступным укладам аўтаркі дадзенай працы ў іспанамоўныя пераклады беларускай літаратуры сталі санеты Янкі Купалы, якія з’явіліся ў друку ў шматмоўным калектыўным перакладным зборніку, выдадзеным “па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь”[2]. Санеты беларускага класіка выйшлі на беларускай, армянскай, грузінскай, іспанскай, сербскай, славацкай, табасаранскай, татарскай, украінскай, французскай, чачэнскай, чувашскай, шорскай мовах, аднак распаўсюджванне выдання накладам у 250 зборнікаў ажыццяўлялася толькі ўнутры Беларусі, што пазбаўляе яго ад сапраўднай міжнароднай праекцыі. Не выключаецца аднак магчымасць перавыдання перакладзеных санетаў асобна, або ў складзе выдання выбраных вершаў аўтара.

Нягледзячы на тое, што купалаўскія санеты шчыльна звязаныя з трагічнай доляй беларускага народа, а таксама, у адрозненне ад эстэтыкі Максіма Багдановіча, з рэаліямі беларускіх сялян, у іх вершах сустракаюцца ўніверсальныя праблемы, тэмы і літаратурныя вобразы, даступныя практычна кожнаму больш ці менш дасведчанаму чытачу лірычных твораў, напрыклад: воля і свабода [санеты 4 і 5, с. 8-9], патрыятызм [санеты 19 і 20, с. 16-17], роля паэтаў і творцаў у грамадстве [санет 16, с. 14-15], а таксама такія фігуры, як *ubi sunt* [санет 10, с. 11] або *memento mori* [санет 3, с. 7]. Менавіта гэтыя элементы набліжаюць іспанамоўнага (і ўвогуле заходнееўрапейскага) патэнцыйнага чытача з творчасцю Янкі Купалы, дапамагаюць

[1] Падсумавана з асабістых інтэрв’ю перакладчыцы з чытачамі, выдаўцамі М. А. дэ Рус і В. Кухаравай.
[2] Купала, Я. *Санеты.* Укладанне, прадмова Алеся Карлюкевіча і Алены Ляшковіч. Мінск: Мастацкая Літаратура, 2019. Цытаваныя старонкі падаюцца ў квадратных дужках.

зразумець сутнасць яго паэзіі і адчуць настрой, які перадае ў сваіх санетах беларускі паэт.

Сярод тэхнічных момантаў выканання перакладу ў першую чаргу стаіць захаванне формы, рытма і рыфмы, якія ставіліся перакладчыцай у прыярытэце: санеты ёсць адной з галоўных форм так званай "цвёрдай" паэзіі, і патрэбна было паважаць аўтарскі выбар ужыць менавіта яе ў стварэнні перакладзеных твораў.

Гэтаксама варта звярнуць увагу да адаптацыі і ўжывання асобных, ключавых слоў і выразаў для творчасці аўтара, з якімі было абавязкова пазнаёміць і іншамоўную чытацкую публіку. Першае пытанне да рашэння – пераклад тапоніма "Беларусь" і прыметніка "беларускі": мы выбралі, як і Пасольства Рэспублікі Беларусь у Іспаніі, ухвалены ААН варыянт "Belarús", "belaruso" замест замацаваных у іспанскай мове "Bielorrusia", "bielorruso", у якіх фіксуецца элемент "Rusia", "ruso" ("Расія", "расійскі") [гл. санет 1, "El belaruso", ст. 48]. Таксама заслугоўвае нашую ўвагу шматзначнае для беларускай культуры слова "доля", якую іспанамоўная версія санетаў перадае ў два розныя спосабы: калі гаворка ідзе пра шчаслівую долю, назоўнік перакладаецца як "dicha" або "suerte" [літ. "шчасце", гл. санет 3, с. 49]. Калі, аднак, паэт піша пра горкую долю беларускага народа, негатыўныя канатацыі слова перадаюцца праз фатальнае гучанне старажытнага слова "sino" [літ. "лёс", гл. санет 6, "El despiadado sino" – літ. "бязлітасная доля", с. 51]. Немагчымым заданнем аказалася перадаць культурную значнасць, як і ролю ў творчасці Янкі Купалы, назоўніка "курган", які застаецца ў літаральным іспанамоўным перакладзе простым "cúmulo" [гл. санет 9, с. 53], бо асаблівасці выдання не дазвалялі акадэмічных тлумачэнняў для чытачоў. Надзвычай цікавым выпадакам быў пераклад уласнага імя князя Зыгмунта, вядомы ў іспанамоўным свеце як "Sigmundo" дзякуючы сусветна вядомай п'есе Педра Кальдэрона дэ-ля-Барка "Жыццё ёсць сон". У такой форме, адпаведна, імя і з'явілася ў перакладзе [санет 10, с. 53].

Такім чынам, хаця выкананая праца не атрымала міжнароднага розгаласу (у адрозненне ад пераклада выбраных твораў Максіма Багдановіча, які выйшаў у свет у 2017 годзе), у працэсе перакладу рэалізавалася грунтоўная праца, якая можа быць дапоўнена і распаўсюджана сярод іспанамоўнай чытацкай публікі ў будучых выданнях.

Яшчэ адзін, апошні, перакладніцкі праект, распачаўся ў 2020 годзе, па замове тагачаснага міністра інфармацыі Алеся Карлюкевіча: ведамства вырашыла апублікаваць двухмоўны, іспанска-беларускі зборнік выбраных вершаў Уладзіміра Караткевіча да 90 гадавіны пісьменніка. Перакладчыцы, аўтарцы гэтага артыкула, далі інструкцыі

выбраць 30 вершаваных твораў (на вольны выбар), і стварыць мастацкі пераклад, які б выйшаў у свет у Беларусі і распаўсюдзіўся б у Іспаніі. Выкананы пераклад[1] уключаў у сабе хрэстаматыйныя вершы, як "Беларуская песня", "Быў, ёсць, буду" і "Таўры", а таксама творы, якія палічылі асабліва цікавымі для іспанамоўнай аўдыторыі (напрыклад, верш "Глухі геній", прысвечаны мастаку Франсіска дэ Гойя). Таксама былі ўключаныя вершы, якія маглі дапамагчы іспанамоўным чытачам пазнаёміцца з беларускай культурай у больш шырокім сэнсе, як прысвячаны Караткевічам роднаму гораду верш "Орша".

Паколькі планавалася цэльнае двухмоўнае выданне, выкарыстаўся шэраг тлумачэнняў, хоць і нешматлікіх, для высвятлення незразумелых у Іспаніі і Лацінскай Амерыцы паняткаў і культурных элементаў: катэдральны сабор Святой Сафіі ў Полацку [верш "Беларуская песня"], полацкая княжна Рагнеда [верш "І сніў Адам"], і рака Аршыца [верш "Орша"]. Звярталася асаблівая ўвага на захаванне формы арыгінальных вершаў, каб перадаць мэтавай аўдыторыі не толькі глыбокія значэнні і сэнсы Караткевіча-паэта, а таксама яго вершаскладальніцкае майстэрства.

На жаль, праект, меркаваная дата выдання якога была прызначаная ў ліпені 2020 года, быў прыпынены пандэміяй каронавіруса і, магчыма, канчаткова спынены масавым пратэстным рухам, які пачаўся ў краіне ў жніўні гэтага года. Не выключаецца, з іншага боку, магчымасць яго выдання ў Іспаніі з дапамогай незалежнага выдавецтва.

Галоўныя высновы нашай працы заключаюцца ў тым, што іспанамоўныя пераклады беларускай літаратуры карысныя і для мэтавай чытацкай аўдыторыі, і для беларускага грамадства: з аднаго боку, успрыманне беларускай літаратуры не меней паспяховае і пазітыўнае сярод іспанамоўных чытачоў, чым успрыманне любой іншай еўрапейскай літаратуры, і беларускія творы ёсць практычна абсалютнай навінай для іспанамоўных аматараў літаратуры. З іншага ж боку, папулярызацыя беларускай літаратуры і культуры ў цэлым, якія мелі доказаную вагу для афіцыйнага Мінска да пачатку пратэстаў 2020 года, будуць набываць яшчэ больш значную ролю ў выпадку змены рэжыма, або ў вяртанні міжнародных адносінаў цяперашнімі ўладамі, калі зменіцца сацыяльна-палітычная сітуацыя.

З тых прычын, выкананне перакладаў галоўных твораў беларускай літаратуры на іспанскую мову – патрэбны і перспектыўны занятак, у якой аўтарка гэтай працы працягне працаваць у будучыні (пачатыя праекты перакладаў твораў Яна Баршчэўскага і Анатоля Сыса). Маем надзею, што прыступяць да працы і іншыя перакладчыкі,

[1] Неапублікаваны.

навукоўцы і выдаўцы, якія змогуць развіваць актыўнасць і супрацу ў дадзенай галіне.

**Бібліяграфія:**

**Літаратура:**


Bogdanovich, M. *La torre de la paz.* Mónica Gutiérrez Serna (ілюстрацыі), Anastassiya Kouzmenko Mikhailova (пераклад). Thule, Barcelona 2015.

Анапрэенка, Н. Я. *Фальклорны кампанент у творчасці М. Багдановіча*. Карповские научные чтения: сб. науч. ст. Вып. 7: в 2 ч. Ч. 2, редкол.: А.И. Головня (отв. ред.) [и др.]. «Белорусский Дом печати», Минск 2013.

Багдановіч, М. *Згукі маёй бацькаўшчыны (Ecos de mi tierra*). *Выбраныя творы.* Пераклад Анхелы Эспіносы. Ediciones Irreverentes, Мадрыд 2017.

*Беларускія пісьменнікі: 1917-1990*. Укладальнік: А. Гардзіцкі. Мастацкая літаратура, Менск 1994.

Жыркевіч, Т. І. *«Смерць шэршня» як рэцэпцыя М. Багдановічам сербскага эпасу*. Актуальныя пытанні лінгвістыкі, лінгвастылістыкі і лінгвакультуралогіі: да 75-годдзя з дня нараджэння прафесара М. В. Абабуркі : матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, 20 мая 2016 г. пад рэд. В. М. Шаршнёвай. МДУ імя А.А. Куляшова, Магілёў 2018.

Клімуць, Я. І. *Творчасць Максіма Багдановіча ў кантэксце французскай паэзіі другой паловы XIX - пачатку XX ст.* Восточнославянские языки и литературы в европейском контексте: сборник научных статей по материалам III-й Международной научной конференции (14-15 октября 2011 г.) под ред. Е. Е. Иванова. МГУ имени А.А. Кулешова, Могилев 2012.

Купала, Я. *Санеты.* Укладанне, прадмова Алеся Карлюкевіча і Алены Ляшковіч. Мастацкая Літаратура, Мінск 2019.

Стральцоў, М. *Выбраныя творы*. Уклад. і камент. Міхася Скоблы, прадм. Анатоля Сідарэвіча. Беларуская навука, Мінск 2015.


**Інтэрнет-крыніцы**


**https://nn.by/**

## ПЕДАГОГІКА, ПСІХАЛОГІЯ, АДУКАЦЫЯ

Александр Мурашов[1]

# Познание мира в познании языка

Aleksandr Murashov

# Knowledge of the world in the knowledge of language

***Ключевые слова***: детская речь, ассоциация, «якорь», контекст, языковое мышление, словесный знак, апперцепция, понимание.

**Key words:** children's speech, association, "anchor", context, language thinking, verbal sign, apperception, understanding.

**Abstract:** The article raises the question of the functioning of the" individual semantic context " of the word in the child's consciousness, in his perceiving and speech-generating activities. The initial premise that language "disguises thoughts" forms a special type of thinking and special associative analogies in children's perception of speech. Познание мира в познании языка

Всемирная история, века существования и развития человеческой цивилизации – и биография одного-единственного человека: сопоставимы ли они? Для истории – разумеется, нет. Для человека – вполне сопоставимы. Ведь, обретая познания, адаптируясь к воззрениям и требованиям социума, ребенок, юноша, взрослый человек проходит тот путь, который прошло общество – от самой колыбели культуры и цивилизации до того этапа, на котором находится ныне. Человеческое «я», способное «примерять» на себе последовательно концепты «ребенок», «взрослый», «родитель», – результат интенсивного самопознания и мироосмысления, взаимодействия индивидуального и социального, природного и духовного. «Человек рождается как причуда природы, находясь внутри природы и вместе с тем превосходя ее. Взамен инстинктам ему приходится искать принципы, по которым он будет действовать и принимать решения»[2]. Поиски таких принципов зачастую приводят к слову как к некоему отблеску сияния Мирового Органона, а то и просто – как к частице ноосферы, с которой связан человек в процессе поиска и утверждения своего «я».

Освоение мира через освоение слова – путь не всегда продуктивный, ведь в слове – только бледная, а часто – еще и безжизненная копия явлений окружающего, на которое это слово должно указывать. Важно, чтобы коммуникативное намерение ребенка

---

[1]Беларуская Акадэмія, кандидат филологических наук, доктор педагогических наук, Гродно, Беларусь.

[2] Э. Фромм.*Психоанализ и этика*. Москва, Республика, 1993.с. 264.

было определено не возможностями слова вообще, не его значением как таковым, а возможностями и значением применительно к той ситуации, в которой в данный момент находятся ребенок, открывающий для себя мир, и его собеседник, способствующий этому процессу. «Ситуация и контекст – это два источника, питающих в каждом конкретном случае точную интерпретацию языковых высказываний»[1]. Как стена дома может казаться чересчур темной на фоне рассветного неба, а на фоне грозовой тучи – наоборот, выглядеть неожиданно светлой, – так слово в разных контекстах и разных ситуациях обнаруживает совершенно различные светотени и рефлексы, к появлению которых ребенок не был подготовлен своим опытом познания мира в слове.

Когда-то дети, услышав родительское: «А вот и автомат», разочарованно останавливались у автомата, продающего газированную воду, – слово «автомат» вызывало у детей послевоенного поколения совершенно другие ассоциации, далеко не столь миролюбивые. Первоклассник, услышав от старшего брата, что на химии изучают «составы», принимается листать учебник химии в надежде отыскать там изображения знакомых ему составов – железнодорожных. Те же ассоциативные аналогии заставляют девчушку, недавно ставшую школьницей, на предложение изобразить линию задуматься: она не научилась рисовать рельсы, а единственная известная ей «линия» – также железнодорожная! «…В поле нашего зрения существо языка оказывается всякий раз лишь в той мере, в какой мы сами оказываемся в его поле, вверены ему».[2] М. Хайдеггер, принципиально исходящий из мысли о том, что «сущность человека покоится в языке», что нет вещи, если нет обозначающего ее слова, – подчеркивает, что человек и язык равновеликие категории, характеризующиеся имманентной подготовленностью к диалогу одного с другим.

Познавая мир, человек познает слово о мире. Однако «мир не входит в меня пассивно. Предстоящий мир зависит от моего внимания и воображения, от интенции моего сознания».[3] Эта интенция подготовлена предыдущими ситуациями; она апперцепционно вбирает в себя опыт предыдущего познания и предыдущего словоупотребления. Различия такого опыта у собеседников, один из которых – ребенок, порождает так называемый тезаурусный барьер общения, при котором внешне расположенные к диалогу коммуниканты неожиданно не могут друг друга понять. Как исключить непонимание, этим барьером

---

[1] К. Бюлер.*Теория языка*. Москва, Прогресс, 1993, с. 136.
[2] М. Хайдеггер. *Время и бытие*. Москва, Республика, 1993,  с. 272.
[3] Н. А. Бердяев. *Я и мир объектов* [в:] Н. А. Бердяев. *Философия свободного духа*. Москва, Республика, 1994, с. 247.

обусловленное? Как понять, какое из значений слова – возможно, предельно индивидуализированных – имеет в виду собеседник?

Рассмотрим пример. Школьник прибегает после уроков и объявляет, что им дали задания к следующему занятию рассказать о местных боевиках. Когда мать, которой он об этом сообщил, интересуется, откуда в здешних местах боевики (разговор велся на западе Беларуси), сын, ничего не подозревая, уточнил фамилии «боевиков» – это командиры партизанских отрядов, когда-то действовавших в тех местах. Мать вздохнула облегченно и радостно: слово «боевики» для нее значило совсем иное!

Второклассница удивленно узнала, что у ее дальнего родственника отец – говорил с «конструктором». Она хихикнула: «А зачем он взял с собой конструктор?». Собеседник, ровесник, не понял ничего. А оказалось, для второклассницы слово «конструктор» означало вовсе не профессию, не род занятий, а металлические рейки и шайбочки, из которых можно собрать домик или корабль!

Смысловое рассогласование, рожденное неудачной «подсказкой» имеющегося опыта, способно привести и к гораздо более серьезным последствиям, чем мучительная пауза в диалоге, а потом – столь же мучительные попытки понять, что атрибутирует слово в индивидуальном смысловом контексте собеседника. Мальчишка, играя в «войнушку», палил из пластмассового пистолетика, но… панически боялся оказаться в армии. Почему, – он и сам не знал; похоже, его боязнь не имела каких-либо рациональных мотиваций. Но неожиданно проговорился, что в армии солдаты живут в казарме: последние слова он сопроводил выражением суеверного ужаса, прозвучавшего и в голосе, который стал напоминать лепет смертельно перепуганного человека. Вот она, разгадка, которой менее всего ожидали родители. Когда-то сына, совсем маленького, отец водил в фабричную казарму, где жили его тетки; с этим значением слова «казарма», ассоциировавшегося с бесконечными мрачными коридорами, ребенок и соотнес «казарму», где ему предстояло жить. Слово «казарма», вошедшее в прочную ассоциативную связь с жилищем отцовых теток – темной кирпичной громадой, словно нависающей над фабричными улочками, – и стало причиной фобии; нужно было «вернуться» в ситуацию непроизвольного и непредусмотренного «якорения», чтобы понять причину страха и сделать очевидный вывод: восприятие слова кардинально меняет мир, в котором живет человек, отношение к этому миру, к его проявлениям.

По мнению Э. Сепира, язык может определять понимание мира человеком. Говоря о возникновении подтекста (а в наших примерах именно он оказал существенное воздействие на восприятие и функционирование слова), М. Я. Поляков замечает: «В становлении

образа возникает процесс идентификации прямого и переносного значения, своеобразного двоемыслия».[1] Такого рода подтексты, возникшие в прецедентном коммуникативном акте, способны были оказаться «якорями», совершенно изменившими восприятие информации и формируемую этой информацией картину.

Диалог взрослых, немолодых уже людей. «Я сегодня решила все задачи», – сообщает одна его участница. Другой, пытаясь представить, что имеется в виду, вспомнил: собеседница решала задачи к ЕГЭ, которые она, учитель математики, собиралась поставить перед классом. И не просто решала – а снабжала их методическими выкладками. Так, что получилось настоящее авторское пособие по курсу. Но без этого знания выражение «решить все задачи» могло вызвать самые разные ассоциации, уводящие от предмета!

Знание прецедентного контекста и ситуации, повлиявшей на употребление слова, – желательное условие для его понимания. Но как быть, если знания этого – нет?! И значит ли, что под каждое слово человек, познающий мир, должен подводить один, и только один смысловой базис из своего индивидуального смыслового контекста? Э. Фромм говорит о негативных результатах такой рационалистичности; он видит в этом «атрофию генеративной способности». Ребенок такой «атрофией» не страдает; его речь – воплощенное творчество, рождение новых смыслов, преодоление рамок стандартизированного, «взрослого» восприятия феноменов реальности.

Совершая познание мира через познание слова, ребенок зачастую отыскивает в этом слове грани, порожденные какой-либо конкретной ситуацией (например, та же «казарма») – и сообразно им строит последующее словоупотребление и слововосприятие.

5-летний ребенок вздрогнул, когда в магазине, где он с отцом стоял в очереди, натужно ухнув, завыл и загрохотал вентилятор – такие звуки электромоторов, имитирующие вой урагана и грохот землетрясения, были тогда приняты.

– Это вентиляция, – перехватив взгляд сына, пояснил отец. Нужно ли говорить, что значение слова «вентиляция» у чада соотносилось не со свежим воздухом, а с теми звуками, заставившими его вздрогнуть?

Через какое-то время мать ребенка принялась открывать окно в поезде, где они ехали:

– Сейчас будет вентиляция.

---

[1] М. Я. Поляков. *Вопросы поэтики и художественной семантики*.Москва, Советский писатель, 1986, с. 159.

На малыша страшно было смотреть: побледнев и явно готовясь расплакаться, он заткнул пальцами уши. А в чем дело? Оказалось, он был уверен, что за окошком, на станции, на которой они остановились, он ждал появления гудящего и завывающего вентилятора! Будем думать, что желание матери открыть окно не счел фактором изощренного издевательства или желанием получше расслышать заветные звуки…

Нужно ли говорить, что дитя несколько лет панически боялось вентиляторов, а само слово «вентиляция», оказавшееся «якорем», было способно вызвать у ребенка нервную дрожь?

«Привязанность» детского восприятия слова к ситуации его первичного употребления может быть чревата самыми неожиданными последствиями. И речь должна идти о том, как такую неожиданность минимизировать, чтобы способствовать формированию, как говорят взрослые, «адекватного» представления о мире в огранке слова. Детская рецепция всегда индивидуальна; предвосхитить ее – задача невозможная. Значит, важно исследовать реакции ребенка, чтобы не допустить патологических (опять же, по мнению взрослых) отклонений, порожденных детским индивидуальным смысловым контекстом. «Язык переодевает мысли» (Л. Витгенштейн); денотат, означенный в слове, может быть совершенно разным в представлении говорящего и воспринимающего. Тем более – когда один из собеседников лишь формирует то, что мы традиционно именуем опытом восприятия и означивания. Такого рода «переодевание» приводит к необходимости:

- говоря о чем-либо, иметь в виду вероятный опыт собеседника; выход за пределы этого опыта ведет к вероятному искажению денотата;
- сопровождать высказывание «конгруэнтными» паралингвистическими атрибутами, интонированием и паузированием, дополняющими вербальную основу;
- исключать «чистый» монолог, разбавляя его вопросами, обращениями, устанавливающими коммуникативный режим;
- обращаться к уже воспринятому собеседником, помещать новое (рему) в контекст известного (темы), чтобы новая информация всегда опиралась на усвоенное ранее.

Всё это – абрис очевидных диалогических приемов; они не должны заслонять главного: работа над формированием и закреплением вербального знака, способного стать средством и атрибутом познания мира, всегда индивидуальна. Специфику детского восприятия можно лишь учитывать, но ни в коем случае невозможно исключить.

– Сейчас будет Пушкин, – говорит мать дочери, с которой они едут к родственникам. Девочка в свои 6 лет знакома с поэзией

Пушкина; и в нужно ли говорить, кого ждет она увидеть в окне, в которое напряженно смотрит. Разумеется, не знающая, что город называется Пушкин, она менее всего ожидает увидеть за окном городские дома.

Другая девчушка, второклассница. Она сделала «иллюстрацию» к роману «Евгений Онегин», который бабушка взяла за обыкновение читать ей по вечерам. «Вот Евгений Онегин», – объявляет юная художница. – «А вот брегет». Действительно, кем может быть брегет, который «прозвонит ему обед», как не мужчиной с колокольчиком? Его она и нарисовала.

Дети познают мир в слове, обнажая этим значительный пласт формирования общечеловеческого сознания. Слово-как-знак для них становится словом-сущностью, способным не только фиксировать явления окружающего, но и это окружающее формировать. О «переодевании мыслей» дети не знают и не задумываются. Можно сказать, что у большинства из них, помимо унифицированных единиц языка, есть же «языковые очки», которые способны совершенно изменить стандартные явления. Понимать или исследовать факты таких «отклонений» от конвенциональных значений слов в сознании и эмоциональной сфере ребенка – область предстоящих психолингвистических исследований, способных пролить свет на развитие языкового мышления человека в целом.

Известно: люди, говорящие на разных языках, имеют различные «картины мира». Точно так же говорящие на одном языке, но в разной мере овладевшие его лексической базой, будут иметь неодинаковое представление о системе денотатов, предметов, воплощенных в языковых знаках. В немалой степени такие несоответствия проявляются при употреблении слова в переносном, метафорическом или метонимическом осмыслении.

– Наклони носик! – командует ребенку, держащему в руке чайник, мать. Он, не понимающий, чего от него хотят, смотрит исподлобья, пытаясь «наклонить носик» вместе с лицом: иного «носика» он не знает.

– Это дерево, – с гордостью показывает новые оконные рамы соседка. Маленькая гостья недоумевает: какое же это дерево, если это – окно?! Дерево (она уже знает) – это береза, сосна, даже осину с известной натяжкой она готова считать деревом, но то, что показывает соседка, никак этому понятию не соответствует!

– Это – Швейк! – уверенно объясняет 6-летний малыш своему приятелю, показывая статуэтку, подсвеченную изнутри лампочкой. Почему Швейк? Он видел светящуюся пластмассовую фигуру над приборной панелью в автобусе, у своего соседа. «Это Швейк», – прокомментировал тогда отец, видя, с каким любопытством сын

разглядывает светящуюся фигурку. А для него – естественно, не знающего о герое Ярослава Гашека, – любая такая фигурка, изнутри подсвеченная лампочкой, стала «Швейком»: «якорем» оказалось не изображение человека в австро-венгерской военной форме, а нечто светящееся.

Что окажется таким «якорем», заранее думать бессмысленно. Какая деталь увиденного окажет наиболее яркое впечатление, – тоже. Исследования детской речи могут носить только эмпирический характер, не претендуя на прогностические подсказки и теоретические обобщения.

Одно остается непреложным: познавая мир через слово, ребенок наделяет это слово рефлексами имеющегося опыта, погружая его в свой опыт – в зависимости от этого мир и будет расцвечен теми или иными красками, наполнен разными звуками, увенчан не похожими друг на друга прозрениями. Мир, постигаемый в слове и через слово…

**Библиография:**

**Литература:**

Бердяев Н. А. *Я и мир объектов* [в:] Н. А. Бердяев. *Философия свободного духа.* Москва, Республика, 1994.

Бюлер К. *Теория языка* .Москва, Прогресс, 1993.

Поляков М. Я. *Вопросы поэтики и художественной семантики.* Москва, Советский писатель, 1986.

Фромм Э. *Психоанализ и этика*. Москва, Республика, 1993.

Хайдеггер М. *Время и бытие* . Москва, Республика, 1993.

